# ВОСЬ ТАКАЯ ЭЛЕКТРОНІКА





Прыкладна 700 гадоў таму назад паэт арагонскага караля Раймонда Лулій прыдумаў дзіўную машыну, праз якую можна было «зразумець паводзіны ўсіх рэчаў з дапамогай вылічэнняў».

Цяжка сказаць, ці была тая машына сапраўды такой кемлівай, але адно несумненна: ідэя Лулія стварыць «думаючую сістэму» знайшла падтрымку не толькі ў Норберта Вінера, Джона фон Неймана і іншых заснавальнікаў сучаснай кібернетыкі, але і ў... навучэнцаў Мінскага СПТВ-115.

Наогул, у вучылішчы рыхтуюць не электроншчыкаў, а станочнікаў, наладчыкаў, слесараў, кантралёраў... Але дастаткова наведацца ў майстэрні 115-га, каб зразумець: не ведаючы электронікі, тут рабіць няма чаго. Кожны пяты станок у майстэрнях — з лікавым праграмным кіраваннем. Ды дадайце яшчэ паўтара дзесятка прамысловых робатаў, з якімі таксама трэба ўмець наладжваць адносіны.

Таму не дзіўна, што інфарматыка — адзін з асноўных прадметаў у вучылішчы. І, бадай што, адзін з самых цікавых. Тым больш, што зроблены хлопцамі з гуртка «Алгарытм» персанальны камп'ютэр «Фатон» дазваляе на ўроку пагуляць у «футбол», «тэніс», і нават у «марскі бой».

Заканчэнне на стар. 21



**ГАСПАДАР**

чытайце на стар. 11

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**крыніца**

№6
1988

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай і беларускай мовах

**ПІШЫЦЕ:**
**220807**
**г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва, 11**

Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта
Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 19.04.88.
Падпісана да друку 19.05.88.
АТ 06195.
Фармат $60\times90^{1}/_{8}$.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 6.
Ум. фарб.-адб. 18.
Ул.-выд. арк. 9,0.
Зак. 922.
Тыраж 20 579 экз.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва
ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79

# ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

## ТРОХІ ПРА МАРАЛЬНАСЦЬ...

**Вельмі прыемна было з вамі пазнаёміцца. Бачу, што вы найлепшым чынам працягваеце выдатныя традыцыі беларускага маладзёжнага друку. Сёе-тое зацікавіла мяне асабліва: нарэшце ў савецкім друку з'явіліся сапраўдныя коміксы! Я мастак, шмат што ўмею, але гэты жанр — мая першая і адзіная любоў у мастацтве, так што прапаноўваю супрацоўніцтва.**

**Вядома, што на любую тэму можна пісаць нудна, а можна наадварот. Вы пішаце «наадварот», карацей кажучы, цікава. Мне, напрыклад, цікавы перш за ўсё жывы чалавечы стыль выкладу. А большасць матэрыялаў любой перыёдыкі ўяўляюць сабою даўно пройдзеныя элементарныя ісціны. Вы ўжо прабачце, але я эрудыт. Разумею, што жыццё не стаіць на месцы, растуць новыя пакаленні, ім таксама з асноў пачынаць трэба, але і пра нас, «вопытных», не забывайцеся.**

**Цяпер, раз вы прасілі быць шчырымі, набярыцеся цярпення, бо я хачу прапанаваць некалькі патрэбных, на мой погляд, тэм.**

**Год таму я паехаў на Далёкі Усход па камсамольскай пуцёўцы, трапіў у Камсамольск-на-Амуры. Божа, каб вы ведалі, колькі слёз і крыві льецца там з-за свалачэй-«хімікаў»! Мы, мужчыны, дзеля доўгага рубля на ўсё гатовыя, многае можам вынесці, але навошта ж хлуслівая камсамольская рэклама запрашае ў гэтае пекла жанчын!! Якіх толькі да іх прыставанняў не бачыў я на свае вочы!..**

**Якая жывая душа вытрымае хоць бы год пастаянна бачыць дзяўчат, якія ехалі па шчасце, а знайшлі пашкуматаныя нервы і мора слёз! Разумею, што праблема не беларуская, не рэгіянальная, але даўно пара ўжо загаварыць пра гэта на ўвесь голас.**

**Трохі пра маральнасць... Мне здаецца, што з прастытуцыяй змагацца не трэба. Па-першае, яе няма юрыдычна, інакш кажучы няма самой па сабе. Калі жанчына «гуляе» не працуючы — ёсць артыкул за паразітычны лад жыцця, калі «спецыялізуецца» на іншаземных — ёсць артыкул за валютныя аперацыі. За венерычнае заражэнне таксама ёсць артыкул. А калі жанчына «гуляе», дзесьці працуючы ўдзень, і бярэ савецкімі рублямі, то, даруйце, не бачу крыміналу. Па-другое, з маральнага пункту гледжання менавіта вы, байцы ідэалагічнага фронту, спачатку навучыце мужчын абагаўляць слабы пол, прыходзіць да сябровак не з бутэлькай гарэлкі, а з кветкамі — тады сапраўды можна будзе гаварыць пра мараль... Заўважце, у матэрыялах абодвух з'ездаў (і партыйнага, і камсамольскага — я спецыяльна штудзіраваў) нідзе няма ні слова пра «выхаванне пачуццяў». Пра сям'ю ёсць, але як быць з «дасямейным» перыядам!..**

**Яшчэ прапанова, з той жа оперы, на тэму «самаўдасканальвання». Асабіста я стараюся «расці», па крупінках выскрабаю з літаратуры сапраўдны, класічны «добры тон». На жаль, пра яго можна прачытаць толькі ў падручніках для акцёраў ды хіба што ў букіністыцы маскоўскіх бібліятэк. Ці не дапаможаце вы ўсім нам? Навучыце нас паводзіць сябе, хоць бы элементарна.**

**І нарэшце апошняя тэма. Я чуў, што знакаміты «рускі мат» — зусім не рускі, а дастаўся нам ад мангола-татараў. Калі гэта так, то цудоўна, бо гэта добры аргумент у барацьбе за чысціню мовы. Цікава, што думаюць з гэтай нагоды прафесійныя філолагі!**

**Віталь ЧАПРУНОЎ,**
**23 гады,**
**г. Гомель**



## КАЛІ ВЕРНЕЦЦА СТАРЫ ЧАС...

Я вельмі часта бачу па тэлебачанні ўжо немаладых людзей, якія палымяна выкрываюць той час, што называюць цяпер «застойнымі гадамі», і дзіўлюся іх бессаромнасці і цынізму. Моташна глядзець, як яны са слязьмі на вачах гавораць пра паламаны лёс перадавых людзей «таго» часу! Хочацца спытацца ў іх: чаму ж вы раней не выкрывалі недахопы і заганы? Ці вы даведаліся пра іх толькі цяпер? Чаму вы не сталі ў адзін строй з адзінкамі, якія змагаліся за тое, што мы цяпер ажыццяўляем?

Я ўпэўнены: калі б вярнуўся цяпер стары час (барані божа!), яны з такім самым грамадзянскім пафасам наваліліся б на перабудову, як цяпер на «застойныя» з'явы. Можа, я ў чымсьці памыляюся, дык дапамажыце мне тады разабрацца!

**Барыс Стэпо, 17 гадоў,**
г. Мінск

## ПАМЯТАЙЦЕ ЎСЁ!

**За адзін кіламетр ад мінскага мікрараёна Зялёны Луг-6 знаходзіцца месца, дзе ў 1937—1938 гг. расстрэльвалі «ворагаў народа». Тэрыторыя была абнесена шчыльным трохмятровым плотам, уезд ахоўваўся. Расстрэльвалі штодня. На расстрэл прывозілі на «чорным крумкачы», звычайна ўначы. Напярэдадні выкопвалі яму памерам 2×2×2 метры. Пасля таго як яна запаўнялася ахвярамі, зверху насыпалі зямлю і саджалі дрэва. Жыхары навакольных вёсак добра ведалі пра тое, што адбывалася за гэтым плотам. Некаторыя з іх жывыя і цяпер. Сёння на гэтым месцы расце сасновы лес, і тысячы мінчан, бестурботна адпачываючы тут летам, нічога не падазраюць аб тым, што адбывалася калісьці.**

**Паважаная рэдакцыя, ці нельга аднавіць імёны людзей, расстраляных у гэтым месцы, а таксама арганізаваць кампанію па збору сродкаў на будаўніцтва ім помніка!**

**А. МАРАЧКІН,**
г. Мінск

## ГУЛ ТРАКТАРА ЗА ВЁСКАЮ

Здавалася б, вясна на двары, можна пачуць гул трактара ў полі. І падумалася, што ў трактарыстаў працы шмат. Так, шмат. Толькі гэты гул зусім іншы, трывожны... Мая вёска знаходзіцца за тры кіламетры ад цэнтра саўгаса, яна вельмі маленькая — усяго 20 домікаў. А за ёю — вялікі саўгасны сад. І вось гэты сад пачалі выкарчоўваць. Я не ведаю, хто даў загад аб яго знішчэнні, ведаю толькі, што нічога змяніць нельга. Знішчаюць прыгажосць, абы павялічыць поле. Няўжо на гэтым кавалачку зямлі збяруць невядома які ўраджай! У садзе шмат добрых яблынь і груш, але саўгас не меў і не хацеў мець ад іх прыбытку. Не было вартаўніка, і кожны мог абрываць плады колькі хацеў. А калі б паставіліся па-гаспадарску, усе былі б у выйгрышы.

А яшчэ ў цэнтры саўгаса, у вёсцы Дворышча, знішчылі дарогу, паабапал якое раслі кусты. Дзятва любіла гэтае месца, яно было адзіным, дзе можна было пагуляць, а летам там заліваліся салаўі і было вельмі шмат малін. Некалькі дзён там працаваў бульдозер — і ўсё, ужо нічога няма.

Людзі, што ж гэта выходзіць? Мы вучым дзяцей любіць прыроду, ствараем «зялёныя патрулі», а загад нейкага начальніка разбурае ўсё, што ствараецца, а заадно і веру ў дабрыню і прыгажосць. Як пасля гэтага глядзець дзецям у вочы? Куды схавацца ад гулу трактара за вёскаю? Заткнеш вушы, а яго ўсё роўна чуваць...

**Тамара СМОЛЬСКАЯ,**
**піянерважатая,**
Мінская вобласць

## ЗАКОН ПАВІНЕН БЫЦЬ БОЛЬШ СУРОВЫ

**Напісаць вам мяне вымусіў ліст М. І. Кашалевіч («А ці не мяккі закон?»). Гэтае ж пытанне я задавала сабе неаднойчы, дый не толькі сабе. Але дакладнага, яснага адказу мне ніхто даць не змог. Можа, вы дапаможаце разабрацца?.. Мяркуйце самі. За забойства ў нас у краіне даюць каля васьмі гадоў (прыкладна). Адсядзеўшы тэрмін, забойца выходзіць на волю, будзе жыць далей, а чалавека, якога ён забіў, ужо няма і ніколі не будзе. Да таго ж, ён нанёс удар родным і блізкім забітага. Хіба ж можна такіх людзей пакідаць у грамадстве? По-моймму, не. Бо ў чалавеку, які ўзняў руку на другога чалавека, няма ўжо нічога чалавечага. Цяпер вельмі многіх судзяць за згвалтаванне. І часам гэтыя «героі» адседжваюць нейкія два-тры гады, а яны ж забіваюць фактычна чалавека, яго душу. Большасць з пацярпеўшых дзяўчат становяцца да ўсяго абыякавымі, перастаюць верыць у людзей, а гэта ж страшна! Многія пасля згвалтавання становяцца прастытуткамі, бо ім «усё роўна няма чаго губляць». Словы, якія я ўзяла ў двукоссе, некалі вельмі даўно гаварыла мне лепшая сяброўка.**

**Той, хто ўкладаў законы, напэўна, ні разу не адчуваў гэтага жаху, калі некага са знаёмых або блізкіх забіваюць не на вайне, не ў катастрофе, а, як кажуць, з-за вугла, з падваротні. На Русі толькі за крадзеж чалавек пазбаўляўся рукі, а ў нас за забойства ён атрымлівае некалькі гадоў. Па-мойму, нашыя законы павінны быць намнога больш суровыя.**

**Галіна НЕБЫШЫНЕЦ,**
**17 гадоў,**
г. Барысаў

## ДЗЯЎЧАТКІ ТАКСАМА ДОБРЫЯ...

Вы абмяркоўваеце тэму згвалтавання... Вось прачытаюць людзі гэтыя лісты і падумаюць, што моладзь страшная пайшла, што хлопцы сталі нейкія не такія. А па-мойму, уся справа ў тым, што дзяўчынкі змяніліся. Раней тое, што цяпер называюць згвалтаваннем, не радзей бывала, але тады пра гэта не надта шмат гаварылі. Да чаго дайшло: пасля полавых зносін, на якія амаль усе дзяўчаты ідуць самахоць, яна раптам заяўляе: ці праз тыдзень пакладзі мне 1000 рублёў, ці я іду ў міліцыю. І паспрабуй давядзі, што ўсё было добраахвотна! Да таго ж, яна можа сабе і сінякоў наставіць, каб доказы былі пэўныя. Дык якое ж выйсце з гэтага становішча? Бо чаго ж хочаш — не забароніш.

**Уладзімір КУЗЬМОЎ,**
г. Віцебск








# СКОНЧАН БАЛЬ, ПАГАСЛІ СВЕЧКІ...

Наталля ГРОМАВА




...Так усё спакойна, ціхамірна, гарманічна там, за вагонным акном. І нават тлустыя чорныя вароны, што замерлі на галінах дрэў, зусім не сапсуюць гэтай ціхай, трохі сумнай і ўсё ж — нейкай прыўзнята-чароўнай карціны.

— А вы куды едзеце? — нечакана пытаецца сімпатычная суседка, якая сядзіць насупраць. Твар у яе авальна-выцягнуты, вочы зеленаватыя, з доўгімі вейкамі. Стомленыя. Без бляску. І ўся прыгажосць гасне.— Я ў Жлобін вось еду,— крыху памаўчаўшы, зноўку, нібы знарок, працягвае яна.— А вы, цікава, не туды?

— Туды. У камандзіроўку. Па пісьму.

— А-а...— ківае з разуменнем.— З-за дзяўчын, напэўна?

— Ага. З-за іх.

— А вы ведаеце, як яны цяпер на кемпінг лазяць? Закручваюцца ў цэлафан — і ў машыны са смеццем. На самае дно. А як толькі машына аказваецца на замежнай тэрыторыі — выгружаюцца.

«Дзень добры! Звяртаюцца да вас дзяўчаты горада Жлобіна. ...У нашым горадзе большасць дзяўчат ва ўзросце ад 14 да 20 гадоў лічаць: быць сучаснай — гэта значыць быць падобнай на заходнюю моладзь. Ужываць наркотыкі, піць, курыць, займацца прастытуцыяй (прабачце нам за выраз)...»

Такі ліст даслалі ў рэдакцыю сяброўкі Валя Смятаніна і Ларыса Татарынава. Даслалі ў надзеі на тое, што «хто-небудзь прыедзе, на ўсё гэта паглядзіць і што-небудзь як-небудзь выправіць»,— як яны самі растлумачылі мне пры сустрэчы. Мы размаўлялі доўга. Валя, жвавая, зіркастая, звонкім дзявочым голасам уводзіла мяне ў курс справы, пералічваючы колькасць «групавых», здзейсненых у апошні час жлобінскімі хлопцамі, а таксама фармуліроўкі судовых прысудаў накшталт «чатыры ўмоўна», «два ўмоўна» так, нібы размова ішла пра модныя шлягеры ці зададзеныя ў тэхнікуме ўрокі.

— І ўсяго гэтулькі? — абурана пыталася дзяўчынка.— За «групоўку» — умоўна?!

Слухала я ўсё гэта і не магла прыгадаць, каб у час майго ранняга юнацтва існаваў такі жаргон, не кажу ўжо пра з'яву, якая яго нарадзіла.

— Ды што там «групоўкі»...— задуменна вымавіла Ларыса. Першую частку размовы яна сарамліва маўчала, даючы магчымасць выгаварыцца сяброўцы. І вось узняла на мяне глыбокія цёмна-сінія вочы, румянец разліўся на ўсю шчаку...— Сорамна глядзець на дзяўчат. Ходзяць на кемпінг да іншаземцаў, а потым валяюцца пад плотам, бляшанкі з-пад аўстрыйскага піва кідаюць на дарогу...— і сарамліва змоўкла. Нібы адчувала сябе вінаватай за ўсё, што робіцца ў яе горадзе.

— А хто, як вы думаеце, вінаваты? — пытаюся раптам у сябровак.

Дзяўчаты моўчкі пераглядаюцца. І выходзіць у выніку, што вельмі ў многім, паводле іх меркавання, вінаваты жлобінскі камсамол, які «не працуе», «не выхоўвае», «не дапамагае», «не забаўляе» і яшчэ шмат чаго «не робіць».

Прачытаўшы ліст юных жыхарак Жлобіна, першы сакратар гаркома камсамола Генадзь Баранаў глядзіць проста ў вочы, кажа спакойна і грунтоўна: «Усё слушна. Сказаць няма чаго».

Але гэта ён так не таму, што сапраўды няма чаго сказаць. Жлобінскі камсамол, у адрозненне ад многіх іншых, якраз працуе. І ўсё, што ў яго магчымасцях, імкнецца зрабіць. Варта згадаць адну з апошніх яго ініцыятыў — пашпартызацыю пустых памяшканняў: сутарэнняў, трансфарматарных будак, кацельняў горада з мэтай пераабсталявання іх у маладзёжныя кафэ. А маладзёжны цэнтр!.. Гэтае будаўніцтва, можна сказаць, у нейкай ступені «надзея і апора» гаркома: хутка з'явіцца рэальная магчымасць мець і свой маладзёжны клуб, і дыскатэкі, і гурткі, і яшчэ шмат чаго, што, магчыма, зможа адцягнуць ад прывабных баракаў чужаземнага кемпінга думкі тых, хто ў іх яшчэ не быў. А можа, нават і спыніць паходы туды сённяшніх заўсёдніц...

«Я, Ларыса М., пражывала ў грамадзяніна Італіі... Калі выязджала дамоў, ён мне даў: 1) спагеці — 2 пачкі, 2) пельмені — 3 пачкі, 3) цукеркі — 1 каробка, 4) кава — 1 пачак, 5) цыгарэты — 9 штук, 6) рыба — 2 кансервы, 7) пячэнне — 3 пачкі, 8) парашок — 1 пачак, 9) піва — 4 ці 5 бляшанак, 10) «Фанта» — 2 бутэлькі, 11) «Пепсі» — 1 бутэлька, 12) ананасы — 1 бляшанка».

«Я, Ганна К., сапраўды пражывала ў кемпінгу спачатку з грамадзянінам Югаславіі... потым з яго сябрам... пасля з грамадзянінам Аўстрыі... ПНР...»

Перада мною, на стале аднаго з кабінетаў Жлобінскага РАУС, пухлы скорасшывальнік. У ім — каля трохсот тлумачальных. Не буду, вядома, сцвярджаць, што ўсіх трыста «наведніц» кемпінга прыцягвала сюды перспектыва атрымаць у падарунак спагеці з пельменямі (айчынны, дарэчы, вытворчасці). Былі, хаця і ў меншай колькасці, іншыя тлумачальныя. Такія, скажам, як ад Алены Каршковай, што працавала ў школе выхавацелькай.

«Першы раз я прыехала ў Жлобін у 1985 г. І наведала жылы гарадок, дзе жыў у гэты час мой каханы чалавек. З ім я пазнаёмілася ў г. Маскве выпадкова. Мы не бачыліся тры гады, і ён прыехаў працаваць сюды з-за мяне. ...Я думаю, не забаронена савецкім заканадаўствам і Канстытуцыяй СССР кахаць чалавека, не савецкага падданага. Мне 26 гадоў, і ўсе гэтыя гады я кахала гэтага чалавека. Ніякай антысавецкай прапаганды я не вяла, крымінальнымі справамі не займалася. Мая віна ў тым, што я кахала гэтага чалавека. 6 верасня я была папярэджана, што не павінна наведваць жылы гарадок, але парушыла гэтую забарону, у выніку чаго была затрымана органамі міліцыі...»

«Сказаць няма чаго»,— успамінаюцца словы камсамольскага сакратара. Дый сапраўды: што тут скажаш...

— Да мяне нашы камсамолкі амаль кожны тыдзень прыходзяць: падпісваць заявы на выключэнне з радоў у сувязі з выездам разам з мужам за мяжу. Я і на вас, прызнацца, падумаў...— збянтэжана прызнаўся тады, пры сустрэчы, Баранаў.

«Такое жыццё». Фраза банальная, але тлумачыць, як ні дзіўна, усё. «Жлобінскія прастытуткі» — фраза менш звычная, бо з'явілася ў друку і ва ўжытку параўнальна нядаўна. Грубая, амаль справядлівая. Але зноў жа... Усяго толькі амаль. Таму што ўласна «жлобінскіх», якія наведваюць кемпінг, толькі невялікі працэнт. Больш гомельскіх, але не нашмат менш і... маскоўскіх, ленінградскіх, мінскіх, а ўсяго колькасць гарадоў, з якіх раптам «рванулі» дзяўчаты ў надзеі — хаця надзеі ва ўсіх розныя,— вызначаецца лічбай 31. Геаграфія ж — амаль увесь Савецкі Саюз.

Колькасць тых, хто «шукае шчасця» ў Жлобіне, у апошнія тры гады пераваліла ўжо за трыста. У горадзе афіцыйна зарэгістравана каля ста законных шлюбаў. Гэтыя апошнія абставіны, скажам шчыра, прымусілі задумацца ахоўнікаў парадку і законнасці, якія спачатку, заўважыўшы нядобрае, выкаранялі зло метадамі няхітрымі і канкрэтнымі: спецыяльныя аператрады арганізоўвалі аблавы на легкадумных «суграмадзянак», выцягвалі іх з багажнікаў таксі і іншага транспарту, нягледзячы на здзіўленне ашаломленых іншаземных грамадзян, словам — вывуджвалі ўсюды, дзе «лазутчыцы» былі выкрытыя ў намеры перасекчы мяжу кемпінга і, адпаведна, маралі...

Аднак хутка ўсім давялося пераканацца ў тым, што ККД такіх метадаў і спроб уберагчы нашую моладзь ад заходняга ўплыву роўны калі ўжо не зусім нулю, дык ва ўсякім разе прыблізна блізкі да яго. Армія аматараў танных уцех не толькі не змяншылася, а з кожным днём павялічвалася. Прычым здзіўляла тое, што аматары гэтыя не толькі не саромеліся сваіх паводзін, а, наадварот, ставіліся, здаецца, да ўсіх тых, хто не пакаштаваў «замежнага жыцця» са спагадаю.

Такім чынам, навідавоку сітуацыя, у якой адзінкавыя, увогуле, хоць і нярэдкія факты перараслі ўжо ў сацыяльную з'яву. І калі разбірацца ў ёй падрабязна і ўсур'ёз, карціна выявіц-

ца змрочная. Стала трывіяльнай класічная фраза пра тое, што здароўе грамадства вызначаецца становішчам у ім жанчыны. Ужо ні для каго не сакрэт, што такая жаданая стагоддзе назад эмансіпацыя сёння ператварыла жанчыну, кажучы проста, у ламавога каня. Але як бы ні нагружаў яе прагрэс (?..) усемагчымымі ролямі, глабальнымі абавязкамі і сацыяльнымі функцыямі, прырода надзяліла прадстаўніцу «слабага» полу невыкаранільнай цягай да... слабасці. І сапраўдны мужчына для яе — чалавек заўсёды і ва ўсіх адносінах больш грунтоўны, мужны, надзейны. Мужчыну-рыцару можа даравацца многае, у той час як хаму і грубіяну — ніколі. Магчыма, гэтыя «атавізмы» жаночай псіхалогіі таксама адыгралі сваю ролю ў жаданні «куртызанак» нашых дзён быць «каханкамі на ўтрыманні»? Няхай не засмуцяць чытача гэтыя зняважлівыя словы, тым больш што ў працівагу ім кожны можа адразу ж успомніць, што жанчына сёння свабодная, раўнапраўная, сацыяльна значная. Так яно і ёсць. Толькі... ці трэба ёй гэтая самая сацыяльная значнасць?..

Адказвае на гэта само жыццё адною з многіх сваіх «люстраных граняў» — жлобінскай сітуацыяй.

Напісала. Задумалася. Ці не перабор? Яшчэ раз задумалася. «Мужчыны-рыцары, дзе вы? Ау!..»

Рэха.

— Паслухайце, а ці хацелася б вам пабываць, скажам... на сапраўдным балі? Ну, памятаеце, як Наташа Растова, напрыклад? Каб сукенкі, свечкі, кавалеры, музыка...— імкнулася, памятаю, высветліць у маладых дзяўчат канца XX стагоддзя, тых самых, што даслалі ў рэдакцыю ліст.

— Не, не хацелася,— катэгарычна адказала за сябя і за сяброўку Валя.

Заўважыўшы маё здзіўленне, з гатоўнасцю растлумачыла: — Каб хадзіць на балі, давялося б камандаваць сялянамі, а мы не згодныя.

Мая жлобінская камандзіроўка праходзіла напярэдадні 8 Сакавіка, аднак асобага ажыўлення ў гарадскім «мужчынскім асяроддзі» тут не назіралася. Зайшла, памятаю, у гарком дзяўчына-арганізатар і сумна развяла рукамі:

— Няма кветак... Можа, дапаможаце дастаць?

Камсамольцы, у сваю чаргу, паціснулі плячыма, і адзін з іх, неяк няёмка зірнуўшы на мяне, між іншым заўважыў:

— Там, у кемпінгу, праблем з падарункамі, зразумела, не будзе...

«Я хачу мець клапатлівага мужа,— заявіла мне, вокам не міргнуўшы, у «прыватнай» размове адна са жлобінскіх суразмоўніц, якая актыўна наведвае кемпінг,— хачу мець прыгожае моднае адзенне, быць хатняй гаспадыняю ў добрым доме... Я хачу быць сапраўднай жанчынай, нарэшце. А вы — прайдзіце па Жлобіне і паглядзіце, між іншым, на нашых хлопцаў, ад якіх за кіламетр півам з рыбай смярдзіць: толькі не раю хадзіць пасля шасці... Тады вы, мабыць, зразумееце, чаму ўсе кінуліся ў кемпінг. Там хоць дзень пражывеш — затое як чалавек. І мама мая мяне не асуджае,— сказала Люда (так яе звалі) у якасці свайго апошняга і самага важкага аргумента, страсянула русявай чупрынаю, какетліва агледзела сваю прыгожую фігурку, «усю ў замежным», і ганарліва пайшла прэч.

...Круглы стол засланы ўтульным хатнім абрусам. За сталом — сяброўкі Валя з Ларысай, Валіны мама і бабуля. Усе мы дружна п'ём чай, нетаропка гамонім. Некалі такія застольныя гаворкі былі прывычныя і натуральныя ў кожнай сям'і. Сёння хатнія сабраліся з нагоды прыезду «карэспандэнта». Сабраліся — і самі расчуліліся: як усё шчыра і душэўна... Таму, мабыць, што дзяўчаты не паспелі яшчэ «пайсці на павадку ў жлобінскай вуліцы»...

— А мы амаль нікуды і не ходзім,— сяброўкі гавораць сарамліва і крыху засмучана.— Вакол хуліганы, п'яныя... Бойкі... Б'юцца паміж раёнамі... Таму сядзім у асноўным дома. Ці ў тэхнікуме на занятках...

— А чаму вырашылі ў тэхнікум?

— Дык сельскагаспадарчы, аддзяленне аховы раслін! — кажуць амаль адначасова, з гонарам.— Трэба ж расліны некаму па навуцы ахоўваць: а то ж паглядзіце, што на палях робіцца!..

І зноў я падумала пра тое, што пры ўсёй складанасці, супярэчлівасці, пры ўсёй, часам, гідкасці таго, што бачым іншы раз, дабро ў чалавеку першапачатковае. І цяга да святла, прыгажосці, культуры, клопату аб усім, што побач,— паняцце, я сказала б, генетычнае, якое адрознівае род чалавечы ад усіх іншых, што насяляюць зямлю. Калі, вядома, з самага дзяцінства не дапусціць, каб гэтую самую «цягу» ўтапталі ў гразь. Хто яны, сённяшнія семнаццацігадовыя? У чым іх сутнасць? Што для іх мае сэнс? Чаго яны шукаюць? І ці шукаюць увогуле?..

— Як вы думаеце, якая павінна быць сучасная дзяўчына? — пытаюся.

— Гордая, сумленная, мяккая, смелая,— адказвае Валя.

— А ці сустракалі вы такіх у жыцці?

— Не.

— А ў вас існуе такое паняцце, як, скажам, «духоўнае жыццё», і што гэта ўвогуле, па-вашаму, такое?

— Ну, гэта калі чалавек духоўна багаты...— адказ нясмелы, няўпэўнены, адчуваецца, што тэма закранута нязвычная, каб не сказаць, чужая.

— А ці лічыце вы сябе духоўна багатымі?

— Не. Гэта ў нас не прынята. Засмяюць.

Мама і бабуля Валі сядзяць сцішаныя, узрушаныя. Выпадак дапамог ім, здаецца, прыадкрыць тое, што семнаццаць гадоў хавалася ў іх дзецях ад бацькоўскай увагі. І вось...

Раптам у вітальні пачуўся рэзкі тэлефонны званок.

— Гэта Мікола!..— Валя сарамліва глянула на ўсіх і пабегла да тэлефона.

«Ой, яна такая цікавая: пра нейкае духоўнае жыццё пытаецца — нібы з іншай планеты. Ты заходзь, сам паглядзіш»,— пачуўся яе прыглушана-ўзрушаны голас з вітальні.

Праз некалькі хвілін дзяўчына зноў увайшла ў пакой і аб'явіла шматзначна і ўрачыста:

— Гэта Мікола, мой сябра, звоніць. Ён, ведаеце, які добры і выхаваны?! Ён мне нават руку, калі выходзім з аўтобуса, падае, вы не думайце!

У яе голасе адчувалася сапраўднае захапленне.

г. Жлобін

ПАРТРЭТ ДЗЕЛАВОГА ЧАЛАВЕКА

# ГАСПАДАР

Леанід ЕКЕЛЬ

**Калісьці на гэтых землях (а іх ні многа, ні мала — 11 тысяч гектараў) месціліся 4 калгасы. Горкі лёс прыгарадных гаспадарак не абмінуў іх. У апусцелых вёсках засталіся адны старыя. Пульс у гаспадарак ледзь біўся. Трэба было нешта рабіць. І зрабілі: злілі дзве гаспадаркі ў адну.**

**Што ж у выніку змянілася? Ды анічога. Гэта было механічнае зліццё — і не больш. Выхад з прарыву мог адбыцца толькі пры спецыялізацыі і канцэнтрацыі вытворчасці на аснове сучасных тэхналогій. Але такую з'яву цыркулярам з раёна ці вобласці да жыцця не выклікаць. Патрэбна перш за ўсё асоба. Кіраўнік, які мысліць сучасна, валодае глыбокімі і шматбаковымі ведамі, дзейнічае смела, не зазірае ў рот кіраўніцтву, мае на ўсё свой погляд, які не здольны ў любых абставінах адказаць як лёкай: «Будзе зроблена...»**

**Аляксей Сцяпанавіч Скакун з тых старшынь, якія неабходныя вёсцы гэтаксама ж, як увесну неабходныя стылай зямлі цёплы дождж і сонца.**

**Надта стаміліся сяляне ад каруселі бясконцай змены старшынь. Ад іх пустых слоў і абяцанняў. Надта глыбока пранiклі ў сялянскую псіхалогію бацылы абыякавасці і паняверкі. А ці ж многа можа чалавек, які ва ўсё страціў веру!..**

**Скакун з пасляваеннага дзесяцігоддзя. Але вайна пакінула ў ім сваю адзнаку. Смуткам у вачах салдацкіх удоў. Жабрацтвам і галадам... Гэта стала ягонай горкай памяццю. І яна абуджала да справы, выклікала жаданне штосьці змяніць, хоць неяк аблегчыць жыццё калгаснікаў.**

**З дзяцінства адчуваючы на сабе ўладу зямлі, Аляксей Скакун ведаў цвёрда: ягоны лёс неаддзельны ад вёскі.**

**За свае 42 гады ён нямала перажыў. Ці ж не таму і сівізна ў валасах. І стома, якая раз-пораз мільгае ў вачах. Асабліва, калі чарговы раз ён натыкаецца на чалавечую подласць...**

**Вецер біў і біў у шырокія вокны Скакуновага кабінета і добра ўжо выстудзіў яго. А мы вялі нетаропкую гаворку — шчырую, сяброўскую, якой і холад не замінае.**

**Зазірнуў юрыст калгаса. Па тым, як таптаўся ён ля дзвярэй, няцяжка было зразумець, што нічога добрага ад ягонага візіту чакаць было нельга. Зразумеў гэта і старшыня.**

**— Ну што, зноў выклікаюць у суд? Ды колькі ж можна!! У мяне ўвесь дзень прападзе! І што гэта за суд, калі не...**

**Ён абарваў сябе на паўслове, і тут я ўбачыў, як у вачах старшыні мільгануў цень стомленасці. Не тае, натуральнае, пасля працоўнага дня, а глыбока прыхаванай усярэдзіне і нябачнай толькі да пэўнага часу...**

**— А што за суд, Аляксей Сцяпанавіч?**

**— Доўга расказваць. Давайце заўтра пойдзем разам. Па дарозе і пагаворым. А цяпер — паглядзім гаспадарку...**

**Абапал вясковага праспекта (а гэта і праўда праспект!) — рознакаляровыя хаты, такія аднолькавыя ў сваёй дыхтоўнасці, дагледжаныя і вонкава розныя. На кожным доме — разьба па дрэве. У суседстве з імі халодная цэгла і жалезабетон рабіліся нейкімі больш прывабнымі, цяплейшымі, што і казаць, прадумана будуецца пасёлак Вастрамечава, цэнтральная сядзіба калгаса-камбіната «Памяць Ільіча». За нейкія шэсць гадоў тут выраслі 300 катэджаў. Яны не выцеснілі сялянскія хаты — цудоўна з імі ўжываюцца.**

**Хто праектуе! Адкуль матэрыялы! Хто будуе!**

**Літаральна ў першыя хвіліны сустрэчы Скакун, неяк вінавата ўсміхаючыся, спытаўся:**

**— Толькі не мучце мяне пытаннямі: адкуль? з якіх фондаў? паводле якога пункта? Усё, абсалютна ўсё законна... Разумееце, ледзь не кожны дзень адна і тая ж карціна: да абеду дзялюся вопытам з дэлегацыямі і журналістамі, а пасля абеду даю тлумачэнні работнікам АБКС — адкуль што ўзяў... Ну, ці ж не смешна!**

**Хутчэй сумна. Але ўсё ж такі на гэтыя пытанні адказаць трэба.**

**Праектуюць самі. Ёсць у калгасе свая архітэктурна-планіровачная майстэрня, якая можа выдаць праектную дакументацыю на любы аб'ект у самыя сціслыя тэрміны. Каму з гаспадарнікаў невядомыя мукі блукання па праектных канторах! (Адны не прымаюць заказ — усё, маўляў, забіта да канца пяцігодкі. Другія даюць ад варот паварот — занадта дробныя для іх аб'екты. У трэціх — свая прычына. А сутнасць адна: няма праектнай дакументацыі — не будзе і самога аб'екта.)**

**Скакун знайшоў выйсце. Так, гэта каштавала і сіл, і нерваў. Але такое ўжо ў старшыні жыццё: ці ты, як танк, падмінаеш пад сябе абставіны, ці яны абавязкова падамнуць цябе. Але тады ты ўжо не старшыня...**

**Ёсць у калгасе і свой будаўнічы камбінат, дзе занята больш за дзвесце чалавек... Сапраўдны гаспадар перш за ўсё адрозніваецца ад звы-**

чайнага выканаўцы тым, што здольны ўсё прыдатнае паставіць на службу справе. Вось, напрыклад, столькі гадоў запар стаяў урослы ў зямлю цагляны заводзік-развалюха. Даўно пагаслі яго печкі, даўно паразвейваліся, як дым, надзеі людзей не вазіць цэглу з-за свету, а браць у сябе пад бокам... Але вось прыходзіць гаспадар, аглядае ўсё пільным вокам і пачынае прыкідваць: на рэканструкцыю пойдзе столькі і столькі, але ўсё гэта праз пару гадоў цалкам акупіцца: кадры знойдзем, сыравіны хапае.

Праходзіць час, і вось ужо задыміў заводскі комін. Два мільёны штук цэглы стала атрымліваць гаспадарка. Хапае і сабе, і суседзям. А не было б гаспадара — яшчэ на паўметра ўрос бы заводзік у зямлю.

Есць у калгасе свой растворабетонны вузел, ёсць будаўнічыя машыны і механізмы, ёсць дзве піларамы, прасторны, цёплы сталярны цэх, праца ў якім кіпіць увесь год.

А для душы працуюць калгасныя ўмельцы — выдатныя рэзчыкі па дрэве, майстры керамікі. Дзіцячы садочак у Вастрамечаве — гэта, па сутнасці, Палац мастацтваў. А калодзежы! Што ні калодзеж, дык шэдэўр. Агароджа — чыгуннае ліццё. Кветнікі. Газоны.

Слова «будаваць» аднолькава добра пасуе і да новага жыцця, і да гаспадаркі, і да хаты. Ці ж не таму яно такое папулярнае ў «Памяці Ільіча»! Ці ж не таму да яго пільная ўвага, як і да надояў, цэнтнераў! Без будоўлі не рассекчы ні адно з зачараваных колаў. Напрыклад: моладзь не затрымліваецца ў вёсцы, таму што няма жытла, школы. А школы няма, бо няма і сем'яў з дзецьмі — няма каго вучыць... Ці, скажам, ураджай нізкі, бо мізэрная доля арганікі. А мізэрная яна з тае прычыны, што мала жывёлы. Жывёлы ж мала таму, што няма дзе і няма на чым яе гадаваць — калі нізкія ўраджаі, дык і кармоў не будзе. А потым яшчэ круг, і яшчэ... Шчыльна накладваючыся адзін на адзін, яны ствараюць такі маналіт, што добрасумленнаму выканаўцу старшынёвай ролі, дальбог, у такой гаспадарцы рабіць няма чаго. Патрэбна сапраўды асоба...

Скончыўшы Гродзенскі сельгасінстытут, Аляксей Скакун стаў заатэхнікам. Працаваў у Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці і галоўным заатэхнікам, і сакратаром парткома моцнай гаспадаркі. Выдатнае спалучэнне ў ягоным характары мяккасці, добразычлівасці да шчырых людзей і жорсткасці, няўмольнасці да гультаёў і прайдзісветаў выклікала да яго і павагу, і давер.

Заўважылі Скакуна і «наверсе». Рэкамендавалі старшынёю ў калгас «Дружба», які ляжаў на абедзвюх лапатках. І з прыходам у адсталую гаспадарку сапраўднага кіраўніка здарылася з ёю тое, што і павінна было здарыцца: за некалькі гадоў калгас устаў на ногі.

Які райком, што мае кадравы клопат, не заўважыць чалавека з арганізатарскімі вартасцямі! Увогуле, можа не заўважыць, калі на першы план ставяцца не інтарэсы справы, а чыясьці асабістая амбіцыя, чыясьці глыбокая непрыязь, нават нянавісць да такога чалавека... З Аляксеем Сцяпанавічам нічога падобнага не здарылася. Яму прапануюць перспектыўную пасаду начальніка раённага сельгасупраўлення.

Малады. Энергіі і задум на некалькі хопіць. Ужо тады Скакун падумваў пра кандыдацкую. З'явіўся вольны час. Не трэба больш мучыць сябе тысячамі пытанняў, вялікіх і маленькіх, з якіх складваюцца хвіліны і гадзіны жыцця старшыні. Цяпер табе падпарадкоўваюцца ўсе гаспадаркі раёна. Кіруй. Жыві і радуйся.

Аднак радасць не прыходзіла. А калі і траплялiся яе іскрынкі ў будзённым клопаце, дык адразу ж знікалі пад стосамі папер. Скакун не мог спакойна глядзець на ўсе гэтыя зводкі, даведкі, справаздачы, інфармацыі і іншае, іншае... Занудзіўся ён. Ён задыхаўся без практычнай справы. Без рэальнага выніку, які можна памацаць, убачыць, узважыць. І ў галаве трывала засела думка: «Трэба ставіць кропку...» Скакун зразумеў, што функцыянера, чыноўніка з яго не атрымаецца, а практык загіне...

Папрасіў накіраваць у адсталую гаспадарку. І атрымаў «дабро». Хоць і не адразу.

Што і казаць: учынак нетыповы. Але менавіта такія вось людзі, здольныя без ваганняў, крута змяніць сваё жыццё, парушыць прывычны парадак яго, і робяцца апораю грамадства, рухаюць яго наперад.

...Вядома, Скакун разумеў, што не ўсе расцэняць гэты яго крок правільна. Што неаднойчы яшчэ яму «аукнецца».

«Аукнулася» першы раз на тым памятным калгасным сходзе. Шэсць гадоў прайшло, а ўспамінаецца ўсё, як быццам было на мінулым тыдні...

Невясёлыя думкі нахлынулі пасля таго, як Аляксей Сцяпанавіч прааналізаваў гадавыя справаздачы трох гаспадарак, на базе якіх і быў створаны калгас-камбінат «Памяць Ільіча». Самы раз было затужыць: «Ну, і ўліп я, нічога не скажаш! Ды яшчэ самахоць». Не чакайце такога ад Скакуна. Так, ён можа і вагацца, і сумнявацца — усё гэта натуральныя пачуцці. Але ніколі не панікаваць. Баязлівы камандзір вытворчасці нашмат страшнейшы за баязлівага камандзіра ў баі. Апошні расколецца, як гнілы арэх, пры першым суровым выпрабаванні. А вось, скажам, баязлівы старшыня калгаса можа «нявечыць» і людзей, і гаспадарку дзесяткамі гадоў.

На чым жа будаваў свае разлікі Скакун!

Аснова — сучасная тэхналогія, на якую абапіраецца спецыялізацыя і канцэнтрацыя вытворчасці. Гэта дасць магчымасць атрымаць на тых самых кармах удвая больш прадукцыі. Спецыялізацыя і канцэнтрацыя вытворчасці замест шматгаліновай, зазвычай стратнай гаспадаркі выведзе калгас з прарыву. Гэта па-першае.

Інтэнсіўная тэхналогія, вядома, зробіць цяжкую працу вяскоўцаў больш прывабнай. Значыцца, застанецца ў вёсцы моладзь. Будзе на каго абапірацца. Будзе развітая вытворчасць — будзе і жытло. А калі так — зменіцца побыт калгаснікаў, увесь лад іх жыцця. Так разарвуцца безвыходныя кругі...

Сродкі! Дзяржава выдзеліць доўгатэрміновы крэдыт. Землі! Калі да трох рэарганізаваных гаспадарак Брэсцкага раёна далучыць калгас «Кастрычніцкая рэвалюцыя» Камянецкага раёна, будзе якраз у меру.

З гэтай прапановай і звярнуўся Скакун да калгаснікаў на сходзе. І пачуў у адказ шмат гнеўных слоў і папрокаў. Маўляў, робяць з людзьмі што хочуць, усё роўна як людзі — інвентар калгасны. Што абрыдла атрымліваць за работу капейкі. І невядома, хто ты сам такі. Кажуць, быў вялікі начальнік. Але калі ты тут — значыцца, знялі. Тут да цябе было ўжо трынаццаць такіх разумных, а што змянілася!

Доўга бурліў, кіпеў сход. Рваўся з сялянскай душы боль, які збіраўся ў ёй гадамі. І як ведаць, можа, рваўся ў слабой надзеі: а што, як і праўда апошні раз!.. Што, як і праўда пераменіцца іх жыццё!..

Старшыня цярпліва пераконваў людзей. Але вельмі ўжо казачнае маляваў ён жыццё. Чулі, шмат разоў чулі гэтыя людзі і пра кнопкі, і пра суцэльную механізацыю, і пра ўсялякае дабро, якому яшчэ месца шукаць прыйдзецца. Але ішлі гады, а ўсюды было адно і тое ж. Раскіслыя дарогі, занядбаныя фермы, ледзь жывыя палі. Дабітая тэхніка ды пустыя свірны. І гэтаксама пуста было ў душы — ці ж не таму цягнула запоўніць гэтую пустэчу бутэлькай гарэлкі...

А тут... Паводле слоў старшыні, усяго 125 чалавек будуць працаваць на комплексе па адкорму маладняку на 10 тысяч галоў. Кожны дасць прадукцыі на 80 тысяч рублёў. А ўсяго за год комплекс дасць прыбытку больш як пяць мільёнаў. Трактарысты і аператары будуць зарабляць па 300—500 рублёў. З аднаго гектара збяруць па 35—40 цэнтнераў зерневых, кожная карова дасць па 4 тысячы кілаграмаў малака. Маеш патрэбу ў жытле — атрымай катэдж. Хочаш будаваць сам — калі ласка, бяры пазыку і будаўнічыя матэрыялы...

Адкуль, з якога рога дастатку хлыне на іх няшчасную гаспадарку ўсё гэтае дабро! Слухалі калгаснікі свайго старшыню з горкімі ўсмешкамі. «Не вераць,— не раз лавіў сябе на думцы Скакун.— А чаму, уласна кажучы, павінны яны мне верыць! Хто я ім! Пакуль ніхто. Старшыня пад нумарам чатырнаццаць. І толькі...»

За далучэнне калгаса з суседняга раёна людзі прагаласавалі. Але не таму, што пераканаў іх у гэтым старшыня. Хутчэй за ўсё даў сябе знаць горкі вопыт: шумі не шумі — усё роўна будзе так, як вырашылі «наверсе».

Ніколі яшчэ тугі камяк праблем не падкочваў так блізка да горла. Ніколі яшчэ трыццаціпяцігадоваму старшыні за ўсё яго жыццё не было так складана. За што ні вазьміся, куды ні кінь — ўсюды клін. Усюды тупік.

Яго акружала мора працы. І ён ступіў у гэтае мора, не думаючы, ці хопіць сілы. У яго было адзінае выйсце: дасягнуць абранае мэты.

...І года не прайшло, як вырас жывёлагадоўчы комплекс. Яшчэ была ў разгары будоўля, а ён ужо запаўняўся маладняком. Мясны канвеер уключыўся ў работу. Надта ўжо карцела старшыні як найхутчэй запусціць гіганцкі гаспадарчы махавік. Пабач з комплексам сягнулі ў неба сянажныя вежы.

Будаваўся няспынна і пасёлак Вастрамечава, мяняла аблічча вёска Лышчыцы. Сярэдняя школа, яслі-садочак, адміністрацыйны будынак, гандлёвы цэнтр, гасцініца, дом бытавых паслуг, сталовая, лазнева-пральны камбінат — усё гэта ўзнікла за некалькі гадоў. На вачах мяняўся лад жыцця. Мяняліся і людзі. У іх з'явілася не проста надзея на лепшае, а цвёрдая ўпэўненасць. Гэтае лепшае здзяйснялася кожны дзень...

Не раз даводзілася мне чуць, што калгасным старшыням, якія зведалі славу, з Зоркаю на грудзях, усё даецца лёгка і проста. Перад імі расчыняюцца любыя дзверы, любое іх пажаданне абавязкова выконваецца. Гэта прымітыўны, а хутчэй за ўсё — шкодны пункт гледжання. За ім зручна хаваць уласную бездапаможнасць і няўменне.

У Скакуна няма Залатых Зорак. І дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі ён стаў нядаўна. Але ёсць у гэтага чалавека неверагодная маторнасць. Ёсць няўрымслівасць і спакойная ўпэўненасць у дакладнасці выбару шляхоў да дасягнення мэты. І ўсялякія нягоды, наштурхоўваючыся на гэтую няўрымслівасць і ўпэўненасць, разбіваюцца ўшчэнт.

Гэты чалавек умее імгненна згуртаваць вакол сябе аднадумцаў. У яго неверагоднае чуццё на людзей. Прынамсі пра любога з яго памочнікаў можна пісаць дакументальную аповесць.

Ранак выдаўся хмуры, няветлівы. Акурат такі ж самы і настрой у старшыні. Мы селі ў «газік», і машына рванулася з месца. Выскачылі на шашу.

— Вось адсюль,— Аляксей Сцяпанавіч паварочваецца да мяне,— улетку від што на карцінцы. А шэсць гадоў назад, калі глянуў упершыню на ўсё гэта слотным вясновым днём, змрочнае было малявідла... Палі скрозь у каменні, спаласаваныя часовымі дарогамі. Ды якімі там дарогамі — глыбокімі каляінамі, напоўненымі ржавай вадою. Паглядзеў я на ўсё гэта і зрабіў сабе зарубку: наводзіць парадак трэба пачынаючы з зямлі.

Я б жорстка караў тых старшынь, якія заклікаюць калгаснікаў быць гаспадарамі зямлі, а самі палец аб палец не ўдараць, каб зямля гэтая як мага меней пакутавала, не зарастала дзікім бур'янам. Гаспадары, няхай на іх...

— Аляксей Сцяпанавіч, дык што за бяда гоніць вас у суд!

Зморшчыўся, як ад болю. Памаўчаў.

— Ды завялася тут адна паклёпніца... Што ні ўзбрыдзе ў галаву — усё на мяне валіць. Кім толькі не фігураваў я ў яе лістах. І амаральнай асобаю, і раскрадальнікам сацыялістычнай уласнасці, і парушальнікам правоў чалавека, жорсткім эксплуататарам, і п'янчугаю, і гвалтаўніком... Юрыст па адукацыі, яна ведае, як правільна напісаць паперу, куды яе накіраваць, на каго па неабходнасці спаслацца. Стаміўся я ад усялякіх праверак, ад судоў. А з яе — як з гусі вада. Ясна ж, што яна за чалавек. Дык не, любое самае недарэчнае абвінавачванне разглядаецца. Ды яшчэ прылюдна...

— Чым жа заслужылі вы такую нянавісць! І што гэта за асоба!

— Мазько яе прозвішча. Жыве ў Брэсце. Калісьці працавала ў нас у кадрах, была загадчыцай клуба, але нідзе сябе не выявіла. Звольнілася яшчэ да майго прыходу ў гаспадарку.

І вось заяўляецца да мяне, просіць прыняць яе на працу юрыстам. Адмовілі. Адсюль усё і пачалося. Паклялася звесці мяне са свету. Справа дайшла да таго, што падбіла радню выйсці нядзельным ранкам на плошчу ў Брэсце з плакатамі «Далоў Скакуна!», з патрабаваннем адклікаць мяне са складу дэпутатаў.

А цяпер вось чарговы суд. Заявіла, што я прылюдна абразіў яе.

...Суд не адбыўся. Ісціца не пажадала на яго з'явіцца. Скакун прачакаў добрыя паўгадзіны. Потым выйшаў з будынка народнага суда, моўчкі сеў у машыну і пагнаў яе назад, не сказаўшы за ўсю дарогу ніводнага слова. Што адбывалася ў яго ў душы, зразумець няцяжка.

Якія ўсё ж такі ўразлівыя і адкрытыя ўсім нядобрым вятрам гэтыя на першы позірк магутныя людзі, калгасныя старшыні. І як важна беражліва, з любоўю ставіцца да іх. Менавіта беражліва.

**Анатоль КАЗЛОЎ**

# МАТРАЦ

АПАВЯДАННЕ

**Анатоль Казлоў з дзяцінства марыў стаць лекарам, але пасля школы апынуўся на гісторыка-філалагічным факультэце Гомельскага дзяржаўнага універсітэта. Часам шкадуе, што ў кішэні не той дыплом. Лічыць, што ў ягоныя 25 гадоў позна штонебудзь перайначваць. Калі дрэнны настрой, крэсліць алоўкам паперу. Або малюе на ёй фарбамі. Або сядае на матацыкл, уключае поўную хуткасць і такім чынам развейваецца. Любіць усход сонца і дажджлівыя дні.**



**Той, хто чакае,**
**сустракаецца з нечаканасцю.**

Восень. Месяц кастрычнік. Паўсонная сталіца. Гарбаты мост, шырокія вуліцы з зябкім святлом ліхтароў. Цупкія цені а́д чэзлых дрэў на сцюдзёным асфальце тратуараў. Рэдкія таксоўкі. Захінутыя ў апратку насцярожаныя постаці. Жалезабетонныя падземныя пераходы. Гадзіна ночы. Чыгуначны вакзал.

* * *

Цяжкая кайстра. Знямелая рука без пальчаткі. Кудлатая галава, прыгорблены стан. Вытанчаны твар, сумныя вочы. Пакрыўджана скрыўлены рот. Паспешлівы крок. Глыбокая кішэня ў нагавіцах. Дрыготкія плечы. Янус. Ці, як запісана ў пашпарце, Янка. Квіток на цягнік.

* * *

Прыступкі, тамбур, тузаніна. Гугнявая гамана. Сонны ўсхліп дзіцяці. Насуплены праваднік. Другая паліца, 54-е месца. Вагон.

* * *

Худзенькі, выцертыя палоскі, зашмальцаваныя рагі. Вата пазбівалася камякамі. Бязважкі. Матрац.

* * *

Згаслае святло. Плечы адчуваюць слізкую паверхню паліцы. Штуршок, яшчэ штуршок. Шэпт, ціша, дрымота. Цягнік паласуе ноч, бяссонне Януса, або, як запісана, Янкі...

* * *

Чаго не спіць? Навошта тлуміць галаву думкамі? Дзіцё нягеглае. Не круціла яшчэ жыццё яго, не выварочвала знаніцай. Усё тлум і бруд, адкіды і памыі. Жыццё нікчэмнае, як куча смецця. А ён пра вечнае марыць! Спі, дзіцё перараслае, і не пніся: пукнеш, а больш, чым дадзена, не падымеш. Ну і што, калі спаў ты з акторкай, а твая паэтка ласціць апошняга п'янчука? Заглытвае шурпаты язык. А ты пра вечнае... Раніцой яна напіша верш пра Радзіму і гісторыю краю і, пакуль спіць прапойца, дашле пакамечаны «шэдэўр» табе. Спі, дзіцё, спі, не пакутуй сам і не мучай нагамі мае зашмальцаваныя бакі. Ты хутка сыдзеш, пакінеш мяне, як тысячу разоў ужо пакідалі. Ляжа новы. Добра, калі зменіцца прасціна, а я нязменны.



Сварацца з рэйкамі колы цягніка, уздрыгвае вагон. Слуп святла разбівае цемру, выхоплівае здані дрэў. Скачуць коннікі, захлынаючыся пругкім напорам ветру. А пад зламанай асінай правяць хаўтуры сарокі. Ты ніколі не бачыў, як правяць хаўтуры сарокі? Не бачыў. А хочаш зразумець Савіча і Каліноўскага. Ты марыш перакуліць свет. На справе ж марыш валодаць шыкоўнай кватэрай, дарагім канём і цыбатым сабакам. А хаваешся за прыгожыя ідэі і словы.

Гаманю з табою, ты чуеш? Я матрац, звычайны цягніковы матрац на тваім 54-м месцы, матрац, на якім ты ляжыш. Не лыпай няўцямна вейкамі, не стрыжы санлівы спакой вачыма. Я набыў голас ад вераду ў тваёй галаве і ў тваёй душы. Гэта не так і рэальна, як табе здаецца. Памятаеш, Янус?.. І імя ў цябе нялюдскае. Дык памятаеш, ты чытаў, як пасля бою на Нямізе душа забітага воя ўсялілася ў меч? Пекла было не для яе. Родная зямля крывёю сыходзіла, а край маленства патанаў у слязах. Ты скрыгатаў зубамі, еў часнок і перац з соллю. Ты хацеў стаць такім жа воем... У душу ты не верыў. Яе няма, ты завучыў гэта.

Памыляешся, Янус. Пражытага табою не гэтак і мала. Але воем ты не стаў. І не станеш. Не спяшай спрачацца. Вунь, бачыш, збоку спіць прыбалт. Ён — вой. Сапраўдны. Ён ведае з дзіцячых пялюшак: як, за што, дзе, з кім і без каго?..

Не, не трымаў ён плуг у руках ніколі. Ды ці ў гэтым справа? Глыбей глядзі, Янус. Але, пачакай... Адкуль ты ўзяў імя такое? Ці не ад... дык, кажаш, упісаны ты Янкам? Хы! Вось і адказ табе на многае, дзіцё.

Цябе усё точыць сумленне за паэтку? Ты зайздросціў яе таленту і лёгкасці паводзін? Ах, ты кахаеш?! Чаму ж тады ў бары ты спіхнуў яе знаёмаму мастаку? Кажаш, еднасць духу ў іх і ідэі аднолькавыя... Ты, дзіцё, памятаеш вочы паэткі? Як яны прасілі цябе: «Хадзем адсюль, забяры мяне». І гарэлі агнём, ад якога смалой паплылі б ледавікі Цярскола. Ты ж з адсутным выглядам слухаў «Магістрат» і ўяўляў скляпенні князя Пракапоцкага. Там сапраўды ёсць крыж.

Я цябе не разумею? Кажаш, цябе сапраўды хвалюе крыж майстра Богшы? Пра гэта думае кожны сын Ефрасіні Полацкай? Навошта гэтак высока, дзіцё? А пры чым тут Эль Грэка? Ён любімы мастак тваёй паэткі? І Поль Элюар таксама?.. А Воюша я не ведаю. Бачыш, які цёмны я. Столькі колераў змяніў за гады бадзяння. Так-так, і гэтых паэтаў не ведаю. Што зробіш, я ж матрац. Але, здаецца, дзіця, мы мяняемся ролямі?

Абражаць не трэба. Ну, выцерлі мяне розныя задніцы, але ж і твая гэтым занятая. Не спяшай. Сыходзіць яшчэ не так хутка. Адно, дзіцё, я зразумеў: жыць розумам і сэрцам адначасова цяжка. Але толькі гэтак нешта будзе, нешта народзіцца — са спалучэння.

Ляжаў некалі на мне бацюшка. Не поп, а бацюшка. Я слушна сказаў. Ён дужа не любіў, калі клікалі яго папом. Вёз бацюшка шэсць старых абразоў. Такіх абразоў, што яны коштам і значнасцю ці не роўныя крыжу Богшы. Ён, як і ты, ноч не спаў. Прыкідваў, за колькі прадаць. Ты толькі ўяві: настаўнік веры веру прадае. І не біблейская гэта прыпавесць, а жыццё. Перабіраў у памяці мастакоў: каторы танней возьме за падробкі, якія ён павесіць на месцы абразоў? Бабкі-прыхаджанкі яшчэ і хваліць будуць,— думаў бацюшка. Іконкі ён набудзе новыя, кідкія, а пра абразы ніхто і не ўспомніць. І вёз бацюшка абразы з свайго краю на поўдзень. Аціраў мяне, мучыў прасціну, смаркаўся ад прастуды ў ручнік, нічога не бачыў і не чуў, думаў і думаў, колькі ўзяць. Добра, відаць, узяў... Цяпер вісяць на сценах царквы капеечныя карцінкі, прыхаджане моляцца на іх і хваляць бацюшку: руплівы, святы чалавек. Дзеля людзей, дзеля веры і жыве, і дбае.

Дзеля людзей, дзеля веры... Аж не, дзіцятка, дзеля сябе, дзеля сябе жыве і дбае «святы» чалавек. І не будзе ён лячыць сваю вадзянку, як некалі лячылі прыхаджане,— адварам зёлак і параным гноем. На поўдні ён. Там, дзе збываў абразы. І не ў закінутай халупе, а ў шыкоўным гатэлі. Як і чым жыве бацюшка?..

Я не гугняўлю, а справу кажу. Хрумстай яблычак, перарослае дзіцятка. Мо лягчэй разбярэшся, зразумееш сваю мэту ды прызначэнне. І Каліноўскі стане не нечым адцягнута незразумелым, а рэальным, жывым. Ты бачыў ягоны здымак,— ён глядзеў у глыбіню тваіх вачэй, а застаялай гніла-тухлай ціны зварухнуць не змог. Ты, Янка, дазволь, буду клікаць цябе, як ты запісаны. Дык вось, ты баішся самога сябе, шукаеш выгоды. Забі страх мячом, у якім жыве душа воя з Нямігі. Ідзі смела... Бачу, марна кажу. Не, вучыць цябе не збіраюся. Ты вучаны. Але ж не навучаны. Шкада.

Хрумстай, дзіцятка, яблычак, хрумстай. Не так даўно чвямкала тут прастытутка, ёрзаючы па мне гладкім задам. Што ты, Янка, гэта не параўнанне. І не хіхікаю я. З чаго ж смяяцца? Я ўсё вяду да тае гаворкі — пра жыццё, пра значэнне, мэту. І пра тваю паэтку таксама. Акторку не чапаю: яна выпадковы чалавек, мятлушка. Ты ж сябе да вялікай справы прызначаеш. Ці не так? Ну вось, бачыш, Тая лярва, як і бацюшка, ехала на поўдзень. Яна не мучыла сябе думкамі-развагамі. Страляла вачыма навокал, хлопчыкаў выглядвала. Некалькі разоў намагалася прыгадаць імя ўчарашняга. Уздыхала, што напоўніцу не раскруціла яго. Можна не згадзіцца, але яна мне падалася больш вартым чалавекам, чым бацюшка, чым твая паэтка і ты.

Ах, ушчыкнуў цябе да крыві! Ну-ну, чаго ўсхапіўся? Падумай. Яна не гандлюе ні верай, ні ідэяй. Прадае сваё цела. Проста... Ты шэпчаш, што нізка і ганебна гэта, а як жа наконт веры за рублі? Як жа наконт ідэі і прынцыпаў — за ўсхваленне і выгоды? Га? Дурань? Няхай дурань. Што возьмеш з мяне, матраца, пацёртага, замызганага матраца. Мяне тысячу разоў прадавалі за рубель, і ты, Янка, купіў мяне за рубель на некалькі гадзін. Зараз купіць нехта іншы. Ты ж сыходзіш. Толькі я бязвольны нешта прадаць. Я шчаслівы, хоць і зацёрты. Не хочаш мяне згарнуць? Ну што ж. На развітанне: глядзі, Янка, не звіхні нагу дзе-небудзь у выпадковай выбоіне. Яшчэ ж прыцемкі. Хоць і віднее, а прыцемкі.

Начамі спі спакойна, шануй матрац, і прывітанне паэтцы.

МАТРАЦ

# ДЭМАКРАТЫЧНАЕ ФІЯСКА

**Аляксандр КРУГЛЯКОЎ,**
**вучань 9-га класа**

Сход пачаўся як і звычайна. Месцы ў актавай зале запаўняліся старшакласнікамі, хранічна незадаволенымі тым, што іх затрымліваюць пасля ўрокаў. За доўгім сталом сядзеў прэзідыум, у чаканні пачатку пастукваючы алоўкамі і ручкамі па чырвоным сукне. У куце ля акна размясцілася група настаўнікаў, якія сачылі за парадкам у зале. Увогуле — карціна досыць тыповая.

Нарэшце на сцэну нечакана выйшла дырэктарава намесніца і растлумачыла, што сход гэты будзе незвычайны, бо згодна з духам часу наша школа, як, зрэшты, і ўсе астатнія, павінна пашыраць дэмакратызацыю. І таму цяпер кожны мае права выказацца, якой бы вострай ні была яго думка..

Нудныя твары школьнікаў сталі раптам зацікаўленыя. Вядома, на фоне самакіравання ў іншых школах і нам даўно ўжо абрыдла сядзець склаўшы рукі. І вось сакратар камсамольскай арганізацыі пачаў:

— На парадку дня — абмеркаванне новага статута школы. Ён складаецца з наступных пунктаў...

То тут, то там у зале сталі падымацца рукі, але ці то сказаць не было чаго, ці то духу не хапала, толькі прапановы выглядалі нейкімі малазразумелымі. Што ж, справа няпростая: упершыню атрымаўшы свабоду, усе проста захлынуліся ад велізарнай колькасці свежага паветра. Іншымі словамі, да новага становішча яшчэ неабходна было прывыкнуць.

Аднак сказаць, што дыскусія ўвогуле не клеілася, было нельга. Двое дзесяцікласнікаў — Сяргей і Андрэй — адаптаваліся адразу. Здавалася, яны былі ў баявым настроі: прапаноўвалі, настойвалі, удакладнялі — і з імі згаджаліся. Больш таго: прэзідыум бачыў чакаў іх дакладных, «у яблычка», дапаўненняў, прымаючы прапанаваны імі новы статут амаль без змяненняў. Надзіва спакойна ўспрынялі іх досыць рэзкія выказванні і настаўнікі. А Андрэй усё скардзіўся, што вучням, маўляў, і рота не даюць раскрыць, не даюць, карыстаючыся сваім аўтарытэтам, ходу іх думкам, а любую спробу спрачацца перапыняюць дрэннымі адзнакамі. Выходзіць як у старым анекдоце, калі праўда заўсёды на камандзіравым баку.

Карацей кажучы, першы сход у новым стылі праходзіў спачатку надзвычай гладка.

Гром грымнуў пад самы ўжо канец, калі паўстала пытанне аб школьнай форме. Тэма, якую дагэтуль чамусьці нават не лічылі патрэбным закранаць, а тым часам варта толькі згадаць тэлемост Ленінград — Сіэтл, каб уведаць, што думаюць пра гэта самі школьнікі. Тады ленінградскія школьнікі на пытанне амерыканцаў, якія паняцця не маюць пра абавязковую школьную форму: «Ці хацелі б вы насіць яе?» — дружна адказалі: «Не».

Так што праблема школьнай формы закранула цяпер літаральна ўсіх. І тут ужо не двое, а ўся зала захацела раптам выказацца. Раіліся адзін з адным, нешта даводзілі, выкрыквалі, увогуле, усчаўся гвалт. Нехта, самы смелы і рашучы, выказаў, узняўшыся, думку многіх канкрэтна:

— А навошта ўвогуле патрэбна школьная форма? Каму трэба ператвараць школьнікаў у блізнят?

Пытанне было досыць нечаканае, бо зводзілася яно не да асобнае прапановы, а ставіла праблему: «Быць альбо не быць?» Інакш кажучы, ставілася пад сумненне тое, што здаўна лічылася бясспрэчным і мела непасрэднае дачыненне да паняцця «асновы школы».

Ашаломлены сакратар дапытліва зірнуў на настаўнікаў. Яны адразу ж прыйшлі на дапамогу:

— Бачыце,— сказала настаўніца з прэзідыума,— гаворка трохі пра іншае. Школьную форму прыдумалі не мы, не нам яе і адмяняць. Давайце лепш пагаворым пра тое, што нашую школьную форму псуе. Ужо не першы год мы вядзем барацьбу за тое, каб вы не дапаўнялі яе усялякімі шалікамі, кофтамі, світэрамі...

Гвалт у зале стаў толькі большы. Школьнікі адчулі, што іх спрабуюць накіраваць па іншай каляіне.

— Выбачайце,— устаў нехта з дзевяцікласнікаў,— вы сказалі, што не нам рашаць пытанне аб школьнай форме. Але ж насіць яе нам, і нашым бацькам кожны год бегаць, шукаючы яе, па ўсіх магазінах. Так што мы ў гэтым пытанні зусім не «трэці бок».

— І ўвогуле: ці ж не прасцей кожнаму насіць тое, што яму падабаецца? — уступалі ў размову ўсё новыя галасы.— Не хвалюйцеся, у трусах у школу ніхто б не прыйшоў...

Настаўнікі збянтэжана ўсміхаліся, спадзеючыся яшчэ пераканаць хлопцаў:

— Але калі кожны будзе насіць тое, што яму ўздумаецца, то школа, па-першае, ператворыцца ў рознакаляровы мурашнік, а па-другое, створыцца няроўнае становішча: адны могуць адзявацца лепш, іншыя горш, адсюль зайздрасць і розныя непрыемнасці. А школьная форма даступная ўсім — вось яе галоўная перавага.

— Дык, значыцца, калі я замест блакітнай кашулі надзену пад пінжак «майстарку», мяне загрызуць ад зайздрасці? — пакпіў нехта.

Атмасфера рабілася ўсё больш напружаная. Гэтая сітуацыя, у адрозненне ад папярэдняй, відавочна не была запланавана, таму ўвесь прэзідыум, а таксама класныя кіраўнікі зусім разгубіліся. Трэба было вырашыць, як дзейнічаць у дадзенай сітуацыі. А лавіна думак тым часам толькі нарастала, стрымаць яе было ўжо немагчыма, і вось ужо са школьнай формы абмеркаванне перакінулася на пытанне аб ранішняй гімнастыцы ў класах, а потым і на іншыя надзённыя тэмы, перайначваючы ўсё нанова.

Ад статута, гэтак удала зацверджанага напачатку, цяпер, адзін за адным, сталі адколвацца пункты. У ранейшых «гладкіх» дадатках раптам выявілася маса нявырашаных пытанняў, прыняцце статута зноў павісла ў паветры.

— Прапаноў сабралася мноства,— знайшоў выйсце сакратар,— адразу сфармаваць з іх статут вельмі складана, да таго ж свае дадаткі кожны клас павінен яшчэ дапрацаваць. Потым іх неабходна будзе прадставіць на наступным сходзе, дзе пытанне і вырашыцца канчаткова. А пакуль ёсць прапанова ўзяць за аснову дадзены праект. Прашу галасаваць. Хто «за»?

У зале не ўзнялося ніводнае рукі. І зусім не таму нават, што ўсе былі «супраць». Проста, зразумеўшы, што «адзінагалоснага адабрэння» і не патрабуецца, усе раптам разгубіліся: а ці трэба быць «за» ўвогуле?..

Непрыемнае маўчанне зноў перапынілі настаўнікі.

— Вы, напэўна, не зразумелі, пра што гаворка: мы галасуем не за прыняцце статута, а за тое, каб узяць яго за аснову, для пачатку. Як аснову, разумееце?

Гэтым разам супраць былі трое. Раней звычайна ў такіх выпадках пыталіся, чаму яны «нязгодныя з агульнаю думкаю». Але цяпер адзін з нязгодных сам папрасіў слова.

— Вы, напэўна, думаеце,— пачаў ён,— што я не «за» толькі ад няма чаго рабіць, дзеля таго, каб выправабаваць механізм свабоднага галасавання. Не, я сапраўды супраць. Не так супраць статута, як супраць самога сённяшняга сходу, стылю яго правядзення і ўсяго, чым ён суправаджаўся. Гэта, па-мойму, натуральнае абдурванне, прыкрытае высокім словам «дэмакратыя».

У яго адразу ж утупіліся абураныя, разгубленыя і здзіўленыя позіркі.

— Я растлумачу,— сказаў ён.— Статут ужо даўно быў распрацаваны ва ўсіх дэталях. А дзеля большае «дэмакратычнасці» проста была патрэбная фармальная дыскусія. Яе выдатна інсцэніравалі Сяргей з Андрэем. Так-так, абодва члены камсамольскага актыву падрыхтавалі свае «прапановы» загадзя. Такім чынам, перад намі была відавочная спроба падагнаць дыскусію пад статут, а не наадварот, як трэба было б. Паспрабавалі таксама пашырыць кола «ўдзельнікаў» абмеркавання — тыдзень назад прапаноўвалі падрыхтаваць пару прапаноў і мне, намякаючы, пра што трэба гаварыць. Я тады адмовіўся, спаслаўшыся на недахоп часу.

Што ж з усяго гэтага вынікае? — уздыхнуў нечаканы прамоўца.— А вынікае з гэтага толькі тое, што і настаўнікі, і камсамольскі актыў абсалютна спакойна ўзяліся выдаць інсцэніроўку за жывую дыскусію, загадзя зацверджаныя пункты — за думку камсамольцаў, хлусню — за праўду.



# ПРАДЧУВАННЕ МІНУЛАГА

Сяргей КАВАЛЕЎ



Рамантык па светапогляду і рэаліст па манеры выяўлення, паэт у адносінах да гісторыі і гісторык у адносінах да мастацтва, чэх па паходжанню, паляк па крыві, Ян Матэйка (1838—1893) адносіцца да тых вялікіх сыноў свайго народа, без якіх немагчыма ўявіць і сам народ. Стварыўшы ў другой палове XIX стагоддзя галерэю мастацкіх вобразаў тытанаў польскай гісторыі і культуры (Казіміра Вялікага, Завішы Чорнага, Калімаха, Віта Ствоша, Каперніка, Маджэўскага, Станчыка, Замойскага, Рэйтана і інш.), Ян Матэйка і сам заняў пачэснае месца сярод сваіх герояў.

Значэнне творчасці гэтага мастака яшчэ пры яго жыцці выйшла за межы польскай культуры: лепшыя работы Яна Матэйкі былі прызнаны ў Еўропе за ўзор манументальна - гістарычнага мастацтва, неаднаразова ўзнагароджваліся залатымі медалямі ў Парыжы.

З вялікай павагай і пашанай ставяцца да творчасці Яна Матэйкі і беларусы. Для гэтага, акрамя агульначалавечага захаплення высокім, сапраўдным мастацтвам, ёсць і канкрэтныя прычыны, якія робяць нам асабліва блізкімі і зразумелымі многія творы мастака. Наша гісторыя на працягу стагоддзяў цесна перапляталася з гісторыяй польскага народа, і на малюнках Яна Матэйкі мы сустракаем шмат сваіх славутых суайчыннікаў, бачым адлюстраванне падзей, што паўплывалі на далейшы лёс абодвух народаў.

Прыгадаем некалькі такіх работ мастака.

«Жыгімонт і Барбара» — сціплая акварэль, напісаная дваццацігадовым Янам Матэйкам. Побач з каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам — адна з найпрыгажэйшых жанчын Еўропы Барбара Радзівіл. Колькі рамантычных легенд створана пра гэтую незвычайную жанчыну, колькі паэм, раманаў і п'ес напісана! Безліч самых неверагодных чутак і звестак захаваў час пра маладую ўдаву апошняга з Гаштольдаў, Станіслава. Паводле адных, яна была ўвасабленнем нябеснай чысціні і бязгрэшнасці, паводле другіх — служкай д'ябла і страшэннай распусніцай. Яе аблічча магло натхніць багамаза на вобраз Божае Маці; плёткі пра яе натхнялі ворагаў і нядобразычліўцаў на парнаграфічныя малюнкі і вершыкі (аўтарам аднаго з іх быў класік польскай літаратуры Мікалай Рэй).

Перш чым распавесці гісторыю Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл, чытачу трэба сёе-тое растлумачыць. Ад часу Крэўскай уніі паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім (1385) на польскім троне сядзелі Гедымінавічы — нашчадкі вялікага князя літоўскага Гедыміна. Пры гэтым каралём польскім мог быць адзін Гедымінавіч, а вялікім князем літоўскім — другі. Здаралася, што адзін і той самы Гедымінавіч адначасна меў дзве кароны. У 1506 г. каралём польскім і вялікім князем літоўскім пасля смерці свайго брата Аляксандра стаў Жыгімонт Казіміравіч. Ад шлюбу з італьянскай арыстакраткай Бонай Сфорцай, сваячкай знакамітых Медычы, у караля быў сын Жыгімонт. Дбаючы пра сынаў лёс, Жыгімонт Казіміравіч яшчэ пры сваім жыцці каранаваў яго вялікім князем літоўскім, што павінна было гарантаваць сыну ў будучым і польскую карону. З таго часу Жыгімонт Казіміравіч атрымаў мянушку Жыгімонт Стары (у палякаў Зыгмунт І Стары; у рускай гістарыяграфіі Сігізмунд І).

Вернемся, аднак, да гісторыі Жыгімонта Аўгуста і Барбары.

Пачалася яна ў Вільні ў 1543 годзе. Здавалася, завязалася звычайная амурная гісторыйка, чарговая і для яе і для яго. Праходзяць тры гады, а сувязь іх толькі мацнее. Зразумеўшы, што гэта сапраўднае каханне, стрыечны брат Барбары Мікалай Радзівіл Чорны і родны брат Мікалай Радзівіл Рыжы патрабуюць ад вялікага князя не сустракацца з іх сястрой і не кампраметаваць яе. Жыгімонт абяцае. Магчыма, ён і сам верыць у непарушнасць свайго слова, але хітры палітык і знаўца чалавечых душ Мікалай Чорны прадбачыў сюжэт на два хады наперад. Калі закаханы князь, не вытрымаўшы расстання, прыходзіць ноччу ў спальню Барбары,— яго чакаюць там браты Радзівілы. І тады Жыгімонт выказвае намер абвянчацца з Барбарай, пакуль што ўпотай.

У 1548 годзе памірае Жыгімонт Стары. Жыгімонт Аўгуст сядае на трон польскі і раскрывае свой шлюб. Навіна выклікае вялікае абурэнне ў польскай арыстакратыі і шляхты, а таксама ў каралевы і вялікай княгіні Боны. Барбара была недастаткова радавітая, каб прэтэндаваць на польскую карону, браты Радзівілы княжацкі тытул атрымалі толькі ў 1547—1549 гг. У свой час Альбрэхт Гаштольд, свёкар Барбары, любіў распавядаць гісторыю пра паходжанне Радзівілаў ад конюха вялікага князя Гедыміна.

Наспяваў палітычны скандал. Усе патрабавалі ад караля адмовіцца ад Барбары. У час Петрыкаўскага сейма (кастрычнік — снежань 1548 г.) уся пасольская палата падае перад каралём на калені і са слязьмі просіць яго пакінуць Барбару. Але кароль — няўмольны. Тое, што сама Барбара выказвае жаданне не карана-

Заканчэнне на стар. 29





Алена КАМБУРАВА:

# БЕЗ ПАЭЗІІ НЯМА ПЕСНІ



— Вы пачыналі на эстрадзе як чытальніца...

— Гэта не зусім так. Мае першыя крокі на сцэне абазначаны жанрам песні. Іншая справа, што мая манера не паходзіла на традыцыйныя спевы. Былі вершы Навелы Мацвеевай, Булата Акуджавы, якія выконваліся пад мелодыі, якія я не так прапявала, як прагаворвала. Гэта сапраўды магло здацца чытаннем.

А ўвогуле ў мяне быў досыць вялікі рэпертуар, я ж збіралася паступаць у тэатральны.

— Але скончылі ўсё-такі вучылішча эстраднага і цыркавога мастацтва?

— Так, і на сцэну выйшла як спявачка. Песні Мацвеевай, Акуджавы, якія сталі асноваю майго рэпертуару, шмат чаму мяне навучылі. Я ўбачыла розніцу паміж імі і тымі, якія ў нас прынята лічыць эстраднымі. А яна вялізная. Калі эстрада пераважна дапамагае прыемна бавіць час, дык гэтыя песні запрашаюць да роздуму. Узяўшы «разбег» з такіх песень, я не адмовілася ад іх і сёння. Яны не паддаюцца пераацэнцы. Ведаеце, вось іншы раз думаеш пра што-небудзь: гэта, маўляў, калі было, гэта — пройдзены этап. З гэтымі песнямі такога не адбываецца. Чытаючы паэтаў мінулага стагоддзя, мы забываемся, калі напісаны вершы,— проста патанаем у іх свеце. З эстраднай песняй не так: учора якісьці накірунак лічыўся модным, а сёння яго ўжо ніхто не слухае. А тут іншае, тут свет спрадвечных каштоўнасцей, і мне ў ім знаходзіцца больш прыемна, чым у любым іншым.

— А як вы самі вызначаеце жанр, у якім працуеце? Гэта не традыцыйная эстрада, але і сказаць, што гэта аўтарская песня, таксама нельга.

— Вядома, нельга.

— Тады, можа, шансон?

— Ад шансона — прысутнасць у песні драматычнага пачатку. Яна драматургічная. Гэта як у тэатры: ёсць драматургія — цікава акцёрам іграць. Кожны нумар можа быць прачытаны і мною, і тымі, хто мяне слухае. Я так адчуваю. І сцэну адчуваю не як эстрадную пляцоўку, а як элемент тэатра, ну і, вядома, інтанацыя. Самае галоўнае ў акцёрскім мастацтве — інтанацыя. Калі яна ёсць, можна нават не ведаючы мовы з цікавасцю сачыць за рухам мовы, пераходамі ад аднае інтанацыі да другое.

— Працуючы над песняю, вы заўсёды адштурхоўваецеся ад верша?

— Але, у першую чаргу. З велізарнага мора песень, якія я слухаю, якія мне паказваюць, я выбіраю тое, што можа ўвайсці ў маю кроў, стаць абсалютна маім. Мне цяжка было б пець песню, у якой нецікава знаходзіцца. Гэта адчуванне поўнага з'яднання з песняю, зліцця з ёю неабходнае, і калі я гэта адчуваю, песня робіцца маёй. Але ёй яшчэ далёка да сцэнічнага ўвасаблення. Дый потым, на сцэне, ідзе «прыцірка» да яе. Такі вось доўгі працэс, падобны, з майго пункту гледжання, на працэс настойвання віна.

— Таму вы доўга з імі і не развітваецеся?

— Я нават калі растаюся з песнямі, праз нейкі час зноў да іх вяртаюся. Яны ўвесь час ува мне прысутнічаюць. Узнікла неабходнасць мець некалькі розных праграм, таму што гэта вельмі сумна — выконваючы адну песню, не спяваць другую.

— Ці можна сцвярджаць, што тыя паэты, вершы якіх вы спяваеце, вашы любімыя?

— Але! Плюс яшчэ маса імёнаў. Я вельмі люблю польскую паэзію, лацінаамерыканскую... Хочацца падзяліцца гэтай любоўю з гледачом. Гэта ж у прыродзе чалавечай — дзяліцца сваім захапленнем. Бачыш, напрыклад, прыгожы пейзаж, і хочацца камусьці сказаць: «Паглядзі, як прыгожа!»

— У грамзапісе вашая творчасць прадстаўлена не толькі песняю. Запісаны «Казкі аб Італіі», вакальныя цыклы Мусаргскага, Шуберта, рок-опера «Стадыён». Вас, дарэчы, удзел у ёй задаволіў?

— Для мяне гэта быў від такі, ну, не зусім маёй, ці што, працы. Я да творчасці Градскага стаўлюся з сімпатыяй, і калі ён прапанаваў мне прыняць удзел у запісе оперы, згадзілася. Хоць вершаваны матэрыял мне не спадабаўся, я не люблю «любоўнай» паэзіі. Аднак вобраз Жанчыны, які праходзіць праз усю дзею, мне імпанаваў.

— А вашы песенныя альбомы?

— У іх не хапае подыху сцэны, тае атмасферы, якая ўзнікае на канцэртах. На лепшых, вядома, маіх выступленнях. У мяне ж канцэрт на канцэрт не прыходзіцца. Бываюць дзіўныя, святочныя — вось па іх і трэба вызначаць, якім павінен быць запіс. Трэба фіксаваць лепшае, а ў мяне запісана якраз зусім не самае ўдалае.

— Ці здаралася вам выступаць перад

аўдыторыяй, не гатовай да ўспрыняцця вашае творчасці?

— Ну, вядома! Гаварыць пра тое, што ў залу прыходзіць ідэальны глядач,— значыць грашыць супроць праўды.

— І чым заканчваліся такія сустрэчы?

— Асаблівае радасці яны не прыносяць. Гэта сумна, разумееце? Заўсёды разладжваецца штосьці, нешта не супадае з вашым адчуваннем.

Многія ж — не азлобленыя мяшчане, проста так ужо атрымалася, што нешта прайшло міма іх. І, можа, мой канцэрт стане тым самым выпадкам ў жыцці такога чалавека, які падштурхне яго ўзяць у рукі кніжку Блока. Штосьці яго ўсхвалюе, а ў гэтым жа хваляванні і тоіцца аснова руху чалавечае душы. Калі чалавек здольны хвалявацца, значыцца, не ўсё страчана.

**Са спявачкай гутарыў**
**Юрый ЦЫБІН**

## Увага!

## «ХІТ-ПАРАД» «КРЫНІЦЫ»

У кожным нумары нашага часопіса, на цэнтральным каляровым развароце, змяшчаецца плакат.

У рэдакцыі нярэдка ўзнікаюць спрэчкі: каму з выканаўцаў папулярнай маладзёжнай музыкі прысвяціць плакат!

У нас ёсць жаданне быць максімальна аб'ектыўнымі падчас выбару, таму адкрываем «хіт-парад» «Крыніцы».

Умовы, якія дазволяць пачуць твой голас, дарагі чытач:

1. У адным лісце можна назваць пяць кандыдатаў, якія прымуць удзел у «хіт-парадзе»:

Самыя папулярныя, на тваю думку...

а) савецкі выканаўца;
б) беларускі выканаўца;
в) замежны выканаўца;
г) песня (кампазіцыя);
д) пласцінка.

2. На канверце ці паштоўцы павінны быць: тваё імя, прозвішча і зваротны адрас.

3. Назву любімай групы, любімай песні (кампазіцыі), прозвішча любімага саліста пішы акуратна і дакладна.

Вынікі «хіт-парада» мы надрукуем; ансамблі, рок-групы і салісты, якія зоймуць першыя месцы, будуць на плакатах «Крыніцы».





Традыцыйнае апытанне джазавых крытыкаў, праведзенае газетаю «Советская молодежь» (Рыга), замацавала тытул лепшага джазмена краіны 1987 года за вільнюскім саксафаністам Уладзімірам Чакасіным. Яму аддалі свае галасы 19 з 39 удзельнікаў апытання, у тым ліку і прадстаўнікі Беларусі Я. Басін і Д. Падбярэзскі. А вось беларускія музыканты ўсё яшчэ застаюцца за межамі джазавай «эліты» краіны. Хочацца верыць — пакуль што. Бо на папулярызацыю джаза ў рэспубліцы «працуюць» ужо два фестывалі ўсесаюзнага ўзроўню — шырока вядомая «Віцебская восень» і праведзеныя ў Мінску другі раз у гэтым годзе «Дні фартэпіяннага джаза».

Ужо праз некалькі месяцаў калекцыянеры грамзапісаў змогуць папоўніць свае зборы новымі выданнямі беларускіх выканаўцаў. Убачаць свет запісаныя ў лютым перасоўнай студыяй фірмы «Мелодия» першыя альбомы рок-групы «Сузор'е», дуэта аўтарскай песні Барыса і Галіны Вайханскіх, ансамбля фальклорнай музыкі «Свята». Выйдзе таксама чарговы аўтарскі дыск кампазітара Ігара Лучанка. Што і казаць, выпуск новых пласцінак — факт прыемны, але колькі гадоў пасля гэтага будзем чакаць першых альбомаў іншых артыстаў і аўтараў!

Няўдачы беларускіх эстрадных выканаўцаў на першых песенных тэлеконкурсах у Юрмале прымусілі перагледзець практыку адбору кандыдатаў на паездку ў гэты знакаміты горад-курорт. Больш як дзесяць прэтэндэнтаў (у тым ліку і ўладальнікі прызоў гледачоў другога рэспубліканскага фестывалю савецкай маладзёжнай песні) былі праслуханы кампетэнтным журы, што спыніла свой выбар на вакалістцы рок-групы «Сузор'е» Нэлі Дзянісавай.

Рэспубліканскі маладзёжны цэнтр «Арыенцір» паспяхова рэалізуе праграму, накіраваную на шырокую папулярызацыю творчасці лепшых самадзейных груп і аўтараў-выканаўцаў Беларусі. З пачатку 1988 года сумесна з рэдакцыямі маладзёжных праграм рэспубліканскага радыё і газеты «Знамя юности», а таксама Беларускім домам грампласцінак цэнтр праводзіць беларускі песенны хіт-парад, паводле вынікаў якога плануецца выпуск грампласцінкі на фірме «Мелодия». Лідзіруе рок-група «Мроя».

Першы Усесаюзны фестываль польскай песні, родны брат фестывалю савецкай песні ў Зялёнай Гуры, пройдзе сёлета ў ліпені ў Віцебску. Месца яго правядзення выбрана невыпадкова. Віцебск і Зялёна Гура — гарадыпабрацімы; апроч таго, у горадзе рэгулярна праводзіцца абласны конкурс польскай песні — сёлета ён прайшоў ужо сёмы раз. Спецыяльна для фестывалю, які будзе праводзіцца раз у тры гады, у горадзе пабудаваны унікальны тэатр пад адкрытым небам. Для гасцей і ўдзельнікаў прадугледжана вялікая культурная праграма, а закончыцца фестываль гала-канцэртам зорак савецкай і польскай эстрады.

Нечаканыя вынікі прынесла апытанне, праведзенае англійскім штотыднёвікам «Нью мюзікл экспрэс» з мэтаю вызначыць 100 лепшых альбомаў за ўсю гісторыю року. Цяперашняе пакаленне слухачоў ужо даволі абыякавае да музыкі выканаўцаў і ансамбляў, што ўпісалі «залатыя» старонкі ў гісторыю жанру. Амаль палова альбомаў, прадстаўленых у спісе, выпушчана ў васьмідзесятыя гады. Увайшлі ў яго, напрыклад, усе альбомы групы «Смітс», якія занялі адпаведна 1, 4, 13, 31, 37 і 82-е месцы. Тым часам альбомы «Бітлз» размясціліся адпаведна на 7, 27, 42, 63 і 65-м. У другой палове спісу апынуліся альбомы «Адваротны бок Месяца» (56-е месца) і «Сцяна» (93-е) групы «Пінк Флойд», а альбомы такіх вядомых груп, як «Лэд Зэпэлін», «Дып Пёрпл», «Йес» і «Кінг Крымсан» зусім апынуліся за межамі першай сотні. Толькі 50-ты радок заняў адзін з альбомаў ветэранаў «Ролінг Стоўнз» — куды ім да новых куміраў, тых самых «Смітс» або групы «Ісус і Мэры Чэйн» (2-е месца). Цікава толькі, дзе будуць цяперашнія лідэры гадоў праз дзесяць! Мода ж прыходзіць і адыходзіць. А «Бітлз» застаюцца...

Сусветная рок-сцэна без Ціны Тэрнер! На жаль, так можа здарыцца. Спявачка аб'явіла аб сваім намеры скончыць канцэртную дзейнасць і працаваць толькі ў студыях гуказапісу. Так што 200 тысяч прыхільнікаў Тэрнер, якія прыйшлі паглядзець яе выступленне на стадыёне «Маракана» ў Рыа-дэ-Жанейра, сталі адначасна і апошнімі шчаслiўцамі, якія бачылі яе на канцэрце.

Фонд дапамогі сляпым дзецям, якія маюць музычныя здольнасці, створаны па ініцыятыве польскага аддзялення Міжнароднай джазавай федэрацыі. Гэтую акцыю падтрымалі рэдакцыі музычных часопісаў, грамадскія арганізацыі і музыканты Польшчы, а ўлады горада Ольштын выдзелілі для патрэб фонду будынак сярэдневяковага замка. У сляпых дзяцей, захопленых музыкай, з'явіўся рэальны шанц паўтарыць шлях да поспеху, пройдзены знакамітымі сляпымі музыкантамі Рэем Чарльзам, Стыві Уандэрам і Хасэ Фелісіяна.

**Дзяжурыў на тэлетайпе**
**Юрый СВЕТАЎ**









Заканчэнне. Пачатак на стар. 2.

Зрэшты, гэтыя гульні можна з поўнай падставай лічыць дзелавымі: гуляючы, навучэнцы стварылі 14 навучальных і экзаменацыйных праграм па фізіцы, матэматыцы і спецтэхналогіі.

А вось працу навучэнцаў у майстэрнях ніяк не назавеш гульнёй. Летась, напрыклад, у СПТВ быў створаны працоўны атрад, за канікулы будучыя трактаразаводцы зрабілі па заказах сваіх шэфаў столькі запчастак, што самі зарабілі па 400—500 рублёў. Дарэчы, зарплату ім налічыла ЭВМ, устаноўленая ў вылічальным цэнтры вучылішча.

Вось такая электроніка.



Міхасю Скоблу ў паветрана-дэсантных войсках, у якіх ён служыў пасля першага курса універсітэта, вельмі хацелася спяваць, калі ён скакаў з парашутам. Вярнуўшыся летась у чэрвені з войска, Міхась упадабаў хуткую язду на «Ковровце», асабліва ў суботу і нядзелю, калі ў вёсках Зэльвенскага раёна моладзь танцуе, а з горада прыязджае шмат дзяўчат. А яшчэ Міхась любіць чытаць. Кнігі паэзіі і прозы, кнігі па гісторыі літаратуры, мастацтва, навукі, культуры... І піша вершы. Бывае, што і на лекцыях у родным БДУ...

**Міхась СКОБЛА**

Праўды людской супольніцы —
Кнігі Скарыны, Буднага,
Крыж Ефрасіні Полацкай...
«Страчана...», «Знікла...»,
«Згублена...»

Быццам драбнюткая мачына,
Бы каласок апошні,
Згублена песня матчына
Разам з сярпом на пожні.

Страчаны продкаў звычаі.
Пнецца мяшчанства, хоць трэсні:
«Жыцьмем, маўляў,
пазычаным —
Казкай чужой і песняй!»

А па-над штучным прадзівам
Магнітафоннай стужкі
Мова далёкіх прадзедаў
Просіцца ў нашы душы!

Свае ратуючы палотны,
Матэйка ўстане і Гаген,
І Моны Лізы твар самотны
Закрые прывідная цень.

І не схаваешся за дзверы,
Ці ты стары ці малады.
Як не хапае рук Венеры,
Каб засланіцца ад бяды!..

Пад гукі гусляў адмысловых
Устане мой славянскі род,
Над галавой узняўшы «Слова...»,
Якому восем соцень год.

Дружыны той цяжкія крокі
Падхопяць вецер і вада.
І — хай маўчаць усе прарокі! —
Адступіць чорная бяда!

А што было б, каб не паспелі!
А што было б, каб не змаглі!
Няўжо апошні дзень Пампеі
Калісці суджаны Зямлі?!

Вялі праз сухмень і паводкі
Шляхі, ды не ў Рым, не
ў карчму.
А ноччу маўклівыя продкі
Ішлі спавядацца яму.

І слухала сэрцам, вачыма
Зямля беларуская ўся
І цяжкія крокі Вашчылы,
І словы свайго Кастуся.

Ні здрады, ні краты, ні страты
Іх волю зламаць не маглі.
Скажыце, а хто вінаваты,
Што іх не шануем магіл?!

...На звон старажытнае вежы
Збіралася веча... Пастой!..
І зноў падавалася свежай
Зямля пад капліцай пустой.

Нядобра ад мрояў трывожных.
Наступнікаў водгалас дзе?
Прыгонны вякоў, Падарожны
Праз Вечнае поле ідзе.

## У МУЗЕІ

«Страчана...», «Страчана...»,
«Страчана...» —
Надпіс на кожным цэтліку.
З памяццю спячаю Спадчыну
Не зберaглі мы цэлаю.

Комін над зрубам з пластыку
Тоіць цяпло няшчырае.
З пластыку нават ластаўкі —
Вымерлі недзе ў выраі.

Гмахі да хмар будуючы,
Не зберaглі мы цэркаўку...
Скемім, маўляў, у будучым
І па музейным цэтліку.

◆ ◆ ◆

«Прыгажосць выратуе свет».

Ф. Дастаеўскі

Ноч запальнічкамі трамваяў
Трывожна крэсліць небасхіл,
І да світання ціш трывае,
І не чуваць савіных крыл.

Хоць свет людскога гора повен,
Ды страшны выбух ТОЙ, павер,
Пачуе ўсё ж глухі Бетховен,
Убачыць з год сівых Гамер.

Ніштo маўкліва не загіне,
А як на праведным судзе
Прачнецца скрыпка Паганіні,
Цар-звон трывожна загудзе.

## БАЛАДА ПРА ПАДАРОЖНАГА

У. Караткевічу

Адклаў тэрміновыя справы
І ў свет з-пад абжытай страхі
Пайшоў, не шукаючы славы,
Забраўшы з сабою грахі.

Навокал крычалі: «Пакайся!..»
А ён, нібы сам сабе бог,
З парожняй дарожнаю кайстрай
Шукаў занядбалых дарог.

І травы густыя і церні
Залапілі колішні брук...
Святлелі мінулага цені
Ў застрэшшы зажураных рук.

## У АНУФРЫЕЎСКІМ МАНАСТЫРЫ

Лісце падае ніцма
На старажытны брук.
Стрыйскаму парку сніцца
Стома друкарскіх рук.

Слова братоў па веры
Дрэмле ў келлі пустой.
Вецер скрабецца ў дзверы,
Просіцца на пастой.

У манастырскай клеці
Між святых і багоў
Той заблудаўскі вецер
Брата знайшоў свайго.

Шрыфты пыляцца ў скрыні,
Час не спрыяў сяўбе.
Кліча зямля Скарыны
Зноў яго да сябе.

Слова славян праславіць,
Даць яму гук і рух
Рупіцца Пётр Мсціславец,
Даўні паплечнік-друг.

Столькі задумак новых,
Столькі шляхоў-дарог!..
Вучань Грынь Івановіч,
Дапамагай нам бог!

...Восеньскай ноччу соннай
Над цішынёй стаўка
Парку чуцён і сёння
Грукат яго станка.

## ..Мроя

1981 год. Студэнты Мінскага мастацкага вучылішча вырашылі стварыць свой рок-гурт «Мроя». Склад, які вызначыўся тады, не змяніўся да сённяшняга дня: Юрась Ляўкоў — вакал, бас-гітара, Алег Дземідовіч — ударныя, Уладзімір Давыдоўскі — вакал, лідэр-гітара, Лявон Вольскі — лідэр-вакал, клавішныя.

1985—1986 гг.— рок-музыкі «Мроі» выконваюць свой грамадзянскі абавязак: служаць у Савецкай Арміі.

1986 год, лістапад — дэмабілізацыя, другое нараджэнне «Мроі» ў старым складзе, падрыхтоўка новай версіі праграмы «Стары храм», канцэрт у Мінскім Доме літаратара, першы поспех — запрашэнне ў студыю радыёстанцыі «Савецкая Беларусь».

1987 год — першыя радыёпрэм'еры. Песні «Не страць», «Чужы горад», «Стары храм» і іншыя заваёўваюць сімпатыі публікі. Рок-гурт рыхтуе новую праграму — «Зрок». «Мроя» выступае на рок-фестывалі «Гродна-87».

1988 год — шэраг канцэртаў у студэнцкіх і рабочых клубах, у якіх гучаць творы з будучай — трэцяй па ліку — праграмы, асаблівым поспехам карыстаецца песня «Я — рок-музыкант».

Я — рок-музыкант,
Рок-музыкант старых традыцый.
Гэта не прызванне,
Гэта — пазіцыя.

Праграма «Стары храм» (1983 год) была толькі спробаю засваення ў рок-музыцы нацыянальнага фальклору (перш за ўсё мовы). І не дзіва, што стылістыку рок-гурта досыць дакладна вызначалі традыцыйныя тэрміны. Спачатку музыку «Мроі» называлі хард-рокам. Потым выявіліся элементы панк-року. Аднак тэрміны падбіраліся паводле адных вонкавых прыкмет. Калі ж паглядзець глыбей, то ўжо ў праграме «Рок» пошук прывёў «Мрою» да вывучэння традыцый абраднай музыкі нашага народа. Згадаць хаця б іх песню «Купальскі круг» ці своеасаблівую версію народнае песні «Было ў мамкі тры сыночкі».

**Віктар МАРТЫНЕНКА**



НЕКАЛЬКІ ІНТЭРВ'Ю НА ВЕЧНУЮ ТЭМУ



Святлана БАРТОХАВА

# РАЗМОВА ПАД САМЫМ ДАХАМ

**У майстэрню мастака Міколы Селяшчука, якая знаходзіцца паміж небам і зямлёю — пад самым дахам старога мінскага дома, мне прыйшлося дабірацца па бясконцай лесвіцы не адзін раз, таму што размова нашая з розных прычын расцягнулася на некалькі дзён. Пасля ён прызнаўся, што яму было б лягчэй разгрузіць дзесяць вагонаў з капустаю, чым адказваць на пытанні пра Жанчыну і Каханне. Нічога дзіўнага, прыкладна такія ж прызнанні я чула і, думаю, яшчэ пачую ад кожнай чарговай «ахвяры» маёй неадступнай цікаўнасці.**

**Міжволі закрадваецца падазрэнне, што ўсе мы ці то не хочам, ці то не ўмеем быць раскаванымі і шчырымі. Мы можам уголас паразважаць, скажам, пра дабро і зло, пра грамадзянскую пазіцыю і школьную рэформу, пра павышэнне цэн і нядаўна створаны рок-гурт і можам нечакана сумецца ў размове аб простым і вечным... Хоць, з другога боку, ці ж так гэта проста — разважаць пра вечнае, ды яшчэ ведаючы, што цябе пачуюць многія?..**



Канец сезона туманоў.

— ...Мікалай Міхайлавіч, што такое жаночая прыгажосць?

— Цяжкае пытанне... Я ніколі не спрабаваў сфармуляваць, што гэта такое.

— А калі паспрабаваць?

— У кожнага мастака сваё ўяўленне прыгажосці — гэта залежыць ад яго эстэтычных прынцыпаў. Напэўна, трэба гаварыць пра сукупнасць знешняга і ўнутранага, бо кожная драбяза ў абліччы, кожны штрых у характары іграюць на вобраз жанчыны, ствараюць тое, што называецца прыгажосцю. Адзенне і макіяж, выраз вачэй і паварот галавы, здольнасць мысліць, уменне кантактаваць з іншымі людзьмі і шмат што іншае — усё гэта і складае жаночую прыгажосць.

— Што трэба дзеля таго, каб стаць прыгожай?

— Думаю, перш за ўсё неабходны працаздольнасць і талент. Працаздольнасць — бо прыгажосць патрабуе пастаяннай працы: ад звычайнай ранішняй гімнастыкі да развіцця інтэлекту. Талент — бо трэба ўмець сканцэнтраваць увагу на сваіх вартасцях, удасканальваць іх і дапаўняць.

— Хто з мастакоў, на ваш погляд, найбольш поўна раскрыў жаночую сутнасць?

— Жанчына бясконцая, як сусвет, і ніводны мастак, нават самы геніяльны, няздольны спасцігнуць яе. Успомніце Рэнуара, Тулуз-Латрэка, Рубенса... Кожны па-свойму раскрываў вобраз жанчыны, але нікому з іх не ўдавалася ахапіць неабдымнае.

— Над чым вам, як мастаку, цікавей працаваць: над жаночымі партрэтамі ці над мужчынскімі?

— Над жаночымі, вядома.

— Чаму?

— У жаночым характары больш таямніцы. Мужчыны мне зразумелыя і таму менш цікавыя.

— Раз мы ўжо загаварылі пра жаночы характар, то хацелася б даведацца, якая рыса вам асабліва непрыемная?

— Хлуслівасць. Зрэшты, гэтая рыса непрыемная ў любым чалавеку, незалежна ад полу.

— А што вы цэніце ў жанчынах?

— Тое ж, што і іншыя мужчыны: дабрыню, пяшчоту, розум, прыгажосць, жаноцкасць...

— Што такое жаноцкасць?

— Ды як вам сказаць... Па-мойму, усё лепшае ў жанчыне і ёсць жаноцкасць...

— А ўсё горшае?

— А горшае не мае ніякага дачынення да гэтае якасці.

— Як вы ставіцеся да эмансіпацыі?

— Неадназначна. З аднаго боку — жанчына мае магчымасць як мага больш поўна рэалізаваць сябе як асоба, хоць і раней яе не надта прыціскалі... З другога боку — жаночая незалежнасць прымае часам пачварныя формы.

— Што вы маеце на ўвазе?

— Што я маю на ўвазе?.. Сярод маіх знаёмых мужчын зусім мала такіх, што кураць і п'юць, затое ёсць жанчыны, якія гэта робяць. Хіба гэта нармальна? Дарэчы, вялікая колькасць дзіцячых дамоў — таксама горкі вынік эмансіпацыі: столькі сірот пры жывых матках! Я ўжо не кажу пра тое, што ў празмерна эмансіпаваных, такіх, што кураць і п'юць, жанчын часта нараджаюцца непаўнацэнныя дзеці.

— Падазраю, што вы і да дзелавых жанчын ставіцеся прадузята...

— Не хацелася б ставіць ацэнкі ці выносіць прысуд... І ўсё ж дзелавітасць не ўпрыгожвае жанчын, бо часта пазбаўляе іх пяшчотнасці, мяккасці, жаноцкасці. Мне здаецца, роля начальніка, напрыклад, проціпаказана самой жаночай прыродзе. Так ці інакш выпрацоўваецца камандзірскі голас, вуглаватасць у пластыцы, аскетычнасць у адзежы, нават выраз твару робіцца суровы. Немагчыма быць кіраўніком і захоўваць жаноцкасць, гэтыя выключэнні вельмі рэдкія.

— Нічога не скажаш, сумную карцінку вы намалявалі. Можа, таму і рыцараў не стала, што жанчыны занадта незалежныя?

— Магчыма.

— Што ж нам цяпер рабіць са сваёй эмансіпацыяй?

— Не ведаю, рэцэптамі тут не дапаможаш. Напэўна, проста не трэба перарабляць прыроду, яна ж усё разлічыла. Жанчына павінна быць жанчынаю, і лепш ёй абыходзіцца без мужчынскіх якасцей у сваім характары.

— Што вы думаеце пра так званую «свабоду нораваў» у маладзёжным асяроддзі? Адна настаўніца з абурэннем расказвала мне, што калі яна загаварыла пра дзявочы гонар, вучні сталі смяяцца з яе.

— Маладосць — пара дапытлівасці, імкненне пазнаць як мага больш, так што павышаная цікавасць да процілеглага полу натуральная і драматызаваць яе не варта. Але нельга не асуджаць недахопы полавага выхавання ў школе, дакладней, яго адсутнасць.

— Напэўна, не апошнюю ролю адыграла тут нашая празмерная сарамлівасць, а часам і ханжаства ў пытаннях полу.

— Згодны з вамі. Дзіўна, але ніпто ў прыродзе так не саромеецца самога сябе, як чалавек. Згадайце, напрыклад, шматлікія забароны на эротыку ў мастацтве. Менавіта забароны выклікаюць нездаровую цікаўнасць да яе, і не толькі ў моладзі.

— Дарэчы, пра ханжаства... Мне неаднойчы прыходзілася чуць рэзкія выказванні наконт натуршчыц, якія пазіруюць мастакам аголенымі. Некаторыя лічаць іх асобамі лёгкіх паводзін, а гэта не зусім так.



Уваскрасенне.

— Я ведаю пра такое стаўленне да натуршчыц, яно несправядлівае.

— Скажыце, а як бы вы самі зрэагавалі, калі б вашая каханая жанчына пазіравала некаму аголенай? Толькі шчыра.

— Вы загналі мяне ў кут... Калі шчыра — мне было б непрыемна.

— Але ж вы ведаеце, што паміж натуршчыцаю і мастаком часцей за ўсё спакойныя адносіны, без якойсьці эротыкі. І для яе, і для яго гэта ўсяго толькі праца.

— Усё так, аднак мне не хацелася б, каб маю каханую бачылі аголенай іншыя мужчыны... Я не змагу растлумачыць... Напэўна, калі кахаеш, робішся ўласнікам і міжволі падпа-

(гл. «Крыніцу» № 2—4)

радкоўваешся перажыткам...

— Як вы думаеце, ці магчымае каханне без рэўнасці?

— Мяркую, што не. Раўнаваць — значыць быць неабыякавым. А калі не раўнуеш, інакш кажучы, абыякавы,— якое ж гэта каханне?

— А што такое каханне?

— Цікава, я сам спраўкаваў пытанне ці вы яго запланавалі?

касць разводаў. Што, па-вашаму, можа стаць уважлівай прычынаю распаду сям'і?

— Сям'я распадаецца, калі ўзнікае невырашальны канфлікт. Аднак любы сямейны канфлікт значна прасцейшы за міжнародны, і пры жаданні заўсёды можна знайсці спосаб яго ліквідаваць.

— Ці могуць побытавыя прычыны

Хроніка аднаго вечара.

— Я яго запланавала.

— Шкада, што вы не папярэдзілі мяне пра гэта па тэлефоне. Я не рызыкнуў бы самахоць пайсці на такую экзекуцыю.

— Ведаю, таму і не папярэдзіла, прабачце ўжо... Дык што ж такое каханне?

— Гэта невядомая сіла, якая цягне аднаго чалавека да другога. Як і ўсякае пачуццё, яе немагчыма вызначыць словамі, бо ніхто не ведае, дзе яго межы.

— Што значыць змагацца за каханне?

— Пастаянна выяўляць перад каханым чалавекам усё лепшае, што ёсць у табе, што дае магчымасць узвысіцца ў яго вачах.

— У апошні час павялічылася коль-

стаць сур'ёзным повадам для разводу?

— Калі побытавыя цяжкасці прывялі да разводу, значыцца, сям'і проста не было. Побыт — гэта другараднае, а сапраўдная прычына ў чымсьці іншым. Напрыклад, прайшло каханне, разбураны ідэалы — тады сапраўды крах.

— Хто з сужэнцаў павінен першы пайсці на ўступкі?

— Той, хто вінаваты.

— А калі кожны лічыць, што ён невінаваты?

— Значыцца, трэба ісці на кампраміс, калі, вядома, абое даражаць сям'ёю. Усё-такі яна ствараецца для садружнасці, а не для варожасці.

— Апошняе пытанне: ці дапускаеце вы, што адзінота можа зрабіць чалавека шчаслівым?

— Не. Калі нехта сцвярджае адваротнае, гэта хутчэй за ўсё бравада.





# ПРАДЧУВАННЕ МІНУЛАГА

Заканчэнне. Пачатак на стар. 18

вацца, бо ёй патрэбна ад Жыгімонта не ўлада, а каханне,— толькі ўзмацняе яго рашучасць. У 1550 г. адбываецца каранацыя Барбары, а ў 1551 г. яна... памірае. Хадзілі чуткі, што яе атруцілі па загаду Боны, але фактычнага пацверджання гэтыя чуткі не маюць...

«Люблінская унія», вялікае палатно Яна Матэйкі, створанае да трохсотгоддзя з дня заключэння уніі; за яго мастак атрымаў у 1870 годзе ў Парыжы ордэн Ганаровага легіёна.

Люблін, 1 ліпеня 1569 года, адбылася ўрэшце падзея, да якой Польшча імкнулася стагоддзямі, а Вялікае княства Літоўскае стагоддзямі гэтаму супраціўлялася. Утварылася агульная дзяржава — Рэч Паспалітая. Палякі не дабіліся поўнай інкарпарацыі Княства ў склад Польшчы, але і Княству не ўдалося цалкам адстаяць сваю палітычную незалежнасць.

Прыгледзімся да двух удзельнікаў цырымоніі прысягі, двух «начальных людзей» Княства: з апушчаным долу мячом — ваявода віленскі, канцлер літоўскі Мікалай Радзівіл Рыжы, за яго спіной — маршалак вялікі літоўскі, адміністратар Лівоніі Ян Хадкевіч. Што хаваецца за іх азмрочанымі, задумлівымі тварамі? Можа, раскаянне за той раптоўны ад'езд з сейма дэлегацыі Княства, што быў выкліканы нежаданнем палякаў прыняць прапанаваныя ім умовы уніі? Гэты ад'езд даў каралю магчымасць прымусова далучыць да Польшчы Падляшша, Валынь, а затым і Кіеўскую зямлю, якія здаўна ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага.

У Люблін дайшлі чуткі, што пасля абвяшчэння гэтага каралеўскага універсала (12 сакавіка 1569 г.) нейкія два ўплывовыя магнаты княства збіраліся ехаць у Крым, каб падняць на Польшчу татараў, бо ўласныя рэсурсы Вялікага княства Літоўскага былі ўжо вычарпаны вайной з Іванам Грозным, які раба-



«Бітва пад Грунвальдам». Вітаўт Вялікі.



«Касцюшка пад Рацлавіцамі». Фрагмент.



«Жыгімонт і Барбара».

ваў усходнюю Беларусь, нібы сваю Наўгародскую зямлю: гэтая вайна і падштурхнула Княства да уніі з Польшчай.

Створанае ў 1878 г. палатно «Бітва пад Грунвальдам» не без падстаў лічыцца вяршыняй творчасці Яна Матэйкі. Значэнне грунвальдскай перамогі 1410 года над крыжакамі для гісторыі Польшчы, Літвы, Беларусі — велізарнае і агульнапрызнанае. Мужнасць і сіла народаў накіроўваліся стратэгічным талентам стрыечных братоў — караля польскага Ягайлы і вялікага князя літоўскага Вітаўта. Мікола Гусоўскі ў «Песні пра зубра» пісаў пра Вітаўта:

**Войны прадбачачы ўслед**
**за малой перадышкай,**
**Князь рыхтаваў да вайны**
**сваё войска і княства.**
**Мудрая справа — у часе**
**самой падрыхтоўкі**
**Вытравіць боязь і страх**
**са свядомасці вояў**
**І прывучыць іх зараней**
**да ўсякай нягоды.**
**Сам гартаваны, як меч**
**на кавалдзе паходнай,**
**Вітаўт і знаць не хацеў сабе**
**большага шчасця,**
**Чым гартаваныя ў бітвах**
**бясстрашныя раці.**

Згодна з гістарычнай праўдай Ягайла намаляваны воддаль ад бітвы, Вітаўт жа, злёгку ідэалізаваны,— у самым яе цэнтры...

Праз дзесяць гадоў пасля з'яўлення «Бітвы пад Грунвальдам» Ян Матэйка выстаўляе карціну «Касцюшка пад Рацлавіцамі», прысвечаную знакамітай перамозе паўстанцаў на чале з Тадэвушам Касцюшкам над буйным атрадам царскіх войск. Нацыянальны герой Польшчы, удзельнік вайны за незалежнасць ЗША, Тадэвуш Касцюшка паходзіў з беларускае шляхты, прадстаўнікоў якой было шмат сярод паўстанцаў. Праз паўгода пасля Рацлавіцаў, у бітве каля Мацэёвіцаў, цяжка паранены Касцюшка трапіць у палон, будзе заключаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Потым — эміграцыя і вечнае расстанне з Радзімай...

Шмат старонак гісторыі прыадчыняюць карціны Яна Матэйкі.

Творчасць гэтага мастака — прыклад гарманічнага спалучэння глыбокага патрыятызму з высокім мастацтвам.

# ЦАР СЯМЁН ІВАШКІН

**Васіль ХОМЧАНКА**

АПОВЕСЦЬ



На сасне былі падвешаны жалезная бочка і цяжкі рашпіль. Гэтым рашпілем і білі па бочцы, калі трэба было сыграць у калоніі пад'ём або пастроіць зэкаў на праверку. Біў звычайна нарадчык ці хто-небудзь з дзяжурных шасцёрак — пісар, вахцёр, днявальны.

У тую раніцу гэткім жа сігналам абвясцілі пад'ём. Ранак быў халодны, пахмурны, туманны. Панура стылі ў ранішнім золку вакол трох палатак-баракаў дрэвы. Туман, шэры і густы, ляжаў на гразкай зямлі нізка, чалавеку па калена. Як і дрэвам, і зямлі, холадна было і туману, і ён, нібы жывое стварэнне, стараўся ўлезці ў палатку да чалавечага цяпла. Сопка, што ўзвышалася недалёка ад калоніі, не зелянела, як у сонечныя дні, а здавалася голай скалой. Сонца ўзышло, але не магло прабіць густыя і шэрыя хмары, таму думалася, што яшчэ вельмі рана і жлоб-нарадчык падымаў калонію да пары. Уставаць і выбягаць з цёплых палатак зэкі не спяшаліся, ляжалі на нарах, збітых з абчэсаных жэрдак і накрытых замест сяннікоў яловым лапнікам.

Калонія была новая, нядаўна створаная і яшчэ невялікая, усяго каля двухсот чалавек. Месяц назад прывялі іх пешшу сюды, у таежную неруш. На палянцы паставілі палаткі, і калонія пачала існаваць, атрымаўшы і свой нумар, і сваё рабочае заданне: пракладваць праз тайгу ляжнёўку — часовую, з бярвенняў, дарогу. Агароджы, кантрольна-прапускной будкі і вышак для вартавых яшчэ не было, ды і ахова не баялася, што нехта ў гэтыя дні паспрабуе ўцякаць: у тайзе разводдзе, скрозь заліта вадой. Не было і кандзея — карцэра, штрафнога ізалятара.

Сыграў пад'ём нарадчык Бутэнка, якога для зручнасці звалі Бутам, і, убачыўшы, што ніхто з палатак не паказваўся, зайшоў у першую палатку падымаць і выганяць зэкаў. У палатцы цёпла, днявальны ўсю ноч добра паліў у печы — жалезнай бочцы, абкладзенай сяк-так камянямі. Цяжкі дух ударыў у нос нарадчыку, і ён на ўсё сваё здаровае горла закрычаў:

— Дрыхнеце, дахадзягі, маць вашу, наванялі,— тапор вешай!.. Ану пад'ём, маць вашу!..

Нары ў палатцы ў два паверхі, зэкі на іх спалі ўсутыч адзін да аднаго. Бут ішоў уздоўж нар, каго штурхаў у бок, каго цягнуў за нагу. Тых, хто спаў на ніжніх нарах, біў нагой па нагах. Некага лупцануў, відаць, балюча, і той закрычаў:

— Гад, чаго капыты распусціў? Калуна захацеў?

Бут нагнуўся, зірнуў на нары — хто гэта яму калуном пагражаў,— сказаў:

— Я табе, сяўка, калуна прыпомню,— яшчэ раз тыцнуў таго нагой і пайшоў далей.

Нехта здзекліва заспяваў, адрасуючы свой спеў Буту:

Нас нарадчык падымае,
На работу выганяе.
А ты ж знаеш, што ў суботу
Мы не ходзім на работу,
А субота кожны дзень у нас...

Усталі амаль усе, заставаліся ляжаць на нарах тыя, хто ці моцна спаў і не мог сам прачнуцца, ці захварэў, або, надумаўшы пафілоніць, сімуляваў хваробу.

Недалёка ад печкі на ніжніх нарах ляжалі трое, тры пары буцаў (іх шылі зэкам з расслоеных аўтамабільных пакрышак) радком выстраіліся на краі нар. Нарадчык ведаў, хто там ляжаў, аднак не стаў штурхаць нагой па буцах, як іншых, а тузануў рукой.

— Прафесар, пад'ём! Хопіць прыпухаць.

Гэтак жа тузануў і прафесаравага суседа.

— Нарком, пад'ём! Плоў з бараніны чакае.

Прафесар Гарбуз сеў, абхапіў рукамі галаву. Спаў ён, як і ўсе ў палатцы, у адзенні — у ватных штанах, бушлаце, буцах. У яго высокі лоб, шырокая прафесарская лысіна, барада, вусы. Ён не галіўся, а толькі часам трохі падстрыгаўся.

— Галава баліць, цела гарыць, мне б да лекпома.

Той, каго Бут назваў наркомам, быў не рускі, смуглы, з агніста-чорнымі і вузкаватымі вачамі, круглым, трохі скуластым тварам азіята. Ён, як устаў, адразу ж падступіўся да печкі пагрэцца, нахіляўся да яе, цёр над ёю рукі.

— Харашо печка. Ташкент летам,— сказаў ён і выйшаў з палаткі.

Заставалася тырчаць яшчэ адна пара ног у буцах. Нарадчык прыгнуўся, пазнаў, хто там.

— Цар, а ты чаго дрыхнеш? Ану быстра на цырлах на праверку!

Цар ускочыў порстка і паслухмяна, нібы толькі і чакаў гэтай каманды, патрос галавой і весела, дурнавата заўсміхаўся. Заўсміхаўся, гледзячы на яго, і Бут. Да іх падступіла яшчэ некалькі зэкаў.

— Ну, Цар, кім жа ты быў сёння? Што рабіў?

— Баляваў. Ой і ба-ля-ваў! — Цар ляпнуў у далоні, пацёр імі, крутнуў галавой.— Браткі, баляваў я ўсю ноч на печы. Ведаеце, з кім?

— З царыцай, нябось?

— Не, з жонкай...

— Цю, са сваёй?

— Ды не, з жонкай нашага начальніка энкавэдэ. Во з кім. Гэта я яму так адпомсціў. Во!

Бут пагардліва-насмешліва махнуў рукой і выйшаў з палаткі на двор, дзе зэкі ўжо выстрайваліся на праверку. А Цар працягваў расказваць.

— Ён, гэты наш начальнік энкавэдэ, сам па мяне прыехаў, сам забраў і павёз. Сказаў, што быццам на допыт і на вочную стаўку з папом. Служыў у нас такі бацюшка Восіп, яго яшчэ ў трыццатым забралі на Беламорканал, а праз сем гадоў прывезлі чамусьці назад. Сказаў мне, каб я з сабою нічога не браў, да вечара адпусціць. Ну я і не ўзяў нічога, толькі перад дарогай паабедаў. За стол пасадзіў і таго начальніка, пачаставаў яечняй з салам, сыраквашай. Ён еў, хваліў абед і мяне, гаспадара. А потым прыехалі мы з ім у раён, і той начальнік адразу мяне ў каталажку... Сяджу дзень, два, тыдзень. Праз месяц выклікае мяне і аб'яўляе: рашэннем асобай тройкі табе, Івашкін, дзесяць гадоў лагера. А я яму: дзякуй, начальнічак, гэта ты мне такое спасібачка прыбярог за маю яечню з салам?.. А ён паляпаў мне па плячы і кажа: «Дурань, радуйся, што толькі дзесяць, а не пятнаццаць ці дваццаць пяць гадочкаў».

— Ты, значыць, троечнік? — здзівіўся прафесар і, здаецца, яму пазайздросціў.

— Ага, троечнік, а што? А паслалі маю справу на тройку таму, што незашта было судзіць. Вось я таму нашаму энкавэдысту і адпомсціў. Жонку яго зацягнуў да сябе сёння на печ і ўсю ноч з ёю... Баляваў. Во! — плёў ён.

Цар — гэта яго лагерная назоўка, мянушка. Сапраўднае прозвішча самае простае — Івашкін Сямён Фролавіч. Калгаснік-ударнік — так ён сябе рэкамендуе пры знаёмстве. Расточку невялікага, дробны целам, па-сялянску цягавіты. Твар з дробнымі рысамі, валасы бялявыя, на твары растуць слаба, рэдка, вочы сіненькія з адкрытым шчырым позіркам, не здольныя ў сябе хаваць хітрасць або нядобрую затоенасць і каварства. Зірні ў іх — і пазнаеш: не хлусіць Івашкін. Як кажуць, ён з тых, на каго глядзець весела. Ён і стараўся быць вясёлым, праўдзівым, калі не лічыць ягоныя верзяі, фантазіі, якія ён плёў падобна гэтай пра начальніцкую жонку, якую быццам бы сёння ўначы спакусіў. Баяў ён свае байкі і для сябе, каб забыцца, адчужыцца ад рэальнасці, і каб пацешыць зэкаў. Яго слухалі з ахвотай, хоць ведалі, што пляце, выдумляе на хаду, асабліва любілі верзяі вясёлыя, са шчаслівым канцом, што ўласціва дзецям і зняволеным.

— Я магу быць самым багатым. Магу пабыць генералам, царом,— хваліўся ён.

І хто ўпершыню такое чуў, лічыў яго ненармальным, псіхам, чокнутым, з тараканам у галаве.

— Можа, пакажаш, які ты багацей? —



пытаўся той недаверліва і здзіўлена.

— А што і пакажу, і цябе навучу ім быць. Вось ляж або сядзь, заплюшчы вочы і думай, думай, што ты жывеш у вялізным доме, а там поўныя куфры дабра, мех грошай, на скавярадзе сала сквірчыць, чыгунок сопкай гарачанькай бульбы стаіць... А ты ета сала на відэлец ды на бульбачку, а потым яе ў рот. Сма-ачна!..

— Змоўкні, закрый сваю хлебагрызку,— не выцерпваў нехта, спыняў Івашкіна.— Жывот звяло ад тваіх баек. Сала на бульбачку...

— Ну вось, значыцца, і ты пабыў за тым багатым сталом,— радаваўся дзіцячай радасцю Івашкін.

Ён хваліўся, што і сны бачыць паводле свайго жадання. Захоча пабыць у сне генералам ці панам — і прысніцца такі сон. Аднойчы, калі расказваў, як сніў сябе царом, як сядзеў на царскім троне і на стале было столькі смажанага-паранага, што на ўсю калонію хапіла б, а яго, цара, абслугоўвалі ажно тры царэўны і царыца, да Івашкіна так і прыліпла назоўка Цар.

Фантазія ў яго была багатая, сюжэты баек — мудрагелістыя, з цікавымі бытавымі падрабязнасцямі — гэта калі апавядаў пра вясковае жыццё. Але якія падрабязнасці побыту таго ж цара, генерала мог прывесці Івашкін у сваім выдуманым аповядзе-байцы? Што ведаў ён пра іх жыццё? Таму, калі даводзілася баяць, скажам, пра яду за царскім сталом, дык была яна тая ж, што і ў селяніна: сала, яечня, бліны, каша з малаком, бульба-цалкі, крупеня забеленая... А насілі цары ды паны кажухі, боты юхцевыя, валёнкі з галёшамі... Дзе там было яму ведаць пра шаўкі, парчу, залатыя прыборы, сервізы, дываны, крэслы...

Хоць Івашкіна і велічалі царом, але ён зусім не па-царску быў безабаронны, кожны зэк мог яго пакрыўдзіць, не атрымаўшы здачы, але ж не крыўдзілі, паважалі яго за вясёласць, за байкі, і нават сёй-той з шасцёрак яго падкармліваў.

Івашкіну было гадоў пад сорак, а можа, і болей. Такія дробныя, бялявыя і сінявокія выглядаюць маладжавымі і ў старасці.

Зэк, былы студэнт з Астрахані Мардоўкін сёе-тое з баек Івашкіна запісваў, а навошта — не гаварыў, можа, збіраўся калі-небудзь іх надрукаваць, ці з той байкі-верзяі, нешта перарабіўшы, напісаць сваё. Многія ведалі, што студэнт — сачыніцель, вершы складае, ён часам і чытаў іх сяму-таму, часцей прафесару Гарбузу.

— Цар, а па якой ты стацці сядзіш? — пыталіся ў яго пры знаёмстве.

— У мяне няма стацці,— адказваў Івашкін,— у мяне тры буквіцы — КРД, контррэвалюцыйная дзейнасць. Так і ў маім фармуляры запісана, спытай у нарадчыка. Мне стаццю і не прад'яўлялі.

— А мы думалі ты СВЭ, крымінальнік.

СВЭ азначала — социально вредный элемент. У калоніі з гэтым таўром было шмат зэкаў. Іх, як і каэрдэшнікаў, зняволілі без суда паводле рашэнняў тых жа асобых троек...

У палатцы заставаліся Гарбуз (яго пачало трэсці, як у ліхаманцы, і ён туліўся да печы) і Мардоўкін, які баяўся за Гарбуза, што той можа ў непрытомнасці зваліцца на печ, асцерагаў яго.

— Вы прылягце на нары, прылягце,— угаворваў ён прафесара,— а я лекпома прывяду. Пампатруду скажу.

Івашкін, які ўжо выйшаў з палаткі, зноў вярнуўся да Гарбуза і стаў раіць яму, што трэба рабіць, каб не трэсла.

— Ты рукамі абхапі плечы і сціскай іх, сціскай, і сагніся, скамяч сябе вось так,— паказваў ён. Адзеты ва ўсё ватнае, сцёганае, ён не выглядаў большым, папаўнелым. Шапка-вушанка была ў двух месцах прапалена, і з тых дзірак вытыркаліся дзве белыя пасмы валасоў. Мардоўкін зірнуў на Івашкіна, засмяяўся — козлік з рожкамі, лесавічок.

У гэты момант раскінуліся полы палаткі, усунулася галава брыгадзіра Жугрова, або Жугра, як яго тут часцей называюць.

— Эй ты, тыква-гурбуз, на пастраенне. І ты, сачыніцель, давай, давай! — крыкнуў ён і апусціў полы.

Гарбуз устаў і, абхапіўшы сябе рукамі за плечы, як раіў Івашкін, падаўся да выхаду. За ім пайшлі і Мардоўкін з Івашкіным. Ісці Гарбузу было цяжка, ногі ў нязграбных буцах ледзь перасоўваў па засланай лапнікам падлозе. Яны былі нібы спутаныя вераўчаным путам або нажнымі кайданамі.

«Хоць бы не даў дуба»,— падумаў са страхам Івашкін, перахрысціўся сам і перахрысціў Гарбуза.

Гэтага ж баяўся і Мардоўкін.

Той дзень быў самы звычайны лагерны, без асаблівых падзей і здарэнняў, адзін з тых многіх тысяч, якія належала кожнаму яшчэ пераЖыць. Пасля праверкі былі снеданне, развод і праца. Івашкіну ўдалося зарабіць дадатковую, або касую, як называюць зэкі, порцыю кашы. Ён прывалок на кухню з тайгі сухіх дроў, і за гэта кухар кінуў яму ў міску яшчэ добры чарпак. Ды і з хлебам пашанцавала пры дзяльбе — дастаўся акраец. І таму Івашкін на снеданні абышоўся без хлеба, пакінуў яго на абед і вячэру.

Гарбуза лекпом вызваліў ад працы, пакінуў у палатцы. У калоніі засталіся яшчэ некалькі хворых, а таксама начальства — пампабыту, пампатруду, пампаліт і розныя прыдуркі. А просты люд калонай пад аховай стралкоў прайшоў пад аркай на трасу. Арку гэтую прыдумаў пампаліт. Між дзвюх соснаў, спілаваных на вышыні метры чатыры, прыбілі дзве жэрдкі, з палак збілі зорку, нацягнулі палотнішча з лозунгам: «Товарищ заключенный! Трудись ударно, как учит товарищ Сталин, и ты поможешь строить коммунизм». Вышэй ад палотнішча вісеў партрэт Сталіна, не зашклёны, і таму ад дажджу быў у жоўтых пацёках і пакарабачаны.

Аб'ект работы — ляжнёўка, часовая дарога, якую па ўсёй даўжыні будучай чыгункі пракладвалі некалькі калоній. Рабілася ляжнёўка проста: на два прадольныя бервяны клаліся ўпоперак бярвенні танчэйшыя. Калі ляжнёўка будзе гатова, па ёй пойдуць машыны, падводы, будуць завозіць усё неабходнае і для будаўніцтва чыгункі, і для патрэб калоній.

Брыгада Жугрова спынілася першая ў канцы насцілу, астатнія брыгады пайшлі далей. Пакідалі тапары, пілы, хто сеў, хто лёг. Паблізу ад брыгады прысеў і ахоўнік, такі ж зэк, асуджаны за нешта дробязнае, вінтоўку паклаў на калені.

— Цар,— сказаў ён Івашкіну,— раскладзі агонь, пагрэемся.

Івашкін узрадаваўся, што яго сёння прызначаць кастравым, а не бёрны насіць, порстка падхапіўся і пачаў сцяг-

ваць хваёвае сучча. Калі нацягаў ладную кучу, Жугроў падпаліў яе, і полымя шуганула адразу высока і горача.

— Ташкент,— сказаў Кадыраў і падсеў да вогнішча.— Ай як харашо!

— А я на сваёй печы,— заплюшчыў вочы Івашкін,— чэрань гарачая-гарачая. І жонка гарачая...

— Во дае,— заўхмыляўся брыгадзір.— Цар на жонцы грэецца.

Жугроў — зэк з самым большым у брыгадзе турэмным стажам. Судзіўся сем разоў, двойчы ўцякаў з лагера, яго лавілі, дадавалі за ўцёкі. Тое, што за ім шмат чаго ўчыненага не раскрыта і, вядома ж, «мокрыя» справы, усе тут ведалі, сам хваліўся. Цяпер сядзіць за групавы бандытызм. У гэтую калонію ён прыбыў пазней за ўсіх з штрафнога ізалятара. Моцны фізічна, шыракаплечы, з дужымі рукамі-клюшнямі, не знаёмы з кіркай і лапатай ні на волі, ні ў лагеры, ён адразу падначаліў сабе ўсіх зэкаў. У яго чорныя лахматыя бровы, крыху скрыўлены нос, відаць, у нейкай бойцы. Падначальваліся яму ад страху, палохалі і яго мінулае, і сіла, і лютасць, якая ўскіпала нечакана, хоць на гэта, здаецца, і не было прычыны. Ён лёгка мог парушыць закон нармальных адносін паміж людзьмі і мог зрабіць што захоча з тым, хто стане яму насупераk ці проста не паслухаецца: ударыць, скалечыць, а то і забіць, калі і не сам, дык некаму загадае гэта зрабіць. Размаўляў ён з ухмылкай, звужаючы то адно, то другое вока, і невядома, які сэнс ён укладваў у гэтыя жэсты. З-за гэтай боязі яго і прызначылі брыгадзірам. Ахоўнікі, падпускаючы да сябе многіх зэкаў, Жугрова не падпускалі, папярэджвалі: «Жугор, не падыходзь, страляць буду». Ахова ведала, што апошні раз ён уцёк, выхапіўшы ў ахоўніка вінтоўку. Пабег з ёю ў тайгу. Кажуць, ахоўнік, якому заставалася да волі месяц, ішоў за Жугровым па тайзе з гадзіну, маліў аддаць вінтоўку, бо за страту зброі таму пагражаў новы тэрмін. Жугроў вінтоўку не аддаў, а ахоўнік атрымаў яшчэ тры гады...

Брыгадзір Жугроў сядзеў на бервяне, упёршыся ў зямлю падпяткамі ботаў і задёршы наскі — зямля была гразкая, бярог боты. Калі Івашкін пачаў яшчэ секчы сучча, Жугроў сказаў яму:

— Цар, ну-тка паднясі мне галля пад ногі.

Івашкін выканаў гэты загад паслухмяна. Паклаў паленцы пад ногі і ахоўніку, няхай і яго ногі на сухім пастаяць.

— Так лепей будзе, сушэй нагам,— падлабуньваўся ён да брыгадзіра і ахоўніка, каб пакінулі яго кастравым. А ахоўніку яшчэ і прыемнае пастараўся сказаць: — Ты можаш і пакімарыць. Сон, ён і днём не лішні. Уцякаць ніхто не думае. Рана, яшчэ зялёны пракурор не прыйшоў. Вунь у канцы мая, летам, калі цёпленька стане, усё зазелянее, падсохне, тады гэты зялёны пракурор многіх вызваліць.

Жугроў заўхмыляўся.

— Няўжо, Цар, і ты чакаеш зялёнага пракурора?

— Не, я не чакаю. Я ўсіх пракурораў баюся... Пракурор, пракурор, за цябе абідна, поўны лагер ты нагнаў, як табе не стыдна...

— Ого, Цар,— здзівіўся Жугроў,— ты і сцішкі ўмееш сачыняць.

— Я не ўмею, так нешта спляту. Мардоўкін, вось хто ўмее. У яго як у Пушкіна выходзіць,— паказаў ён на



студэнта, які, засунуўшы рукі ў рукавы, сядзеў на ляжнёўцы і моўчкі засяроджана глядзеў на агонь.— Толькі іх сачыняць апасна. Абы пра што не сачыніш. Толькі пра тое можна, пра што ў газетах пішуць. А не так напішаш, цябе сюды — раз і гатова.

Зэкі слухалі, для затраўкі падкідвалі Івашкіну рэплікі, няхай гаворыць, пляце рознае, абы даўжэй пасядзець каля вогнішча. Упрагацца ў працу не хацелася, адцягвалі час, кралі ў прызначаныя ім кары мінуты — наперадзе яшчэ вунь колькі дзён, гадзін, мінут... Тым больш што і брыгадзір, захапіўшыся размовай з Івашкіным, не гнаў на працу.

Неба тым часам пасвятлела, можна было ўжо вызначыць, дзе сонца (там хмары парадзелі, нібы раставалі ад промняў), і зэкі пачалі пазіраць туды з надзеяй, што вось дзень выпадзе сонечны і цёплы. Яшчэ трохі пачакалі, і сонца прапаліла хмары наскрозь, промні яго бліснулі на зямлі, накрылі і гэты ўчастак ляжнёўкі.

— Ну, браткі-кролікі, пара,— сказаў Жугроў брыгадзе.— Пара паішачыць за здравія камунізму. Лозунг, нябось, чыталі на арцы?

Пачалі разбіраць пілы, тапары. Узяў тапор і Мардоўкін, а Івашкін, упэўніўшыся, што кастравым застаецца ён, прысеў каля вогнішча і паджыўляў яго.

— Студэнт, ты будзеш кастравым,— распарадзіўся Жугроў.

Івашкін не пакрыўдзіўся ні на Жугра, ні на Мардоўкіна: няхай пакантуецца і студэнт, бо нешта апошнім часам стаў нейкі зніклы, псіхуе часта без прычыны, падоўгу маўчыць і вершы перастаў чытаць. Івашкін узяў тапор і ўслед за брыгадай, шмякаючы буцамі па мокрым, пайшоў у тайгу.

Ішлі марудліва, ланцужком, адзін за адным, быццам гэтак было лягчэй ісці. Макрэдзі на зямлі ў параўнанні з мінулымі днямі хоць і паменшала, але ж яшчэ хапала, скрозь блішчалі лужыны, раскіслая зямля не трымала, ногі часта правальваліся па забарсні, а то і вышэй. Неўзабаве застукалі тапары, зашоргалі пілы, захрабусцелі рваныя валокны дрэў, што валіліся на зямлю.

Напарнікам Івашкіну дастаўся Кадыраў, той, якога звалі наркомам і які сапраўды быў ім. Работнічак не з тых, хто на падхваце і хто ад сябе лішні раз штурхне пілу, каб памагчы напарніку, але ж мог і філон, гультай дастацца. Івашкін падсек лістоўніцу з таго боку, куды яе збіраліся валіць, узяўся за пілу.

— Ну, давай грахі свае адкупляць,— сказаў ён Кадыраву.

— Грахі перад кім? — Склаўшы па-праваслаўнаму тры пальцы, правільна перахрысціўся.— О, алах, дарый мне мае грахі, якія я не сатварыў, а таксама ты не ведаеш.

Лістоўніцу спілавалі, з яе якраз выйшла тры бярвенцы. Узялі адно на плечы, панеслі да ляжнёўкі. Туды ж пацягнуліся і іншыя пары з бярвёнамі. Так, бервяно да бервяна, і доўжылася дарога. Для пераносу прадольных бярвёнаў-лаг збіраліся чалавек шэсць-восем. Ногі ва ўсіх зэкаў былі мокрыя, вада чвякала ў буцах, вылівалася з іх і зноў набіралася, бо лужыны ўсе не абыдзеш з бервяном на плячы.

Вогнішча гарэла спраўна, Мардоўкін стараўся, і зэкі, прынёсшы бервяно, лаўчыліся як даўжэй пагрэцца каля агню і грэліся, пакуль Жугроў не праганяў іх зноў у тайгу. Кадыраў, хоць і маладзейшы за Івашкіна і на выгляд мацнейшы, стамляўся хутчэй і часта прысаджваўся адпачыць. Івашкін яго не прыспешваў і не паказваў, што ім як напарнікам не вельмі задаволены. Цягаць бярвенні — занятак нялёгкі, выбіваўся з сілы і Івашкін, у канцы дня знясільваўся гэтак, што ледзь валачыў ногі, але не філоніў, не ўмеў філоніць.

Да абеду брыгада паўдзённую норму выканала, хоць пэўнай строгай нормы яшчэ не было, ды як яе ўстановіш — дрэвы ж растуць ад трасы дзе бліжэй, дзе далей. Івашкіну і Кадыраву заставалася прынесці яшчэ адно бервяно, каб зраўняцца з іншымі парамі, ды Кадыраў не захацеў, паскардзіўся на боль у жываце. Кадыраў спачатку сядзеў, трымаючыся за жывот, потым лёг на ляжнёўку, падціснуўшы пад жывот калені, ды так і ляжаў, нерухома і моўчкі.

На дарозе паказаліся двое з бачкамі — неслі брыгадзе абед з калоніі. Івашкін разуўся, выціснуў анучы, паднёс да вогнішча падсушыць. Пакуль кухары дойдуць ды раздадуць абед, анучы высахнуць. Гледзячы на Івашкіна, і ўсе астатнія разуліся і сушылі анучы.

На абед была адна ежа — пярлоўка, не суп, бо не вадкі, і не каша, бо не дужа густая, але лыжка ў місцы стаяла. Кухар сцвярджаў, што гэтая каша зварана з траскою. Пах рыбы сапраўды казытаў ноздры. Усе сталі ў чаргу, толькі Жугроў узяў без чаргі. Асобны быў абед для ахоўніка: у спараных кацялках — першая і другая стравы. Елі хутка, бо прагаладаліся. Івашкін, які з абедам управіўся першы, праспяваў:

— Кашку кушаеш з траскою, бруха мацаеш з таскою, быццам мала, быццам мала...— Падскочыў да кухара, стукнуў міскай па бачку.— Друг, пашкрабі на дне, мала.

— Друг з калуном насустрач,— засмяяўся той і ўсё ж нешта наскроб для яго.— Вазьмі. Калі мала, пракурор дабавіць.

Івашкін паднёс Кадыраву яго порцыю.

— Давай, таварыш народны камісар, паеш, у пярлоўцы сіла добрая.

Кадыраў адсунуў міску, адмоўна пакруціў галавой.

— Цяпер не хачу. Можа, потым, пасля.

Значыць, па-сапраўднаму захварэў нарком, раз есці адмовіўся.

Жугроў паклікаў да сябе Мардоўкіна і пераклаў некалькі лыжак пярлоўкі са сваёй міскі ў яго міску. Брыгадзіру падзяліцца было не шкада, бо кухар яму насыпаў кашы на дваіх. Мардоўкін прыняў такі пачастунак абыякава, нават не падзякаваў, нібыта Жугроў з ім і павінен дзяліцца.

Івашкін, які ўжо некалькі дзён заўважаў збліжэнне Мардоўкіна з Бутам і Жугровым, здзіўляўся гэтаму і не разумеў, што агульнага магло быць паміж студэнтам і бандытамі. Што іх раптам звяло разам? Няўжо вершы, якія Мардоўкін прыдумвае і, можа, чытае ім, як чытаў Івашкіну? Цягу да іх Мардоўкіна яшчэ можна растлумачыць: яны начальнікі, могуць аблегчыць яго лагернае жыццё. А ім навошта патрэбны гэты нехлямяжы студэнт?

Паабедаўшы, улегліся на ляжнёўку, грэліся на сонцы, якое ўсё ж выбілася з-за хмар. Хто ўмеў засынаць хутка, пахропваў ужо. Ахоўнік, забыўшыся пра сваё папярэджанне Жугрову не набліжацца, сам падсеў да яго і Мардоўкіна, слухаў іх нейкую ціхую размову. Івашкін, каб пачуць, чаго яны засмяяліся, падышоў да іх.

— Люблю вясёлых,— сказаў ён і прысеў побач.

— А ты вясёлы? — спытаў у яго Жугроў.

— А няўжо ж, вясёлы.

— Дык раскажы, завошта табе каэрдэ прышылі. Контрык,— ляпнуў ён Івашкіна па плячы і зарагатаў.

— Ці ж вялікая мудрасць заробіць стаццю і тэрмін. Быў бы чалавек, а стацця ў кодэксе знойдзецца. Вунь нарком кажа — за анекдот сядзіць.

Кадыраў прыўзняў галаву, звузіў і так вузкія вочы, гнеўна бліснуўшы імі, сказаў:

— Я забыў адно мудрае правіла, якому мяне вучылі ў дзяцінстве аксакалы: калі хочаш быць здаровым, не еш многа, калі хочаш жыць спакойна — не гавары многа. Я гаварыў многа.

— Во-во,— падхапіўся Івашкін,— і я многа гаварыў. За язык і контрыкам стаў. А ваапшчэ я за лапуны сяджу.

— А што гэта такое? — не зразумеў брыгадзір.

— Ла-пу-ны,— паўтарыў па складах Мардоўкін.— Сяло такое?

— Во і не ведаеце,— узрадаваўся Івашкін.— А ў нас на Магілёўшчыне ўсе ведаюць. Іх з бульбы пякуць, яны хлеб замяняюць. Такія тонкія ляпёшкі. Не ад добрага жыцця пякуць, у бясхлебіцу. Вось за гэтыя ляпёшкі-лапуны я, відаць, і сяджу тут.— Ён падхапіўся і порстка, як ён рабіў усё, згроб дробнае голле і кінуў у вогнішча. Яно ўспыхнула, тхнула жарам так, што ўсе, хто быў блізка, адхіснуліся назад.— А калі, браткі мае, праўду казаць, дык я ўжо турмой другі раз хрышчоны.

— Ты другі раз? — радасна здзівіўся Жугроў, а ахоўнік паглядзеў на Івашкіна падазрона.

— Я папаўся ета ў трыццатым годзе. Тады ў калгасы запісвалі. А як запісвалі, вы ж помніце. У нашым сяле мужыкі дужа не ўпарціліся, ішло без класавай барацьбы, бо гэтых самых кулакоў у нас не было. А іх трэба было знайсці. І знайшлі двух — майго суседа Петручка і Міхалёва. Каб перад раёнам адчытацца — план, значыцца, па раскулачванню выканалі. На сходзе я за Петручка і Міхалёва заступіўся, бараніў іх, сказаў, ну якія яны кулакі-эксплуататары, сваім гарбом усё рабілі, таму і дабро нажылі. Зямлю ж яны памешчыцкую палучылі, у васемнаццатым. Дзень і ноч спіну Петручок ламаў, пчолаў завёў, сад пасадзіў... Дык за гэта трэба іх раскулачыць? У Сібір гнаць? І што ж, пагналі. А хто пагнаў? Актывісты нашы мясцовыя, беднякі. А чаму яны беднякі? Яны ж таксама столькі зямлі палучылі. А таму, што гультаі, гарлапаны, п'яніцы. Адзін дужа паскудны ў нас быў актывіст, парцейны Саўка Ляпеткін, рабы ад воспы. Яго так і звалі — Рабы. Вось ён асабліва налягаў, каб людзей раскулачыць. Петручок і Міхалёў самі прасіліся ў калгас, а Рабы ім: «Эйш чаго захацелі, кулацкія ўражыны. Хочаце потым у калгасе ціхай сапай шкодзіць?» Пасля гэтага Петручок мне і гаворыць: «Рабы

ўсё роўна забярэ маіх кароў, дык замяні сваю старую карову на маю самую ўдойную». Ну мы і памяняліся кароўкамі. Петручок мне яшчэ дзве пары гусей аддаў.

Зіма была, калі іх раскулачвалі. Пасадзілі тыя дзве сям'і ў трое саней і павезлі ў раён, куды звозілі з усіх сёлаў кулакоў. А сем'і вялікія: у Петручка дзяцей шасцёра, у Міхалёва — сямёра. Дзеці плачуць, не разумеюць, чаму іх з роднай хаты і роднага сяла вязуць у чужы свет... Гора. Завезлі некуды аж за Урал, на Поўнач.

А цяпер пра рабога Саўку. Даведаўся ён, што я з Петручком каровамі памяняўся, прыйшоў на двор і забраў тую карову ў мяне. А маю не вярнуў. Ды яшчэ прызнаў падкулачнікам, бо я, значыцца, граў у кулацкую дудку, памагаў ім. Вырашылі і мяне раскулачыць. Прыйшлі трое ка мне на двор, і Саўка з імі, ён ужо старшынёй сельсавета быў. Саўка і кажа: вось табе цвёрдае заданне абкладное — здаць у калгас усё збожжа, бульбу, усю жыўнасць. А я ім і кажу: ідзіце, бярыце. Узяў вілы і стаў каля клеці. Не пайшлі, пабаяліся. Яй-богу, калі б хто з іх сунуўся, мабыць, закалоў бы. Відаць, бог мяне пашкадаваў, што не пусціў іх. Яны пайшлі з двара, але прыгразілі турмой за супраціўленне ўладам.

— І загналі? — спытаў ахоўнік.

— На тры гады. Праўда, не раскулачылі. Адседзеў менш двух гадоў, вярнуўся і стаў думаць, як адпомсціць Рабому. Яго забіць бы, але як? Ружжа няма. Ды і грэх на душу браць страшна. Тады намысліў я задобрыць Саўку, каб да мяне больш не чапляўся. Выгнаў самагонкі, запрасіў яго да сябе ў госці. На чужое ён быў ласы, прыйшоў. Пасадзіў яго за стол, выставіў глячок першаку, вылажыў закусі. Пі, еш, кажу, і давай у міры жыць. А ён мне: даўно б так, а то падпяваў кулацкім элементам. Наліў ён і мне поўную шклянку і прымусіў выпіць першым, а то, сказаў, можа, я атруты ў глячок падсыпаў. Я і выпіў. А піток з мяне нікудышны, не люблю я і не цярплю гэтага зелля. Ды яшчэ за два гады адсідкі забыў нават смак самагонкі. Акасеў адразу, паваліўся на лаўку і больш нічога не помню. Прачнуўся — глячка няма, закусі няма. Зірнуў у клець, а ў кубле сала некалькі кускоў не хапае. Украў, рабы паразіт.

Жугроў зарагатаў, ляпнуў сябе па сцёгнах.

— Ну, Саўка, ну, фраер. Во атлёт. А ты, Цар, лапух.

— Лапух,— лёгка згадзіўся Івашкін.— Гэта яшчэ не ўся яго пакасць, не ўсё паганства. Не паспеў я тады ачомацца ад выпітага, галава яшчэ не паправілася, як бачу — ідуць у хату сакратар сельсавета, міліцыянер і два суседы — панятыя, значыцца. Міліцыянер і камандуе: «Здаць апарат і выдаць самагонку». Здаў. На мяне склалі пратакол і далі мне штраф. А навёў на мяне ўчастковага Рабы. Вось і задобрыў яго...

— І ты яго не забіў? — злосна сцяў губы Жугроў.

— Маліў бога, каб ён сам здох, але ж ніякая яго хвароба не брала, здаровы, паразіт... І вось аднаго разу вяртаюся я надвячоркам з раёна дамоў. Нёс розныя пакупкі, у тым ліку і касу-літоўку. Бачу — каля дарогі стаіць падвода. Запрэжаны конь скубе траву, а на калёсах нехта ляжыць. Зірнуў туды — Саўка, п'яны спіць. Выпрастаўся на спіне, рот разявіў і храпе. Вось тут мне і ўдарыла ў галаву: зарэж, больш такога зручнага моманту не будзе, шарахні касой па горле — і ўсе дзялы. Сціснуў я ў руках літоўку, паднёс да Саўкавай шыі. Сэрца маё так застукала, што думаў: вось-вось грудзіну праб'е. І ў галаве горача стала. Ураз успомніліся плач Петручковых і Міхалёвых дзетак, карова, якую ў мяне забраў Саўка, турма, куды мяне ён жа загнаў, штраф за самагонку... Даруй мне, госпадзі, за гэтую кроў паганую, малю я... І тут госпадзь бог мяне пачуў і спыніў мяне, не даў праліць кроў. Я, здаецца, і голас яго пачуў: «Спыніся! Успомні святое прыказанне — не забі! Век свой потым не адмыешся ад крыві ні ты, ні род твой. Не апраўдаешся. Даруй свайму ворагу, і ён табе потым даруе...» Адвёў я назад касу і заплакаў ад радасці, што спыніўся ў час, не праліў кроў чужую, не ўзяў на сваё сумленне такі грэх. Вывеў каня на дарогу, сеў на калёсы і павёз Саўку ў сяло дамоў. Толькі каля сяла ён прачнуўся, убачыў мяне на калёсах, адабраў вожкі: «Ану злазь! Ты чаго залез на сельсавецкую падводу?» І так мяне штурхнуў, што я грымнуўся з калёс, ударыўся бокам аб кола і загваздку, зламаў дзве рабрыны. Цяпер яны ў мяне, як барометр, надвор'е прадказваюць...

— Ну, а лапуны тваё, чаму за іх пасадзілі? — падахвочвалі Івашкіна зэкі на працяг аповяду — ім яшчэ хацелася пасядзець пасля абеду, адпачыць, бо і Жугроў таксама заслухаўся Івашкіна, забыў, што час абедзенны скончыўся і пара ісці па бярвенні.

— Раскажу і пра лапуны,— ахвотна згадзіўся Івашкін.— Пісалі тады пісьмо Сталіну ад калгаснікаў вобласці. Цяпер жа ўсюды пішуць яму такія пісьмы: жывём багата і шчасліва, купаемся ў багацці, кожны сыты, як чарвяк у яблыку. І ў нас такое пісьмо напісалі і запрасілі: прыязджай, дарагі мудры айцец, да нас у госці на новыя бліны. А вясна была — нішчымніца і бясхлебіца, лапуноў і то ўволю не елі. Дык я вазьмі на сходзе, дзе пісьмо гэта чыталі, і ляпні: «Давайце дарагога айца запросім на лапуны нашы, а то калі прыедзе, дык мукі ж не нашкрабом на бліны, засекі пустыя». Сход праводзіў Саўка, ён назваў маё выступленне антысавецкім, варожым, паклёпніцкім на калгасны лад жыцця, прыгразіў данесці куды следуе. І данёс. Праз тры дні прыехаў па мяне раённы начальнік і павёз з сабою.

— Лапух,— яшчэ раз заключыў Жугроў,— чыркнуў бы яго тады па горлу касой і дома быў бы, а не тут даходзіў. Дахадзяга ты, а не цар.

— Нічога,— засмяяўся Івашкін,— затое я сёння адпомсціў начальніку энкавэдэ, жонку яго да сябе на печ зацягнуў.

Самы любімы час у калоніі — вечар, калі пасля працы і вячэры можна сядзець, ляжаць, можна травіць баланду — трапаць языком што хочаш і слухаць такое ж прастарэкванне іншых.

Івашкін ляжаў на нарах, удыхаў востры хвойны пах падасланага свежага лапніку і ўспамінаў дом, сям'ю — дзвюх дачок, жонку, бацьку з маткай. З сяўбой яны ўправіліся ўжо, на лузе поўна шчаўя — ёсць чым падтрымацца да ўраджаю, карову і авечак не трэба карміць у хляве, на пашу выганяюць... Пісьмы яму піша старэйшая дачка. У іх яна і паведамляе пра ўсе сельскія навіны. І самая цікавая навіна была пра рабога Саўку.

Той два гады кіраваў калгасам і праціў яго. Дачка так і напісала — праціў. За гэта Саўку далі чатыры гады. «Ты, татачка, можа, яго там у лагеры сустрэнеш, дык хоць выкажы яму, нягодніку, усё, парадуйся». Івашкін гэтай навіне спачатку і парадаваўся, расказаў пра яе ў брыгадзе, а потым не стаў радавацца. Чужой бядзе брыдка радавацца, турма ёсць турма, ад яе, як і ад сумы, кожны не павінен зарэкацца.

Думаць, аднак, доўга пра дом, сям'ю цяжка, пасля такіх думак і ўспамінаў засмучаўся да слёз, сэрца балела. Таму Івашкін апошнім часам навучыўся пераключацца ад цяжкіх балючых думак і засяроджваць увагу на нечым дробязным, мізэрным, мог падоўгу думаць пра гузік, які гатовы вось-вось адарвацца, або глядзець на хмарку і чакаць, калі яна зменіць свае абрысы... А самы лепшы спосаб пазбавіцца ад цяжкіх думак — гэта далучыцца да кампаніі і слухаць зэкаўскую балбатню, ды і самому нешта верзці. Таму і гэтым вечарам ён не стаў сябе дратаваць успамінамі і пералез на нары, дзе ляжаў Мардоўкін.

— Не спіш? — спытаў ён.

Студэнт не адказаў, быў заняты сабою, нешта мармытаў. Івашкін прыслухаўся, а Мардоўкін загаварыў больш выразней і галасней:

— Шумит, бушует гневно море, и волны ропщут и ревут. Скорей, скорей ты это скоро, что сулишь счастье и уют! Скорей, корабль, пусть гневно море, пусть волны бешено ревут! Там позади изгнанье, горе, а впереди друзья и труд...

Гэта быў верш, Мардоўкін яго чытаў то спачатку, то з сярэдзіны, нешта перайначваў. Верш быў доўгі, і калі прачытаў увесь, спытаў у Івашкіна:

— Ну як?

— Складна. Толькі дзе ж тут мора? І куды ты плывеш?

— Мора і карабель — гэта сімвалы, гэта імкненне адсюль вырвацца. Гэта наша горкая планіда...

Івашкін хоць і мала чаго разумеў з яго тлумачэння, аднак слухаў уважліва.

— Кажуць, чалавек — сам каваль свайго шчасця,— гаварыў Мардоўкін. — Не! Я жыў правільна, законапаслухмяна, хоць, можа, не ўсе законы справядлівыя. Я нікога не пакрыўдзіў, не забіў, нічога не ўкраў. Дык завошта зламалі маё жыццё, кінулі ў гэтае пекла?

— Кінулі... Табе толькі дваццаць адзін, малады яшчэ. Засталося адбываць дзевяць гадоў. Калі аслабадзішся, будзе трыццаць, не стары, а ў росквіце. А мне ж, калі выжыву, пад шэсцьдзесят стукне.

Мардоўкін маўчаў, маўчаў і Івашкін, абодва слухалі, як насупраць на нарах спяваў зэк: «На пянькі нас станавілі, раздзявалі, дрынам білі, ах, зачэм нас мама радзіла!..» Апошнія словы зэк праспяваў з такім надрывам, што Івашкін падумаў — хлопец плача.

— Слухай, студэнт,— усё ж першы не сцярпеў маўчання Івашкін.— Колькі дзён я збіраюся ў цябе спытаць, чаму гэта ты здружыўся з Бутам і Жугром? Яны ж людзі страшныя... А ты ж не такі.

— Можа, і страшныя, але адчайныя.

— А навошта табе іх адчай? Супраць каго?

— А чаго ты распытваеш, як следчы? — раззлаваўся Мардоўкін.

— Ды так, цябе, маладога, шкада,— Івашкін пакрыўдзіўся і злез з нар, выйшаў з палаткі.

**Заканчэнне будзе**





Рыгор БУЛАЦКІ, доктар гістарычных навук, прафесар

# ЛЁС ЛЕПЯШЫНСКАГА

Споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння нашага земляка, выдатнага дзеяча партыі П. М. Лепяшынскага. Паводле яго уласных слоў, ён належыў да пакалення ленінцаў «першага прызыву». Самаахвярнасць гэтых змагароў была бязмежная. Ні турмы, ні ссылкі, ні доўгія гады эміграцыі не змаглі зламаць іх волі. Людзі гэтыя сталі касцяком бальшавіцкай партыі.

Нарадзіўся Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі 14 сакавіка 1868 года ў вёсцы Студзянец Клімавіцкага павету Магілёўскай губерні ў сям'і свяшчэнніка. Ён быў першым дзіцём у сям'і.

Клімавіцкі павет у той час лічыўся адным з бяднейшых у былым Паўночна-Заходнім краі. Жудасныя карціны бяспраўя, беднасці, забітасці назіраў маленькі Панцейчык, як звалі яго ў вёсцы.

У 1874 годзе сям'я Лепяшынскіх пераехала са Студзянца ў вёску Ліцвінавічы Рагачоўскага павету. Панцейчык рос вясёлым, жвавым хлопчыкам, рана навучыўся чытаць і з захапленнем расказваў аб прачытаным. Асабліва любіў ён лічыць і ўражваў дарослых хуткасцю, з якою рабіў падлікі. Але не толькі гульнямі было запоўнена хлопчыкава жыццё. Шмат было і тужлівых дзён. Для паступлення ў гімназію яго рыхтаваў наняты бацькам рэпетытар па імені Леў Сцяпанавіч. Як пісаў пасля сам Лепяшынскі, Леў Сцяпанавіч «быў увасабленнем тых непедагагічных прынцыпаў, у аснове якіх ляжаў бізун». Панцейчык усёю душою ненавідзеў свайго настаўніка.

Нарэшце ў 1877 годзе хлопчыка адвозяць у далёкі і незнаёмы горад Магілёў-на-Дняпры ў класічную гімназію, якая існавала ўжо амаль што семдзесят гадоў і мела багатыя рэвалюцыйныя традыцыі. Але і тут панавала муштра, якая была вынікам так званага класічнага навучання, уведзенага міністрам народнай асветы рэакцыянерам Д. А. Талстым.

Навучэнцы Магілёўскай гімназіі ў розных формах выяўлялі свой пратэст супраць гэтай невыноснай муштры, шпіянажу і даносаў на гімназістаў. За карыкатуру на настаўніка грэчаскай мовы ледзь не выключылі з гімназіі і Лепяшынскага. Уратавала яго тое, што не было дакладна выяўлена, хто намаляваў карыкатуру.

У гімназіі Лепяшынскі захапіўся палітычнай літаратурай, чытаў газету «Минский листок», у якой часта публікаваліся матэрыялы пра сялянскае жыццё. Вялікую ролю ў фарміраванні яго светапогляду адыгралі артыкулы М. А. Дабралюбава і Д. І. Пісарава. У характарыстыцы, якая захавалася ў асабовай справе Лепяшынскага, адзначаецца схільнасць здольнага навучэнца да «вальнадумства».

Увесну 1886 года Панцеляймон здаў экзамены на атэстат сталасці і паступіў у Пецярбургскі універсітэт на фізічна-матэматычны факультэт. Тут ён атрымаў сваё першае баявое хрышчэнне. У снежні 1887 года студэнты універсітэта правялі сход, на якім бурна пратэставалі супраць інспектарскага шпіянажу, патрабавалі звальнення з навучальнай установы найбольш ненавісных чыноўнікаў. Дзесяткі студэнтаў паплаціліся за гэта выключэннем з універсітэта. У спісы выключаных трапіў і Лепяшынскі. Але прафесар Ф. Ф. Петрушэўскі, які ўжо паспеў звярнуць увагу на здольнага студэнта, убачыўшы ў спісах выключаных яго прозвішча, адразу ж пайшоў да рэктара. Просьба Ф. Ф. Петрушэўскага пакінуць Лепяшынскага ва універсітэце была задаволена.

Аднак першая пагроза выключэння з універсітэта не спалохала нашага земляка. Ён становіцца арганізатарам падпольных студэнцкіх гурткоў, членам студэнцкай народавольніцкай арганізацыі, кіруе беларускім зямляцтвам, распаўсюджвае лістоўкі, забароненую літаратуру.

Увесну 1890 года студэнцкія хваляванні значна ўзмацніліся. Лепяшынскі прыняў у іх дзейсны ўдзел, за што быў выключаны з універсітэта і высланы з Пецярбурга, пасля чаго апынуўся ў Пінску. Тут ён рыхтаваўся да здачы экзаменаў экстэрнам. Праз год, вытрымаўшы іх у Кіеўскім універсітэце, нядобранадзейны студэнт атрымаў дыплом настаўніка фізікі і матэматыкі. Малады педагог, поўны сіл і энергіі, імкнуўся скарыстаць атрыманыя веды. Але яму паўсюды адмаўлялі ў працы. Прыйшлося весці паўгалоднае існаванне.

Лепяшынскі едзе ў Севастопаль, там яго сваяк дапамагае ўладкавацца на працу ва Упраўленне Лазова-Севастопальскай чыгункі. Аднак працаваць доўга не давялося. Ён стаў арганізатарам забастоўкі канторскіх служачых і, каб пазбегнуць арышту, пакінуў горад.

Зноў Пецярбург. Уладкаваўшыся на пра-

цу ў Дзяржаўную камісію пагашэння пазык, Лепяшынскі ўсталёўвае кантакты з групаю маладых нарадавольцаў. Паліцыя ўзяла яго пад тайны нагляд. Пад наглядам былі і яго бацькі, браты і сёстры. У ноч з 8 на 9 снежня 1895 года Лепяшынскага арыштавалі. Пасля турэмнага зняволення яго выслалі ў Сібір.

Ссылка была для Лепяшынскага сапраўднай школай палітычнай загартоўкі: у яго была магчымасць вучыцца ў Леніна. Пасля заканчэння ссылкі Панцеляймон Мікалаевіч узначаліў пскоўскі цэнтр «Іскры», але неўзабаве за ўдзел у рэвалюцыйнай дзейнасці зноў быў сасланы ў Сібір, адкуль уцёк у Швейцарыю, прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы III з'езда РСДРП, разам з У. І. Леніным змагаўся супраць апартунізму меншавікоў.

У канцы 1905 года ён вяртаецца на Беларусь, стварае ў Оршы марксісцкі гурток чыгуначных рабочых, наладжвае сувязі з іншымі бальшавіцкімі групамі, з замежнымі цэнтрамі. Не пакідала ў спакоі паліцыя. У 1910 годзе ён быў высланы ў падмаскоўнае сяло Шчоўкава.

Пасля лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі Лепяшынскі зноў апынуўся ў Оршы, дзе правёў разам з іншымі рэвалюцыянерамі вялізную працу. «На бальшавікоў Оршы ў кастрычніцкія дні выпала высакародная задача затрымліваць эшалоны, якія рухаліся на чырвоны Піцер з Заходняга фронту, і агітаваць вайскоўцаў»,— пісаў Лепяшынскі. Гэтая задача пад кіраўніцтвам Лепяшынскага была выканана паспяхова: каля 50 тысяч салдатаў, якіх паслалі душыць рэвалюцыю ў Петраградзе і Маскве, былі спынены.

Цяпер Лепяшынскі зноў у Петраградзе, дзе сустракаецца з Леніным, атрымлівае накіраванне ў Наркамат асветы. Будучы загадчыкам аддзела па рэформе школы і членам калегіі камісарыята, ён багата чаго зрабіў для рэвалюцыйнага пераўтварэння школы: быў ініцыятарам стварэння школ-камун і першую такую школу арганізаваў у родных Ліцвінавічах.

У канцы 1919 года ВЦВК вырашаў пытанне аб накіраванні прадстаўнікоў камісарыята ў Туркестан для арганізацыі працы ў галіне асветы. Па прапанове У. І. Леніна туды быў пасланы і назначаны па прыездзе ў Ташкент намеснікам наркома асветы Туркестана Лепяшынскі. Але ў 1921 годзе, захварэўшы на малярыю, ён вымушаны быў вярнуцца ў Маскву. Згодна з рашэннем ЦК РКП(б) быў накіраваны на працу ў Гістпарт.

Лепяшынскі паказаў сябе выдатным гісторыкам-марксістам. Ім напісана і апублікавана шмат прац па гісторыі нашай партыі і Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. За гэтую працу яму была прысуджана ступень доктара гістарычных навук.

Шмат сіл аддаў Лепяшынскі рэдагаванню рамана Д. Фурманава «Чапаеў». Вялікая яго заслуга і ў тым, што ў 1931 годзе ў выдавецтве «Молодая гвардия» выйшлі знакамітыя «Лісты на волю» гераіні беларускага народа Веры Харужай. Шмат зрабіў Панцеляймон Мікалаевіч, даносячы да нас і вобраз Леніна.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны Лепяшынскага выклікаў да сябе Сталін. Гаворка зайшла пра кнігу Панцеляймона Мікалаевіча «На павароце», у якой ён расказваў пра жыццё былых палітычных ссыльных. Сталін зацікавіўся, чаму ў кнізе нічога не сказана пра яго, Сталіна, палітычныя ссылкі. На гэта Лепяшынскі адказаў, што пісаў толькі пра тых, каго ў той час ведаў асабіста.

З гэтага моманту адносіны Сталіна да Лепяшынскага сталі вельмі халоднымі. Калі ў час падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет СССР у 1937 годзе калгаснікі Кармянскага раёна вылучылі Панцеляймона Мікалаевіча сваім дэпутатам, яму прапанавалі адмовіцца ад вылучэння, спаслаўшыся на стан здароўя. Лепяшынскі адказаў, што здароўе ў яго неблагое, пасля чаго яму катэгарычна заявілі: «Так загадвае партыя».

Калгаснікі, аднак, не жадалі галасаваць за другую кандыдатуру, і, каб не пашкодзіць ініцыятарам гэтага выбару, Лепяшынскі вырашыў падаць заяву аб самаадводзе.

Вылучаўся Панцеляймон Мікалаевіч сваімі землякамі і кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, і зноў вышэйшыя органы не дазволілі яму балаціравацца. Да канца жыцця Лепяшынскі падтрымліваў цесную сувязь з працоўнымі Беларусі, адгукаўся на лісты землякоў, дапамагаў ім у рашэнні самых розных пытанняў.

Ён быў цудоўны сем'янін. Родная дачка Вольга і прыёмная Бібісара карысталіся аднолькавай павагай і любоўю. Шмат сіл аддаваў Панцеляймон Мікалаевіч узятаму на выхаванне Рубену Ібаруры, які стаў у гады Вялікай Айчыннай вайны Героем Савецкага Саюза.

Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі карыстаўся вялікай папулярнасцю і павагаю сярод працоўных. Яго імя прысвоена калгасу і школе ў Ліцвінавічах. Згодна з пастановаю Савета Міністраў БССР ад 19 мая 1967 года ўстаноўлена Дзяржаўная прэмія імя П. М. Лепяшынскага за лепшыя творы ў галіне журналістыкі.

Сёння, калі наша краіна перажывае працэс рэвалюцыйнай перабудовы, творы Лепяшынскага з'яўляюцца для нас надзвычай актуальнымі. Было б добра, калі б мы паклапаціліся аб іх выданні: большасць з іх сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Варта падумаць і пра тое, каб назваць іменем Лепяшынскага адну з мінскіх вуліц.






**У кожнай галіне чалавечае дзейнасці ёсць людзі, пра якіх кажуць: «Яны былі першыя!»**

**У беларускім боксе першы ва ўсіх адносінах быў Уладзімір Коган: стаў першым майстрам спорту, першым чэмпіёнам краіны, заслужаным трэнерам СССР.**

**Пайшоўшы на пенсію, У. Коган не пайшоў з бокса. Сведчанне таму — яго кніга «Рынг кліча...», прысвечаная гісторыі беларускага бокса, людзям, якія стварылі яму славу.**

**Валянцін САЗАНОВІЧ, старшыня Дзяржкамспорту БССР**



# Я—ТРЭНЕР

**Уладзімір КОГАН**

У спорце так ужо заведзена, што працу трэнера ацэньваюць па колькасці падрыхтаваных разраднікаў і майстроў спорту. А вось што ты ўкладаеш як чалавек, як выхавацель у сваіх вучняў — гэта, на жаль, у разлік не бярэцца. Толькі ж і тут ёсць у кожнага свае перамогі і паражэнні.

...Быў у мяне такі вучань — Лёня Мартынюк, яшчэ з першага пасляваеннага набору. Дысцыплінаваны, руплівы, старанны. У 1951 годзе стаў пераможцам першынства рэспублікі сярод юнакоў, выйграў у Валодзі Мурашова — пасля самага, бадай што, надзейнага байца нашай зборнай, сярэбранага прызёра першынства краіны. А потым паехалі мы на першынство цэнтральнага савета «Дынама». Гляджу — і вачам сваім не веру... Дзе дакладнасць і цвёрдасць удараў?.. Няма ў Мартынюка манеўру, нейкі ён затарможаны... Супернік, праўда, на сем гадоў старэйшы. Мужчына. Але нельга ж так... У перапынку даю парады. Разумею: слухае, але не чуе. Бой прайграны.

Я зразумеў, што прапусціў момант, калі Лёню трэба было рыхтаваць псіхалагічна да баёў на дарослым рынгу. Вучэбныя бai з такімі моцнымі байцамі, як Лядзяеў, Малошын, Аргуноў, сталі для юнага баксёра абавязковыя. Шмат працавалі і над дакладным ударам справа. Мартынюк зноў пачаў перамагаць.

Але вось яго бой з Уладзімірам Мурашовым ужо на першынстве БССР у 1953 годзе. Першы раунд правёў на контратаках і, магчыма, нават выйграў. У другім — прапускае запар некалькі моцных удараў Мурашова і прайграе з прычыны яўнай перавагі. Выходзіць з рынга і кажа: «Мураш мяне перарос. Трэба кідаць бокс...» Вось з такім настроем ён выйшаў на паўфінальны бой за бронзавы медаль. Супраць яго баксіраваў каржакаваты, дужы сярэднявагавік з групы савецкіх войскаў у Германіі. Гонг — атака, удар справа — Мартынюк на падлозе. Падымаецца няўпэўнена. Праціўнік зноў кідаецца на яго. Леанід робіць імклівы крок насустрач і моцна б'е справа. Накаўт! Вось так і нараджаюцца ў боксе мужчыны. Бой працягваўся 25 секунд.

Сёння Леанід Мартынюк — рэжысёр-пастаноўшчык кінастудыі «Беларусьфільм», паставіў сем мастацкіх фільмаў. Два — «Вялікі трамплін» і «Жалезныя гульні» — прысвечаны людзям спорту. «Кіно,— кажа ён,— гэта таксама рынг. Тут б'юць, і часам вельмі балюча. Але кожны раз трэба ўстаць і біцца далей за сваё бачанне карціны. Гэтаму навучыў мяне бокс».

Калі я пісаў гэтыя старонкі, то разаслаў сваім вучням анкету, у якой было і такое звычайнае пытанне: «Чаму вы выбралі бокс?..» Вось як адказаў на яго Іосіф Ліфшыц, цяпер доктар медыцынскіх навук: «Як гэта ні смешна, але бокс я выбраў з усіх відаў спорту таму, што лічыў сябе нерашучым і нават баязліўцам...»

Які ж нялёгкі псіхалагічны бар'ер пераадолеў гэты хлопчык, калі на многія гады застаўся ў зале бокса, застаўся, каб спазнаць тэхніку бою і навучыцца пераадольваць сябе, выступаючы супраць байцоў фізічна больш моцных.

Я згадваю яго баі на міжведамасным першынстве СССР 1956 года. Сітуацыя чатыры разы складвалася такім чынам, што перад апошнім боем — выступленнем цяжкавагавіка Ліфшыца — стаяла пытанне: ці выйграем мы камандны паядынак? Усе хлопцы выходзілі ў залу і чакалі: як жа будзе баксіраваць Ося? І ва ўсіх чатырох паядынках ён накаўтаваў сваіх праціўнікаў! Каманда выносіла яго з рынга на руках!

«У боксе я навучыўся пераадольваць пачуццё страху і няўпэўненасці. Ох, як гэта мне спатрэбілася ў жыцці!» — заканчвае адказ на пытанні Іосіф. Такія прызнанні для трэнера даражэйшыя за многія медалі і прызы. Узаемаразуменне трэнера і вучня — фундамент, на якім могуць вырасці асоба і высокі вынік. Але калі такі ўзаемны давер існуе, то адзін няправільны крок можа перакрэсліць усё, што было да таго. Магчыма, і мае паражэнні на гэтым шляху будуць горкай навукаю іншым трэнерам.

Я любіў за баявы характар Жэню Абакумоўскага. У яго было багата перамог над вельмі моцнымі баксёрамі. Выбуховы, часам залішне тэмпераментны, гэта быў бескампрамісны баец. Прыйшоў да мяне разраднікам, выканаў норму майстра спорту. Але калі ён выбыў фактычна з каманды — боль у спіне, лячэнне, санаторыі,— я зразумеў, што яму трэба шукаць замену. Ну, а калі справа дайшла да сур'ёзнай аперацыі, я вырашыў, што з боксам у Яўгена пакончана. Але ён запэўніваў мяне, што будзе трэніравацца і выступаць на рынгу. Прафесар Злотнік сказаў: «Абакумоўскі павінен пакінуць рынг. Паўторная траўма — і ён можа застацца інвалідам на ўсё жыццё...» І вось у цяжкую для яго хвіліну ў мяне не знайшлося мудрасці падтрымаць яго. Абакумоўскі пайшоў. Потым я даведаўся, што ён трэніруецца ў «Спартаку» ў Леаніда Раманенкі. Трэніруецца гэтак жа самаадданна, як калісь у мяне. Але я не верыў, што ён зноў выйдзе на рынг. А праз год на II Спартакіядзе БССР ён выйграў усе баі і заняў першае месца...

Гэта быў, вядома, спартыўны подзвіг! І што цікава — Абакумоўскі баксіраваў прадумана, з разлікам, стрымліваючы свой гарачы тэмперамент, які раней часам шкодзіў яму. Але тут, як вы разумееце, была ўжо не мая заслуга — Леанід Раманенка здолеў так падысці да баксёра, што той зноў сцвердзіў у сабе мужчынскі характар і стаў мудрэйшы. Вось такая змена стылю, магчыма, і непрыкметная іншым, дазволіла Абакумоўскаму ўслед за гэтым нялёгкім для яго турнірам выйграць усе баі ўсесаюзнага першынства таварыства «Спартак». Пасля гэтага ён пайшоў на трэнерскую работу, выхоўвае цікавых байцоў рынга, узначальваў зборную нашай рэспублікі і быў ушанаваны званнем «Заслужаны трэнер БССР». А ў дзень майго 60-годдзя прыйшоў з іншымі маімі вучнямі да мяне дамоў...

На жаль, кожнаму чалавеку ў жыцці прыходзіцца і памыляцца. Дрэнна, калі гэтага не разумееш. Трэнер, як губка, убірае ў сябе многае і ў кантактах з людзьмі, і з тае інфармацыі па яго спецыяльнасці, якую ён атрымлівае. Нельга ніколі лічыць сябе перапоўненай губкаю. А ёсць нямала трэнераў і спартсменаў, якія, дасягнуўшы нейкага ўзроўню, лічаць сябе да краёў перапоўненымі. Тады канец, прыпынак, і няма руху наперад.

Нялёгка бывае падабраць ключ і да баксёра, які прыходзіць да цябе, маючы пэўныя заслугі. Я няраз назіраў, як пераацэнка сваіх здольнасцей спартсменам спараджае канфліктную сітуацыю з трэнерам. Я нават чуў, як адзін баксёр, які паспяхова выступіў на першынстве Еўропы, сказаў пра свайго настаўніка: «Гэта я яго зрабіў вялікім трэнерам...» Можна было б згадаць імёны баксёраў, якія ярка бліснулі на рынгу, але неўзабаве «прапалі без весткі». Яны зазвычай пачыналі мяняць трэнераў і нават пераязджаць з горада ў горад.

Хто вінаваты ў падобных канфліктах — адназначна сказаць цяжка. Напэўна, у кожным асобным выпадку можна знайсці памылкі і трэнера і вучня.

Юрый Торбек — выхаванец майго вучня Анатоля Казлоўскага — прыехаў з Нарвы ў Мінск, каб паступіць у інстытут фізкультуры. Майстар спорту. Маса прыродных якасцей для баксёра — моцны, выбуховы, добрае вока, дакладны ўдар. І — неўраўнаважанасць. Я прыгледзеўся і зразумеў, што выбухі яго атак нервозныя. Гляджу — ганяе вагу. Перад першынством ЦС «Дынама» прапаную яму перайсці ў больш цяжкую вагавую катэгорыю — 75 кг. А ў нас у камандзе быў ужо добры баксёр у першай сярэдняй вазе — майстар спорту Міхаіл Кавалёў. Торбек не згаджаецца. Тлумачу яму: «Юра, ты ганяеш вагу і страчваеш свае хуткасныя якасці, а ў 75 будзеш баксіраваць на поўную сілу». Не згадзіўся. Паехалі абодва ў адной вагавай катэгорыі. Торбек прайграў, а Кавалёў стаў чэмпіёнам. Потым нашы адносіны ўвайшлі ў паласу ўзаемнага даверу. Праз год ён цудоўна выступіў на першынстве ЦС «Дынама» і стаў пераможцам. Пасля я стаў заўважаць, што ён сам скарачае аб'ём трэніровак, прапускае спарынгі, не працуе самастойна над пашырэннем свайго тэхнічнага арсенала. Тры гады ішла нашая «вайна», якая скончылася тым, што Торбек уцёк у Гомель да трэнера Баранава. Пасля ён зноў вярнуўся да Казлоўскага, а праз нейкі час ужо выступаў за зборную РСФСР.

Юрый Торбек быў, вядома, адораны ад прыроды баксёр. Сведчанне таму — яго перамогі на ўсесаюзным і замежным рынгу. Але я ўпэўнены, што нават спартсмен з такімі дадзенымі «адзін у полі не воін». Толькі таварыства, узаемаразуменне і ўзаемапавага ў адносінах трэнера і вучня даюць найвышэйшыя вынікі ў спорце. Не сумняваюся: калі б Торбек пастаянна працаваў з трэнерам, ён вырас бы ў баксёра сусветнага класа. Працаваць і працаваць яму было над чым. Ён, на жаль, гэтага не зразумеў. Ён перамагаў за кошт прыродных якасцей, не разумеючы таго, што трэба пастаяннымі трэніроўкамі пашыраць свой тэхнічны багаж і трымаць сябе заўсёды ў добрай спартыўнай форме, можа, і не знаходзячы ў сабе на гэта сілы.

Перамогі і паражэнні — гэта жыццё. Неяк па тэлебачанні гаварылі пра шчасце. Я запомніў адказ на падобнае пытанне Льва Талстога: «Шчасце — гэта калі ёсць непрыемнасці...»

Слабы ад іх ламаецца, падумаў я. А сапраўдны чалавек, пераадольваючы іх, робіцца яшчэ мацнейшы. І ў гэтым пераадоленні ёсць рух наперад, і ў гэтым ёсць шчасце сапраўднага трэнера і спартсмена.



**Юрый ПАПОЎ,**
**капітан міліцыі**

# ПАДНІМІ ВОЧЫ

Усё мінулае стагоддзе, то прыгасаючы, то распальваючыся зноў, цягнулася спрэчка вакол традыцыйнага тэксту, звязанага з каранаваннем французскіх каралёў. У бібліятэцы г. Рэймса ёсць рукапіс Евангелля — адна яго частка напісаная глаголіцай, другая — кірыліцай. Паданне сцвярджае, што Ганна Яраслаўна, дачка кіеўскага князя Яраслава Мудрага, заручаная з французскім каралём Генрыхам Першым, прыехала ўвесну 1051 года ў Парыж. Сярод каштоўнасцей, якія яна прывезла з сабою, было і славянскае Евангелле ў адмысловым абкладзе.

У 1782 годзе імператрыца Кацярына Другая, даведаўшыся пра кнігу, папрасіла французскі ўрад паведаміць пра яе дакладней. Адказ французскага ўрада быў надрукаваны толькі ў 1839 годзе ў пецярбургскай газеце «Сын Отечества». У лісце да імператрыцы рэймскае Евангелле апісвалася гэтак: «Рукапіс на тонкім пергаміне ін-кварта, у абкладзе з каштоўнага дрэва і чырвонага маракена, аздоблены залачоным срэбрам і крышталём, пад якімі схаваны рэліквіі з сапраўднага Крыжа Гасподняга і шматлікіх святых. З рагоў — выявы са срэбра, пакрытага эмаллю,— арол, мужчына, леў, вол — знакі чатырох евангелістаў. Астатняя частка абкладу запоўнена каштоўнымі камянямі... Над двума тэкстамі, пісанымі глаголіцай і кірыліцай, сталася звычаем прамаўляць урачыстую прысягу ў каталіцкай царкве. Сярод скарбаў царквы ў Рэймсе ёсць і тэкст Евангелля меншай каштоўнасці, над якім каралі пры каранаванні прамаўлялі прысягу да таго, як Латарынгскі кардынал перадаў царкве гэты асобнік».

Славянскае Евангелле знікла падчас Французскай рэвалюцыі, праз два гады яго знайшлі, але без цудоўнага абкладу, каштоўных камянёў і рэліквій. Тэкст захаваўся нечапаны. У інвентары Рэймскай катэдры гэтае Евангелле апісваецца так: «Евангелле, пісанае двума шрыфтамі, ужываецца пры каранаванні». Пра частку каштоўных металаў, знятых з абкладу, згадваецца ў судовым пратаколе 1792 года: «Абклад кнігі Евангелля, пісанага дзвюма мовамі, вагою тры маркі, сем унцый, чатыры граны». Каштоўнасці былі перададзеныя фінансавым агентам Французскай рэспублікі. Сам рукапіс вернуты катэдры — ён захоўваецца і дагэтуль у муніцыпальнай бібліятэцы французскага горада Рэймса.

Евангелле, пісанае глаголіцай і кірыліцай, пабываўшы на Русі Яраслава Мудрага, выправілася больш за дзевяцьсот гадоў таму ў Францыю як каштоўны дарунак, як рэліквія, як знак узаемнае павагі. І не пра тое вядзецца, што багаты абклад папоўніў скарбонку Французскай рэвалюцыі. Галоўнае — найкаштоўнейшы ўзор стараславянскай кнігатворчасці захоўваецца ў далёкай краіне.

## ШТО Ў ПАМЯЦІ МАЕЙ

...Лютаўскай ноччу рабавалі царкву на Гродзеншчыне. У рукі злачынцаў трапіла і Евангелле сучаснага друку ў багатым срэбным абкладзе. У абрабаванай царкве, на шчасце, засталася незаўважаная старая кніга без абкладу з тытульным аркушам: «Друкаваў Іван Фёдараў у Маскве».

Старадаўнія літары, словы, думкі... Што яны ганьбярам нацыянальнае гордасці, ворагам маралі. Адламалі б і кавалак сцяны з фрэскамі, дык не падняць, не знесці...

Вочы, панурыя, засяроджаныя, пыхнулі, няздодна глядзелі колькі імгненняў і згаслі.

Зноў вузкі прамень святла расхінуў морак. Высокае думнае аблічча. Тонкі нос, сціснутыя вусны, вочы, маляваныя старадаўнімі часамі невядомым майстрам, выказвалі непахіснасць. Можа, за першаўзор майстру быў беларускі сялянін з ладнай барадою, суровы, дужы, звыклы да працы, здольны без ваганняў пайсці на смерць за свой край, за сваіх дзяцей.

У цемры глуха і злосна кінута слова: «Рві!..»

Абраз моцна трымаўся за царкоўную сцяну, лом уядаўся ў старое дрэва. Лёгкі трэск спыніў гвалт.

— Ты, морда, фарбы пасыплюцца! Рукамі рві, раскачвай крукі.

...Беларускі сярэднявечны абраз — самабытная з'ява ў жывапісе. Яна ўвабрала ў сябе простасць і адухоўленасць вобразу, цікавасць мастака да чалавека, яго жыцця, радасцяў і нягод. Цікавасць, што прывяла да росквіту партрэтнага, «парсуннага» жывапісу...

— Тут нейкі крыж... Вялікі...

— Адрывай...

...Чые толькі рукі не дакраналіся да халоднага металу за доўгія гады асвячэння. Напрастольны крыж бераглі ад злодзеяў, выстаўлялі для агляднання падчас святаў, пра яго гаварылі ў суседніх вёсках, параўноўвалі са славутымі крыжамі вялікіх прыходаў.

Хто ведае пра лёс Крыжа Ефрасінні Полацкай? Узор старажытнай беларускай культуры пакінуў нам майстар Лазар Богша. На загад полацкай князёўны Ефрасінні ў 1161 годзе быў зроблены крыж. З усіх бакоў абклаў яго Богша залачонымі і срэбранымі пласцінкамі з каштоўнымі камянямі і аздобіў арнаментам, а на іх — дванаццаць выяў святых, выкананых балоністай эмаллю.

Ці не цягнуліся калісьці лапы рабаўнікоў, ліпкія ад страху за расплату і ад бязмернай сквапнасці, і да Крыжа Ефрасінні?..

— Крыж прыкаваны. Дай ломік...

Віскнула жалеза.

— Крыж гнецца, не магу адарваць...

Ужо ўдвух яны завіхаліся з ломікам, рвалі жалезныя палоскі, што моцна сціскалі напрастольны крыж.

— Пасвяці сюды. Возьмем гэтыя кубкі і кандэлябры.

— А люстру?

— Не дацягнешся. Без лесвіцы не возьмеш.

— Даскокну.

У паўзмроку кінуўся ўверх цень, павіс пад купалам невысокай драўлянай царквы, пачаў тузацца ўсё мацней.

Хруст, сапенне, злыя крыкі маглі б напалохаць выпадковага прахожага, магчыма, спыніць яго, неяк спыніць вандалаў. Але засведчыць не было каму — вакол цемрадзь, снег, дрэвы.

Рабаўнікі ўжо забыліся на страх, што іх могуць заспець на месцы злачынства: яны зрывалі хрустальную люстру ў царкве вёскі Гальшаны, складвалі ў мяшкі металічныя кубкі, напрастольны крыж, срэбраную дараносіцу, драўляныя і металічныя іконы, кандэлябры.

Пакаранне прыйшло потым. Судовая калегія па крымінальных справах Гродзенскага абласнога суда прысудзіла С. Лісіцкага, В. Гамулевіча, О. Гінцэвіча, А. Басая, А. Лабетка, В. Жыгуна да розных тэрмінаў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці за крадзеж з касцёлаў і цэркваў у Лідскім, Іўеўскім, Іванаўскім, Івацэвіцкім, Ашмянскім, Шальчынікайскім (Літоўская ССР), Шчучынскім, Воранаўскім, Навагрудскім раёнах...

## ЭПІДЭМІЯ СКВАПНАСЦІ

Свет сутыкнуўся з надзвычай вострай праблемаю — масавым выкраданнем нацыянальных культурных каштоўнасцей. У міжнародным крымінальным бізнесе крадзеж твораў мастацтва штогод узрастае на чвэрць, уступаючы па сваіх маштабах толькі такой яго галіне, як гандаль наркотыкамі. Крадуць у Заходняй Еўропе і Амерыцы — з цэркваў, касцёлаў, музеяў, зразаюць карціны, разбіваюць вітрыны са старажытнымі прадметамі, і ўсё ідзе ў прыватныя калекцыі за велізарныя грошы. Мала таго, замежныя бізнесмены шукаюць сцяжыны да нашага багацця і знаходзяць памагатых — царкоўных рабаўнікоў.

За мяжою падлічылі, што толькі пяць працэнтаў украдзенага ў музеях і цэрквах удаецца вярнуць уладальнікам, усё астатняе бясследна знікае ў кладоўках «скупых рыцараў» — багатых скупшчыкаў крадзенага. Створана нават міжнародная падпольная арганізацыя, праз якую рэалізуюцца ўкрадзеныя каштоўнасці. Пра маштабы яе свечаць даведнікі, што выдаюцца ў Нью-Йорку — «Міжнародны даведнік украдзеных каштоўнасцей» і «Штогодні паказальнік украдзеных твораў мастацтва», якія штомесяц папаўняюцца свежымі дадзенымі.

Дырэктары буйнейшых карцінных галерэй і музеяў ЗША прынялі рашэнне экспанаваць у будучым толькі копіі карцін старых майстроў. Арыгіналы ж мэтазгодна адпраўляць у спецыяльныя музейныя фонды і захоўваць пад сямю замкамі.

Нацыянальнае багацце, помнікі культуры робяцца разменнаю манетаю на рынках Англіі, ЗША, ФРГ, Даніі, Бельгіі, Францыі, Італіі. Грошы і толькі грошы фармуюць маральны кодэкс людзей, якія прымаюць рашэнне звязаць сябе са злачынным бізнесам.

## СПОВЕДЗЬ

Калі ў М. Пазнякова спыталіся на судзе: «Чаму вы абкрадалі цэрквы?» — ён адказаў: «Я з гадоў юнацтва аддаў сябе барацьбе з рэлігіяй». Калі Пазнякова арыштавалі, у тайніку знайшлі абраз «Маленне аб кубку», украдзены ў навагрудскім храме, музейную калекцыю халоднай зброі, абразы «Серафім Сароўскі», «Панцеляймон», «Пакрова», украдзеныя ў Баранавіцкім раёне і ў адной з вільнюскіх цэркваў. Група Пазнякова нарабавала каштоўнасцей на 100 тысяч рублёў, сума ні ў якім разе не дае нам уяўлення аб сапраўднай вартасці рэліквій.

Дзевяць тамоў справы вызначылі і меру пакарання — ад чатырнаццаці да двух гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. А ў сувязі з заявао Пазнякова на судзе пра тое, што ён краў рэчы, якія належалі касцёлам і цэрквам, а не дзяржаве, спрабуючы тым самым вызначыць сваю дзейнасць як антырэлігійную, патрабуецца тлумачэнне.



29 кастрычніка 1976 года ў нашай краіне прыняты закон «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры». Яго палажэнні атрымалі сваё пацвярджэнне і ў артыкулах 27 і 28 Канстытуцыі СССР.

Дзяржаўны кантроль за аховаю і выкарыстаннем помнікаў гісторыі і культуры ўскладзены на Саветы народных дэпутатаў і спецыяльна ўпаўнаважаныя органы. Царкоўная маёмасць, у тым ліку і прадметы культу — роспісы, абразы, рукапісы і друкаваныя выданні, вырабы з каштоўных металаў,— разглядаюцца як уласнасць дзяржавы. Гэтая маёмасць стаіць на ўліку ў выканкомах гаррайсаветаў і толькі перададзена ў бясплатнае карыстанне вернікам. Гэтая пазіцыя была адлюстравана яшчэ ў ленінскім дэкрэце ад 23 студзеня 1918 года «Аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы».

Каму ж, як не народу, належыць абраз Параскевы-Пятніцы — выдатны твор беларускага жывапісу ранняга перыяду, абраз архангела Міхаіла (XVI ст.), сотні іншых бясцэнных твораў, напісаных невядомымі мастакамі, асобнікі старажытнаславянскай і беларускай пісьменнасці, графічныя лісты — усё гэтае наша багацце, наша гісторыя і культура? Дзе ж яшчэ знойдзем мы вытокі свайго быцця, як не ў гэтых дарагіх нашай памяці прадметах? Каму, як не нам, занесці і апусціць карны меч на махнатыя лапы сквапнасці?

Таму адназначны сэнс закладзены ў пасланні, поўны тэкст якога варта даць тут:

**«Міністру ўнутраных спраў БССР генерал-лейтэнанту Піскарову В. А.**

**Паважаны Віктар Аляксеевіч. У апошні час у храмах Мінска-Беларускай епархіі меў месца шэраг выкраданняў прадметаў царкоўнага начыння, якое з'яўляецца культурна-гістарычнай спадчынай нашага народа. Органамі МУС былі прыняты адпаведныя меры па прадухіленні падобных з'яў, выяўленні злачынцаў і вяртанні ўкрадзенага.**

**Мы з радасцю даведаліся, што абсалютная большасць выкраданняў раскрыта і царкве вернута ўкрадзеная культавая маёмасць.**

**Вялікую ролю ў раскрыцці злачынстваў і вяртанні ўкрадзенага па прыналежнасці адыгралі работнікі вышку. Просім прыняць нашу ўдзячнасць за бескарыслівую працу па ліквідацыі адмоўных з'яў у нашым грамадстве і ўмацаванні ў свядомасці людзей гуманістычных прынцыпаў сацыялістычнай законнасці.**

**Мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт».**

Гэтае пасланне стала экспанатам музея беларускай міліцыі.

Але яшчэ адзін музей звязаны з тэмаю ўратавання культурна-гістарычных каштоўнасцей. Размешчаны ён у цэнтры Брэста, у старой сядзібе на вуліцы Леніна.

Пагранічны горад і работнікі таможні прадухілілі вываз тысяч абразоў, чаканных кубкаў, настольных скульптур, партрэтнага і пейзажнага жывапісу, твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Пра абразы асобая размова: выкананыя ў розных стылях выдатнымі майстрамі, яны выстаўлены ў Брэсцкім музеі, каб яшчэ раз напомніць людзям: гістарычная памяць ператвараецца дзялкамі ў грашовы эквівалент. Што ім да нашай гісторыі?

# ПРАВЫ ХУК,
## або ВАРЫЯЦЫІ НА ТЭМУ НЕСПАРТЫЎНАГА ЖЫЦЦЯ

Павел ЯКУБОВІЧ

Памятаю, як усе мы абмяркоўвалі перыпетыі таго матча...

Тэафіла Стывенсан вокамгненна разыграў сваю любімую камбінацыю, якую нават вопытныя сапернікі заглыналі, бы рыба кручок, не клапоцячыся пра вынікі. Вытанчана, быццам у румбе, ён зрабіў «сайдстэп», крок у бок, даверліва паказаў, што будзе біць левай па корпусе, і рэзка, без падрыхтоўкі прабіў справа ў сківіцу.

Такі ўдар заспяваў знянацку, як тэлеграма пра няшчасце... І заўсёды «праходзіў», гэты каронны ўдар чэмпіёна.

А тут здарылася неверагоднае — правы хук Стывенсана вострым мачэтэ рассёк паветра, і непараўнаны цяжкавагавік, страціўшы раўнавагу, уткнуўся тварам у канаты.

Як «чэчака», зялёны пачатковец, што месяц назад надзеў пальчаткі.

У зале засмяяліся. Стывенсан пачуў гэты смех, напружыўся, на яго медальна спакойным твары жорнамі захадзілі жаўлакі. Ледзь пахістваючыся, ён выйшаў на сярэдзіну рынга, не збіраючыся больш ужо цырымоніцца з «маладзёнам», паказваючы позіркам, што на карту пастаўлены яго прэстыж і рэпутацыя, выратаваць якія можна толькі накаўтам. Вялікі трэнер Сагара, звычайна спакойны, бы алімпіец, зрабіў жэст, як рымлянін у Калізеі,— зрынь яго!

Хто б мог падумаць, што ўсё будзе так нечакана ў баі знакамітага Стывенсана і дваццацігадовага баксёра з савецкай каманды, невядомага не толькі журналістам, але і самому Сагара, з яго фантастычным банкам памяці на ўсіх патэнцыяльных Стывенсанавых сапернікаў?

...Ішоў час. Прабіў фінальны гонг, і рэферы развёў баксёраў па кутках. А пераможцы фактычна не было. Суддзі, вядома, аддалі перамогу Стывенсану — хто мог сумнявацца ў яго перамозе нават у такім роўным паядынку? Але сам ён быў змрочны як хмара. Вялікія баксёры ведаюць, што паміж нявыйграным і прайграным боем розніца ілюзорная...

А малады баксёр з Беларусі быў перапоўнены радасцю.

Шчыра кажучы, да выхаду на рынг ён пабойваўся. Тэафіла — колькі прыходзілася чуць пра ўраганныя пальчаткі кубінца і яго бранябойныя ўдары. А выйшла вунь як... Трохі асцярожнасці, уважлівасці і работа «насустрач». Галоўнае, вядома, не захапіцца, паспець на імгненне апярэдзіць... Што б там ні было, а сваім боем з «самім Стывенсанам» ён мог быць задаволены. Да таго ж, трэнер зборнай Арцём Лаўроў сказаў пасля гонга:

— Малайчына, Саша!

А гэта азначала, што вароты ў казачна запаветную для кожнага баксёра краіну, якая называецца «зборная», для яго прыадчыніліся.

Нядаўна я зноў глядзеў відэастужку таго бою, і здавалася, што ўсё гэта было толькі ўчора... А сёння, у пакоі начальніка аддзялення абласнога АБКС, пра тыя хвіліны не хочацца ўспамінаць, дый не верыцца, што гэты прыкметна пагрузнелы, але ўсё яшчэ статны мужчына быў некалі спартсменам, рыхтаваўся да міжнародных матчаў, выступаў супраць Стывенсана. Сёння ён вядомы ў зусім іншай іпастасі і ў гэты кабінет прыйшоў па справах, далёкіх ад спорту. Зрэшты, калі быць дакладным, яго запрасілі позваю.

— Будзем лічыць гэтую нашу «мірную сустрэчу» апошняй,— сказаў гаспадар кабінета, малады маёр, дарэчы, сам з былых спартсменаў, які некалі выступаў за вобласць па валейболе,— не адумаешся, прыйдзецца гаварыць інакш.

— Ды годзе ўжо,— раздражнёна махнуў рукою былы баксёр,— не трэба мяне вучыць. Вы дакажыце спачатку, злавіце, а потым вучыце.

— Потым будзе позна,— змрочна сказаў маёр. Ён узяў позву, нешта крэмзануў на ёй, працягнуў наведніку квіток. Той акуратна склаў яго, устаў і, не развітваючыся, выйшаў.

— Вось табе і «надзея беларускага бокса»,— памаўчаўшы, сказаў маёр.— Не зразумею: быццам і трэнеры, і ў сям'і вучылі яго аднаму, а робіць другое. Нехта з нашых пажартаваў нядаўна: маўляў, што з яго ўзяць, на рынгу галаву адбілі, вось і штукарыць. Гэх, калі б усё было так проста. Гэты хлопец зусім не дурань. Ведаем, якую прафесію ён цяпер выбраў. Чуў пра тое, як «бамбяць» фарцоўшчыкаў, «ставяць на вушы»? Дык слухай.

І шматвопытны маёр расказаў мне некалькі гісторый з жыцця спартсменаў, гісторый, якія вядуць адлік з тае хвіліны, калі здаровы малады хлопец, узяўшы ад спорту галоўнае — уменне хутка бегаць, моцна біць або вокамгненна кідаць цераз сцягно, пераконваецца, што не наканавана яму стаць чэмпіёнам свету ці Алімпіяды, а значыцца, трэба «завязваць» і шукаць штосьці больш фундаментальнае. Як кажуць, на ўсё астатняе жыццё. Увогуле, гэта драматычныя дні для спартсменаў. Пра чэмпіёнаў паклапоцяцца, прыладзяць дзе-небудзь, а вось пра яго, «надзейнага залікоўца», сяржанта вялікага спорту, наўрад ці... Усё трэба рабіць самому. І абіваць парогі аддзела кадраў, і думаць пра тое, як павячэраць, бо талонаў ніхто не выдасць. Увойдзем у становішча гэтых людзей, таму што сапраўды цяжка вось так хутка і без праблем выйсці з ціхамірнага паўпрафесійнага статуса і зажыць звычайным жыццём, з аглядкаю на равеснікаў, якія паспелі ўжо — пакуль ён скакаў, бегаў і баксіраваў — знайсці сваё месца ў гэтым звычайным жыцці.

Працэс сацыяльнай адаптацыі заслугоўвае асобнай размовы хоць бы таму, што датычыць многіх маладых людзей, якія апынуліся з-за размытасці мяжаў «прафесійнага» і «аматарскага» спорту дзесьці пасярэдзіне паміж рэальным і прыдуманым жыццём. Гэтая размытасць у гады юнацтва абяцала ім адны радасці і задавальненні, але бліжэй да сталасці выявілася ў праблемах, звязаных з вучобаю, працаўладкаваннем, і галоўнае, выявілася ў неабходнасці разлічваць не на трэнера і ўплывовых мецэнатаў, а толькі на сябе...

Пераход ад няспынных святаў да будзённасці шмат каму даецца нялёгка.

Як вынік, у апошнія гады пацвердзілася досыць трывіяльная ісціна: калі малыя праблемы замоўчваюцца, яны абавязкова перарастаюць у вялікія... Вырабіўшы амаль што канвеерным метадам легіёны дужых хлопцаў з эластычнымі мускуламі, стойкімі, але інфантыльнымі звычкамі, грамадства асудзіла сябе на вострую неабходнасць лічыцца з такой рэальнасцю — з'яўленнем устойлівых груп з былых спартсменаў, якія былі разбэшчаны рознага роду ўзнагародамі і прывілеямі за служэнне спорту, а цяпер не могуць перажыць іх страту, ці, дакладней кажучы, змену бесклапотнага жыцця на звычайнае працоўнае.

Гэта гучыць трохі абстрактна, а калі канкрэтызаваць, дык многія былыя спартсмены сталі шукаць тайныя сцежкі да дарогі, на якой панавала б, як і раней, бесклапотная весялосць. Што яны маглі прапанаваць? Вельмі далікатны тавар. І, як высветлілася, хадавы — свае трэніраваныя мышцы, імгненную рэакцыю і бясстрашнасць, народжаную ў спартыўных паядынках.

Выявілася, што ўсё гэта можа добра аплачвацца.

Гадоў пяць таму як анекдот расказвалі пра знакамітага «паўцяжа» Алега Каратаева. Павесіўшы пальчаткі на цвік, ён стаў зарабляць па дзесяць тысяч рублёў у месяц плюс штодзённыя вячэры ў самых фешэнебельных рэстаранах. Усё гэта — за невялікія паслугі буйнейшым карцёжнікам Масквы. Алег адкрыў новую (ва ўсякім разе, у нашай найноўшай гісторыі) спецыяльнасць — ён «выкалочваў» пазыкі. За ўзнагароду. Адно з'яўленне Каратаева на ганку ў даўжніка выклікала ў таго калапс — калі трэба было, «паўцяж» біў акуратна, але адчувальна, адным словам — прафесійна. Бадай гэта было адзінае, што ўмеў рабіць Каратаеў, затое на сусветным узроўні. Яго патронам цяпер не трэба было траціць час на напамінанні аб пазыках. Усё стала нашмат прасцей. Босы покера былі задаволены. Каратаеў таксама — падобныя ганарары не сніліся яму ў дні самых гучных перамог на рынгу. Ён раз'язджаў па Маскве на «мерседэсе». Але аднаго разу Каратаеў не разлічыў — «кліент» апынуўся ў рэанімацыі, і за прафесійным «выбівалам» лязгнулі металічныя дзверы. Аднак... сарока з куста, а сем на куст. Прыклад заразіў многіх, і новая прафесія стала каціравацца высока — кандыдаты ў майстры спорту па дзюдо, боксе і нават класічнай барацьбе пачалі аб'ядноўвацца ў групы па абслузе «дзелавых людзей», якіх багата спарадзілі ціхамірныя гады застою, калі міліцыя апантана разганяла рады бабуль-кветачніц і заплюшчвала вочы на мільянераў-цэхавікоў, што ўваходзілі ў рэстараны не інакш як пад гром аркестра, які выконваў папулярны шлягер «Усё могуць каралі». Каралі маглі ўсё, але іх паўпадпольная дзейнасць вымагала целаахоўнікаў. З'явіліся цэлыя маленькія наёмныя арміі, якія не ўступалі ў кваліфікацыі і бязлітаснасці сямі самураям з фільма Курасавы. Крымінальная хроніка апошняга дзесяцігоддзя стракаціць войнамі паміж кланамі, крывавымі «разборамі», у іх мільгаюць прозвішчы, якія колісь фігуравалі на старонках спартыўнай прэсы. Памацнеўшы арганізацыйна і адчуўшы смак да новай прафесіі, «целаахоўнікі» сталі адпачкоўвацца ад босаў.

А навошта чакаць ганарараў, калі іх можна запатрабаваць ва ўчарашніх гаспадароў? Тыя ў міліцыю не звернуцца: сабе ж нашкодзяць. А дзесятак-другі тысяч яны аддадуць лёгка, памятаючы пра «кваліфікацыю» сваіх былых ахоўнікаў. Спартсмены — людзі кантактныя, таму новыя мафіі ўмелі знаходзіць агульную мову не толькі паміж сабою, дзелячы «зоны ўплыву», але нават і з міліцыяй.

Так і існавалі.

Адзін мінскі музыкант (нейкі час ён працаваў у «Песнярах») расказваў мне, што калі ён іграў у цюменскім рэстаране, то мафія аб'явіла пра тое, што ён павінен унесці ёй тысячу рублёў, папярэдзіўшы: «Гадзіннік уключаны». Гэта значыць, што з дадзенай хвіліны пачалі расці працэнты. Тры дні музыкант раздумваў, а на чацвёрты яго ўсадзілі ў машыну, адвезлі на могілкі і загадалі капаць сабе яму. Калі ён, халадзеючы ад жаху, выкапаў яе, то, нават не адчуўшы болю, апынуўся ў глыбокім накаўце (вось што значыць майстэрства!) і апрытомнеў праз некалькі гадзін. Назаўтра ён аддаў грошы. Пра тое, каб звярнуцца ў міліцыю, і гаворкі быць не магло — мафія ладзіла з ахоўнікамі закону. Усе гэта ведалі. Дзеля аб'ектыўнасці варта падкрэсліць, што за апошнія гады ў Цюмені становішча істотна змянілася, але маўчаць пра тое, што было, наўрад ці варта... Праўда, і ў тыя гады некаторыя задужа ініцыятыўныя дзялкі з экс-спартсменаў траплялі на лаву падсудных, але прэса пісала пра гэта неяк глуха і невыразна, як пра вынік «зорнай хваробы». Людзі дасведчаныя адно ўхмыляліся — якая там хвароба? Больш правільна было б гаварыць пра эпідэмію. Пандэмію кулака і непрыхаванага шантажу.

Але ні шэпт, ні ўхмылкі не маглі дапамагчы ўтаіць, што нарэшце мы дагналі не раз ужо выкрыты Захад яшчэ па адным паказчыку — займелі ўласную мафію. Адмыслова замаскаваную і шырока распаўсюджаную. Не такое ўжо вялікае, вядома, дасягненне, гаварыць пра яго нават і не прынята. Але трэба. Бо гэта — рэальнасць, у існаванні якой могуць не верыць толькі асабліва аптымістычна настроеныя або безнадзейна блізарукія ў сацыяльных адносінах грамадзяне.

Як часта нас падводзіць гэтая святая ўпэўненасць, што прастытуткі, наркаманы, мафія могуць быць толькі ў «іх». У «нас» іх няма, таму што быць не можа. Вядома, у нас няма сацыяльных прычын для арганізаванай злачыннасці, гэта так. Тыя ж былыя спартсмены маюць усе магчымасці для сацыяльна забяспечанага жыцця. Але маральныя пракосы, амаральная гульня ў «аматараў», якія з дзяцінства, лічы, жывуць на датацыю ад дзяржавы, прывялі да таго, што для многіх спартсменаў ясна толькі адно: пакуль малады — не грэх зарабляць грошы любой цаною. Думка гэтая, мяркую, выкліча шмат спрэчак, але, згаджаючыся з неадназначнасцю праблемы, хачу ўсё-такі прапанаваць будучым апанентам паразважаць і пра штангіста Арсланава, і пра баксёра Прэлоўскага, і пра многіх іншых.

Калі камусьці захочацца гаварыць пра тое, што гэта ўсё ж выключэнне, то, па-мойму, яны пацвярджаюць пэўнае правіла — тое, чым раней мы больш за ўсё ганарыліся (у здаровым целе — здаровы дух), сёння выклікае заклапочанасць.

Маёр з АБКС (як шкада, што пра сацыяльныя анамаліі мы па-ранейшаму даведваемся з «кампетэнтных крыніц», а не ад сацыёлагаў і грамадазнаўцаў) расказваў мне пра некаторыя будзённыя эпізоды з будзённага жыцця Брэста. Былыя спартсмены Стасюк, Тыманюк, Лагвіновіч, Самусік у лепшых традыцыях заакіянскага «рэкета» некалькі гадоў «бамбілі» мясцовых спекулянтаў, кантрабандыстаў і фарцоўшчыкаў-пачаткоўцаў. Называлася гэта вытанчана: «паставіць на вушы». Выкарыстоўваліся некалькі прыёмаў — ад простай «канфіскацыі тавару» да пераадзявання ў міліцэйскую форму. Сутнасць адна — грошы. Цынізм, спалучаны з энергіяй, загартаванай раней на трэніроўках, набыў такую сілу, што брэсцкія «дзелавыя людзі» лёгка раставаліся з часткаю тавару.

Не станеш жа біцца з прафесіяналамі? Толькі сабе нашкодзіш. Бескарысна і небяспечна.

Бясспрэчна, сённяшні Брэст — не Днепрапятроўск «эпохі застою»: тутэйшая міліцыя не ўвайшла «ў долю» з мафіяй. Наадварот, прыйшоў дзень, і былыя атлеты, бясстрашныя «выбівалы», былі адпраўлены ў ізалятар. Хоць і тут усё аказалася не так проста. Знайшліся хадайнікі, просьбіты, справа некалькі разоў пераходзіла з аднаго кабінета ў другі. Запалоханыя сведкі мяліся, адмаўляючыся ад паказанняў, «мафіёзі» таксама не спяшаліся раскайвацца.

Зрэшты, што б там ні было, прагучаў прысуд.

Але ці стаў ён той самай кропкаю, якою публіцысты любяць заканчваць аповяд? На жаль, на жаль... У тым самым Брэсце сёння зноў існуюць «акцыянерныя таварыствы» па «бамбардзіроўцы» фарцоўшчыкаў. І зноў так і хочацца закрычаць: «Ба, знаёмыя ўсё твары!» — таму што сярод іх багата вядомых у нядаўнім мінулым мясцовых спартсменаў, якія не маюць за плячыма дужа вялікіх перамог, затое добра засвоілі, што лепшы аргумент у жыцці — кулак. Шчыруе сярод іх і той самы баксёр, на якога колісь ускладалі такія вялікія спадзяванні, той самы, якога не змог адолець Стывенсан... Фарцоўшчыкі баяцца яго больш за ўсё, ведаючы: лепш не звязвацца...

І падсумуем некаторыя назіранні пра новую разнавіднасць індывідуальна-працоўнай дзейнасці — «выбівалаў». З імі сутыкаюцца не толькі ў Брэсце. Ёсць яны ў Мінску, Гомелі, Віцебску і іншых буйных гарадах. Вядома, іх пакуль не так шмат, і, можа, камусьці мая трывога здаецца залішняй. Але колькі ўжо разоў мы чулі, што лепш не запускаць хваробу. Потым яе лячыць цяжка. А дыягназ гэтай хваробы трэба ставіць не тады, калі былыя спартсмены становяцца на крывавую сцежку. Мы павінны больш уважліва прыглядацца да навабранцаў, якія пануюць у нашым дзіцячым спорце, на юнацкіх турнірах звярнуць увагу на розныя прыпіскі, «штучнае амалоджванне» юных талентаў, «падстаўкі». Ці ж не там спартсмены-пачаткоўцы атрымліваюць першыя ўрокі? І ці ж не таму многія з іх потым не вытрымліваюць экзамен на галоўнай дыстанцыі пад назваю Жыццё?..






## ЧАКАЮ ЛІСТОЎ

Я студэнт, мне 21 год. Захапляюся футболам і музыкай, жывапісам і літаратурай, псіхалогіяй і філасофіяй — усяго не пералічыш. На шчасце, не паддаўся згубнаму ўплыву застою і цяпер з гумарам і аптымізмам гляджу на сённяшні дзень, з надзеяй — на будучы, з жахам — на мінулы. Абяцаю адказаць кожнаму, хто напіша мне. **Уладзімір ОГНЕЎ. 220093, г. Мінск, вул. Д. Сердзіча, д 62, кв. 69.**

**Мне 18 гадоў, працую фатографам і хачу пазнаёміцца з людзьмі, якія захапляюцца фатаграфіяй.** Галіна ГРАЧЫХІНА. 220060, г. Мінск, вул. Р. Люксембург, д. 174, кв. 2.

Хацелася б пасябраваць з беларускімі аматарамі кнігі. **Валерый МЕЗЕНЦАЎ. 466200, Мангышлакская вобл., г. Шаўчэнка, 13-ты мікраараён, д. 50 «а», кв. 47.**

**Сёлета я здаю экзамены ў школе, але, нягледзячы на занятасць, адкажу кожнаму, хто мае патрэбу ў дапамозе ці проста захоча напісаць ліст. Люблю даглядаць жывёл і разводзіць кветкі, збіраю рэпрадукцыі карцін і трохі малюю сама, пішу вершы і захапляюся турызмам.** Ліля СНЯТКОВА. 210002, г. Віцебск, вул. Горкага, д. 57, кв. 4.

Мне 18 гадоў, вучуся ў тэхнікуме, захапляюся рокам і класічнай музыкай, займаюся атлетычнай гімнастыкай. Далейшае жыццё мару звязаць з арміяй. **Сяргей СТУДЗЯНКОЎ. 211408, г. Полацк, вул. Калініна, 16.**

**Мне 19 гадоў. Не магу сказаць, што я адзінокая — у маім жыцці былі і дыскатэкі, і кампаніі, былі і сябры, надзейныя і не вельмі. Я вясёлая і камунікабельная, таму лёгка знаходжу з усімі агульную мову. Хацелася б мець блізкага сябра.** Алена МАРОЗ. г. Мінск-68, вул. Карастаянавай, д. 25, кв. 2.

КОЛА ЗНАЁМСТВАЎ

**Мне 17 гадоў, я вучуся ў медвучылішчы. Вечарамі сяджу дома, таму што ў нашым Слоніме няма клубаў, дзе можна было б пазнаёміцца са сваімі равеснікамі. Спадзяюся з вашаю дапамогаю знайсці добрага сябра.** ЖАНА.

Усё жыццё мяне вучылі розным навукам, вучылі шыць і вязаць, быць сціплай і паслухмянай, любіць дабро і ненавідзець зло. Вось толькі не навучылі, як будаваць асабістае жыццё і быць шчаслівай. Мне хутка 25 гадоў, а надзея на шчасце амаль знікла. Хацелася б пазнаёміцца з добрым чалавекам, які не п'е. **НАТАША.**

**Мне 20 гадоў, я люблю чытаць, вязаць, гатаваць. Калі адзінота асабліва востра напамінае пра сябе, уключаю магнітафон і слухаю любімыя песні. Але часам находзіць такі смутак, што не ратуюць ні кнігі, ні вязанне, ні музыка. Вельмі люблю дзяцей і хачу мець сваю сям'ю, аднак няма побач чалавека, які стаў бы адзіным і неабходным.** ІРЫНА.

Я скончыла інстытут сельскай гаспадаркі, працую сакратаром парткома ў прыгарадным калгасе. Мне 38 гадоў, замужам не была. Умею смачна гатаваць, захапляюся лыжным спортам, люблю кнігі. Матэрыяльна забяспечана, маю кватэру. Хацела б пазнаёміцца з добрым чалавекам. **НАДЗЕЯ.**

**Мне 18 гадоў, жыву і вучуся ў г. Гродна. Пасля таго як страціла каханага, перастала ўсім і ва ўсё верыць. Вечарамі нікуды не хаджу, дый няма куды пайсці. Мару пра сябра.** МАРЫНА.

Вельмі хочацца пазнаёміцца з хлопцам, які мог бы стаць сапраўдным сябрам. Мне 18 гадоў, непрыгожай мяне не назавеш, дый для добрага чалавека важная не знешнасць, а характар. **ТАЦЦЯНА.**

## АЛЁ! Я — АДНА






# AIDS

# СНІД — міфы і рэальнасць

**90 000 хворых на СНІД, ад 5 да 10 мільёнаў носьбітаў гэтага віруса. Такія лічбы назваў Джонатан Ман, кіраўнік праграмы па барацьбе са СНІДам, распрацаванай Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя (СААЗ).**

...Сродкі масавай інфармацыі ЗША гавораць пра рост страху амерыканцаў перад гэтым захворваннем. У якасці пацвярджэння прыводзіцца прыклад. Зусім нядаўна палац у Лас-Вегасе, які належаў вядомаму піяністу Ліберачэ, хацелі б набыць многія мільянеры. Ліберачэ памёр ад СНІДа, і быў аб'яўлены продаж палаца. Але ніхто не асмельваецца пасяліцца ў гэтай «залатой труне» ў страху перад СНІДам. Цана на палац падае, але жадаючых набыць яго так і не знаходзіцца.

...Цэлую гадзіну па некалькі разоў на тыдзень у спецыяльнай перадачы буйны вучоны Эвэрэт Купер адказвае на пытанні тэлегледачоў.

Генеральны дырэктар СААЗ Х. Малер назваў СНІД «катастрофай маштабаў пандэміі». Вучоныя мяркуюць, што пік сусветнай эпідэміі прыйдзецца на 1990—1991 гады. У гэты час хворых будзе каля мільёна, а колькасць заражаных пераваліць за 10 мільёнаў як мінімум. Палова хворых памрэ. Не будзе перабольшваннем сказаць, што СНІД — гэта праблема праблем XX стагоддзя.

Мы спадзяёмся, што дапаможам чытачу зразумець: СНІД — не якаясьці медыцынская экзотыка ў далёкай і «таямнічай» Афрыцы і на «прагнілым» Захадзе, але, на жаль, рэальная небяспека, якая існуе і ў нас у краіне, у рэспубліцы, а таксама ўсвядоміць галоўнае: як трэба паводзіць сябе, каб не заразіцца і не захварэць на СНІД самому і зберагчы ад гэтага сваіх родных і блізкіх.

У ЗША, у Атланце (штат Джорджыя), існуе цэнтр па кантролю за захворваннямі (ЦКЗ), у які з усёй Амерыкі сцякаецца інфармацыя аб інфекцыйных захворваннях. Супрацоўнікі Цэнтра аналізуюць гэтую інфармацыю і кожны тыдзень выдаюць інфармацыйны бюлетэнь «Захворванні і смяротнасць». І вось у адным з такіх бюлетэняў у 1981 годзе з'явіўся невялікі артыкул, у якім была змешчана інфармацыя пра развіццё ў 5-ці маладых раней здаровых мужчын-гомасексуалістаў (педэрастаў) рэдкага пратазойнага захворвання — пнеўмацысцнай пнеўманіі, якая была выклікана шырока распаўсюджаным, але адносна бяскрыўдным прасцейшым. Асаблівасцю захворвання было тое, што яно набывала зацяжное, можна сказаць, злаякаснае цячэнне і заканчвалася смерцю хворага.

Праз месяц штотыднёвік паведаміў ужо пра 26 выпадкаў развіцця пнеўмацыецнай пнеўманіі. Выяўляецца таксама вельмі рэдкі від рака — саркома Капашы.

Нягледзячы на недасканаласць, распрацаваныя ўжо ў 1981 годзе дыягнастычныя крытэрыі адыгралі сваю станоўчую ролю ў вывучэнні СНІДа. Рэтраспектыўны аналіз выявіў наяўнасць першых нераспазнаных выпадкаў захорвання ў ЗША, краінах Экватарыяльнай Афрыкі і Карыбскага басейна яшчэ ў 1977—1978 гадах.

Такім чынам, на першым этапе даследаванняў было вызначана, што СНІД — гэта глыбокае паражэнне сістэмы клетачнага імунітэту чалавека, якое выяўляецца ў развіцці інфекцыйных захворванняў, што ўвесь час прагрэсіруюць, і злаякасных новаўтварэнняў.

Далей — болей: паведамленні пра падобныя захворванні сярод маладых людзей, пераважна з гомасексуальнымі схільнасцямі або наркаманаў, якія робяць сабе ўнутрывенныя ін'екцыі, набылі разнастайны характар. У сярэдзіне 1981 года ў ЗША было зарэгістравана 82 выпадкі СНІДа, а ў канцы — ужо 167 выпадкаў, пры гэтым 71 і 137 з іх адпаведна закончыліся смерцю. У далейшым колькасць хворых у ЗША стала падвойвацца праз кожныя 6—8 месяцаў. Апроч таго, яны сталі выяўляцца ў розных краінах на ўсіх 5-ці кантынентах планеты. Стала відавочным, што ў свеце ўзнікла новая, магчыма інфекцыйная форма імуннага дэфіцыту.

...Яшчэ зусім нядаўна — у 1981 годзе, калі СНІД упершыню быў дэталёва ахарактарызаваны ў якасці новага самастойнага захворвання чалавека,— ніхто і не чакаў такіх трагічных вынікаў. Лічылася, што СНІД — хвароба гомасексуалістаў і геаграфія яе распаўсюджвання абмяжоўваецца рамкамі аднае-двух краін. Аднак прагноз хутка быў скасаваны. Пачаўшыся з асобных выпадкаў у ЗША, гэтае, як высветлілася пасля, інфекцыйнае захворванне ў канцы 1987 года ахапіла ўжо 132 краіны, а колькасць асоб толькі з яго клінічнымі праявамі (гэта значыць, хворых) перавысіла 80 тысяч.

Дзе ж знаходзяцца гэтыя «гарачыя» кропкі? Аналізуючы інфармацыю пра геаграфічныя і дзяржаўныя межы развіцця пандэміі СНІДа і нераўнамернасці ахоплівання ёю розных краін, трэба мець на ўвазе два моманты: па-першае, сітуацыя мяняецца так хутка, што інфармацыя зазвычай старэе да моманту яе апублікавання, па-другое, прыведзеныя лічбы не заўсёды, напэўна, аб'ектыўна адлюстроўваюць сапраўднае становішча (колькасць хворых і вірусаносьбітаў), таму што не ва ўсіх краінах служба аховы здароўя мае магчымасць пра-

# AIDS

водзіць неабходнае для гэтага шырокамаштабнае абследаванне насельніцтва.

У СССР усяго выяўлена 4 хворыя на СНІД.

Якія ж існуюць шляхі і фактары перадачы гэтага цяжкага захворвання!

Галоўную ролю ў распаўсюджванні ўзбуджальнікаў СНІДа маюць полавыя кантакты з хворымі. Пры гэтым наяўнасць многіх полавых партнёраў рэзка павялічвае верагоднасць інфіцыравання (як і пры іншых інфекцыях, што перадаюцца праз полавыя зносіны). Неабходна падкрэсліць, што пры полавых кантактах паміж гомасексуалістамі інфекцыя распаўсюджваецца нашмат больш інтэнсіўна, што абумоўлена, напэўна, непасрэдным пранікненнем віруса ў крываток праз трэшчыны ў слізістых абалонках анальнай адтуліны і прамой кішкі. Пры гетэрасексуальных кантактах верагоднасць інфіцыравання здаровых людзей значна ніжэйшая і зводзіцца да мінімуму пры выкарыстанні мужчынамі прэзерватываў.

Узбуджальнікі СНІДа перадаюцца пры пераліваннях неправеранай крыві і некаторых яе прэпаратаў, а таксама пры паўторным выкарыстанні інфіцыраваных шпрыцоў і іголак. Гэта звычайна бывае ў наркаманаў, якія ўводзяць прэпараты ўнутрывенна, хоць можа мець месца і ў медыцынскіх установах пры парушэнні правіл апрацоўкі іголак, якія выкарыстоўваюцца для ін'екцый ці акупунктуры. Магчымая трансплацэнтарная перадача ўзбуджальніка СНІДа (гэта добра дакументавана эпідэміялагічным аналізам выпадкаў СНІДа ў дзяцей, якіх дасталі з маткі пры дапамозе кесарава сячэння) і перадача віруса ад хворай маці нованароджанаму дзіцяці.

Лічыцца доказаным выдзяленне віруса з арганізма са слінаю, слязою, потам, малаком маці, са спермаю. Наконт патэнцыяльнай небяспечнасці гэтых сакрэтаў спецыялісты выказваюцца па-рознаму. Адны лічаць, што канцэнтрацыя віруса ў іх нязначная і пры кантакце са слінаю ці слязою наўрад ці можна заразіцца. Другія мяркуюць, што, нягледзячы на нізкую канцэнтрацыю віруса ў гэтых сакрэтах, яны могуць быць прычынаю заражэння, асабліва калі яны трапляюць на пашкоджаную скуру ці слізістую абалонку.

Нядаўна было апублікавана паведамленне агенцтва Рэйтэр, што баксёры і барцы могуць перадаць заразу цераз сліну і пот. Гэта выклікала сенсацыю. Каменціруючы паведамленне, прафесар Р. М. Хаітаў заявіў, што найбольшая верагоднасць захворвання наступае пры парушэнні покрываў, калі адкрываецца прамы кантакт з крывёю. Гэта значыць, абодва спартсмены павінны быць параненыя, тады адзін заразіць другога. Але гэта малаверагодна. Што ж датычыць сліны, то канцэнтрацыя віруса там сапраўды невялікая. Спецыялісты мяркуюць, што так званы сацыяльны пацалунак — пры сустрэчы або развітанні — практычна не тоіць небяспекі, а вось пры пацалунку, які называюць сексуальным, небяспека ёсць.

Аднак найбольш інтрыгуючыя факты, якія сведчаць пра складанасць і шматступеннасць патафізіялогіі СНІДа, былі адкрытыя зусім нядаўна і абумоўленыя яны магчымасцю пярвічнага паражэння і працяглага ў часе персіставання віруса не толькі ў лімфацытах, але і ў клетках цэнтральнай нервовай сістэмы (ЦНС). Праведзеныя ў гэтым напрамку даследаванні паказалі, што імунны дэфіцыт, на які дактары і вучоныя звярнулі ўвагу перш за ўсё, з'яўляецца хоць і небяспечнаю, але ўсяго толькі адной з праяў інфекцыі чалавека вірусам СНІДа. Другім не менш важным вынікам заражэння з'яўляецца паражэнне ЦНС. Спектр неўралагічных праяў пры гэтай інфекцыі ад вострага менінгіту і падвострага энцэфаліту да хранічнага менінгіту і дэменцыі (вострай разумовай адсталасці). Найбольш частай клінічнай формаю паражэння ЦНС вірусам з'яўляецца разумовая адсталасць.

Такім чынам, падсумоўваючы вышэй сказанае, можна зрабіць выснову, што вірус імунадэфіцыту чалавека пазбаўляе інфіцыраванага не толькі імуналагічнай абароны, але і розуму, а затым і самога жыцця. У сувязі з гэтым аматарам «вострых» адчуванняў варта добра задумацца і зразумець нарэшце, што «сексуальная свабода» з'яўляецца па сваёй сутнасці простай распушчанасцю, як і захапленне наркотыкамі, а заняткі гэтыя не толькі амаральныя, але і смяротна небяспечныя.

**Анатоль КАЛАМІЕЦ,**
**Сяргей МАСЛОЎСКІ,**
**кандыдаты медыцынскіх навук**





ПРАЕКТЫ

Сяргей **КРАПІВІН**

# КРЭЙСЕР НА СВІСЛАЧЫ

У Мінску на стыку Нямігі і вуліцы Горкага ёсць мост цераз раку Свіслач. У розны час ён называўся па-рознаму, а ў нашыя дні абыходзіцца без назвы. Пад мостам і крыху ніжэй па цячэнні ў тоўшчы донных адкладаў сярод усяго ўсялякага знайшлі спакой:

Масянжовае стрэмя князя Глеба Усяславіча. Каля паўтары тысячы пасціраных і амаль новых падкоў, а таксама 113 шворнаў ад вупражных экіпажаў розных эпох. Каля сотні бомак і паддужных званочкаў, у тым ліку 3 — з надпісам «Даръ Валдая». Медны паштальёнаў ражок, пазначаны манаграмай Мінскай губернскай паштовай канторы. Ровар маркі «Россия» з «васьмёркай» на пярэднім коле. Дзесятак тракаў гусеніцы нямецкага танка Т-4. Запаснoе кола ад «віліса». Аўтамабільны нумарны знак з ініцыяламі МИМ.

Рыбацкія кручкі — касцяныя, бронзавыя, сталёвыя — 16 934 штукі. Каменныя, свінцовыя і іншыя грузілы агульнай вагою да 300 кілаграмаў. Тры дзесяткі астрог. Пешні — 18 штук, лодачныя качоты — 345, а таксама тульскі самавар прагулачнага тыпу.

Сякеры, пілы, далоты, рыдлёўкі, молаты, кавадлы, ламы выпуску XI—XX стст.— у колькасці, дастатковай, каб экіпіраваць адзін сапёрны батальён.

Канькі: канады, паўканады, дутышы, снягуркі і шэраг іншых невядомых тыпаў — 97 штук.

Крамнёвыя, масянжовыя, жалезныя наканечнікі стрэлаў, дзідаў, коп'яў, рагацін, пік — больш за 4 тысячы. Ядры каменныя, чыгунныя, свінцовыя — каля 3-х тон. Мячы, шаблі, ятаганы, эспадроны, шпагі, палашы, шашкі, сякіры, бердышы, булавы, алебарды, кінжалы, багнеты, цесакі, бебуты і інш.— да 900 адзінак.

Рэвальверы: дванаццацізарадны бельгійскі лефошэ, бульдог, 4 наганы і сміт-весан з адстралянымі гільзамі ў барабане — усімі шасцю.

Пісталеты: 5 крамянёвых, 8 парабелумаў, 4 вальтэры, па адным кольце, баярдзе, маўзеры, барэце, манліхеры, пара ТТ і адзін «макараў» са збітым нумарам.

Гіра-фунтоўка на сталёвым ланцужку. Тузін касцетаў, з іх адзін — тыпу «свінцовая пальчатка». У тры разы больш фінскіх нажоў.

Цыратавы мяшок з меднай ступай і рэшткамі невядомага.

Дзве пары распілаваных ножных кайданаў.

Узламаная касавая скрынка мінскага рэстарана «Чикаго».

Бутэлькі пустыя: чвэрці, штофы, паўштофы, шкалікі, бардоскія, рэйнскія, шампанскія, пльзенскія і шмат іншых тыпаў — больш як 7 тысяч.

Бутэлькі з закаркаваным змесцівам: па адной — каньяк завода Шустава, шампанскае Абрау-Дзюрсо ўраджаю 1895 г., сухое французскае віно «Сэн-Рафаэль»; айчынныя віны — «Гімрындскае № 9» і «Алазань № 13»; дзве чвэрці асобай маскоўскай разліву 1939 і 1967 гадоў; пара піва — заводаў «Баварыя» і Мінскага № 2; напітак «Бураціна» — 6, а таксама флакон адэкалону «Русский лес».

Срэбраны медальён з вывай вусатага мужчыны ў візітоўцы і гравіроўкай «Люби меня, как я тебя». Вочы на партрэце выкалаты.

Вечка каналізацыйнага люка з надпісам «З-дъ «Гигантъ» і 2 чыгунныя урны.

Тузін значкоў Усерасійскага нацыянальнага саюза і гэтулькі ж нумарных блях гарадавых.

Гардэробныя нумаркі: № 17 — вар'етэ «Акваріумъ», № 23 — рэстарана «Траецкае прадмесце».

Скураны жылет з металічнымі заклёпкамі (эпоха не паддаецца вызначэнню).

Гумовыя боты з штампам «Мінскметрабуд».

Шкляны куфаль з піўнога бара «Ясень».

Дзюралевы партсігар з папяросамі «Дукат» і запіскай «У гонар 5-гадовага юбілею арцелі «Чырвоны лудзільшчык» кідаю курыць навечна».

Срэбранае кадзіла, згубленае на малебне ад паводкі 1911 года кафедральным пратаіерэем а. Дзм. Паўскім.

Правая палавіна гармоніка Маладзечанскай фабрыкі музычных інструментаў.

Устаўная залатая сківіца мінскага паліцмайстра Д. Дублова, пры ўдзеле якое ён аднойчы, перагнуўшыся цераз парэнчы, пачаў быў прамову перад мяшчанскімі бабамі ўнізе: «Не смейце, мярзотніцы...» Аднак жа быў вымушаны закончыць так: «...палашкаць шподняе бліжка мошта!»

Дамская сумачка, у якой: пашпарт на імя Анжэлы Іванаўны Б-віч, 1970 г. нар.; 150 заходегерманскіх марак, 25 тысяч італьянскіх ліp, 12 капеек савецкіх грошай, упакоўка польскага дэзадаранту і пачачак індыйскіх прэзерватываў.

Манеты розных часоў і народаў: аболы, дынарыі, дукаты, піястры, шылінгі, капейкі, барацінкі, гульдэны, луідоры, злотыя, маркі, кроны і шм. інш. агульнай вагой 723 кілаграмы 437 грамаў. Медных і меднанікелевых манет савецкага перыяду — на суму 67 рублёў 98 капеек.

Калі б я ведаў, як з Гомельскага рачнога порта даставіць на Свіслач земснарад, я б падказаў каму-небудзь, што ўсё гэта можна лёгка выдабыць, сёе-тое рэалізаваць, а на атрыманыя сродкі пабудаваць ракетны крэйсер, назваць яго «Талака» і пусціць у выслабаненую акваторыю, каб ён ахоўваў подступы да Верхняга Горада.

**Пераклаў з рускай**
**Васіль СЁМУХА**

# Будзьце прыгожыя

> «Таня! Я мару стаць манекеншчыцай. Як гэта, напэўна, прыемна!»
> Анжэла БАРЫСАВА, г. Магілёў

На вуліцы гэтых дзяўчат абавязкова вылучыш у натоўпе. Яны стройныя, прыгожыя, іх паходка лёгкая і вытанчаная, яны з густам апранутыя і заўсёды элегантныя. Многія ведаюць іх па часопісах і паказах мод, рэкламе, тэлебачанні.

Прафесійныя манекеншчыцы — хто гэтыя дзяўчаты, якія заўжды «ў форме»! Чым яны займаюцца на сваёй такой незвычайнай і такой незразумелай многім працы!

У любой справе шлях да прафесіяналізму — вялікая і няспынная праца. Дзяўчыне, якая прыйшла працаваць манекеншчыцай, неабходна навучыцца многаму: трымацца і рухацца на сцэне, грыміравацца, пазіраваць фатографам, імгненна пераапранацца, быць заўсёды прывабнай, якія б ні былі самаадчуванне, настрой і клопат. Трэба быць актрысаю.

Рэпетыцыі паказу (па сутнасці, гэта сапраўднае прадстаўленне, аб'яднанае адзінай рэжысёрскай задумаю) могуць захапіць і вечар і выхадныя дні. А гадзіны фотаздымак, калі стомленай і галоднай пасля блуканняў у пошуках патрэбнага фону на прыродзе ці ў горадзе трэба бестурботна ўсміхацца ў камеру! А выязныя паказы ў выпадковых непрыдатных памяшканнях, дзе і ў паліто зімою не горача! А самі паказы, калі, распранаючыся за кулісамі на хаду, неабходна ўмомант змяніць мадэль, якая складаецца іншы раз з 3, 4 і больш прадметаў, змяніць абутак, дапаўненні, паправіць прычоску і паспець на наступны свой выхад, не забыўшыся і пра ўсмешку. І гэтак на працягу гадзіны! Паверце, сыходзіць сем патоў. Пры такіх нагрузках праблемы абмежавання ў харчаванні проста няма.

Манекеншчыца — першы глядач і, так ужо выходзіць, суддзя новай мадэлі. Мастаку і канструктару-мадэльеру важна не толькі бачыць гэтую мадэль, але і ведаць, як у ёй сябе адчуваеш. Мастак не саромеецца параіцца з дзяўчынаю, вобраз якой, магчыма, і натхніў яго на стварэнне гэтай мадэлі. Вось што піша ў сваёй кнізе «Такая зменлівая мода» вядомы савецкі мастак-мадэльер В. Зайцаў аб працы манекеншчыцы:

«Паказ — гэта самае складанае. Усё — паходка, міміка, жэсты — павінна «працаваць» на вобраз. Манекеншчыца — тая ж актрыса. Табе сумна, а ты павінна ўсміхацца. У цябе баляць ногі пасля шматгадзінных прымерак, а ты павінна прайсці па «языку» лёгка, танцуючы. Ужо вечар, мінуў цяжкі працоўны дзень, але ты не павінна паказваць сваю стомленасць, ты мусіш быць самай прыгожай у гэтай зале...

Манекеншчыца — стомленая і мілая. Добрая фея мадэльера... Муза мадэльера...»





# У АБ'ЕКТЫВЕ — ПРАГА



Фотарэпартаж Алега КАЗАВОГА

## РАЗАМ З НАМІ

## Ў АВАНГАРДЗЕ МОДЫ!

**Гэты заклік Беларускі рэспубліканскі Дом мадэляў трыкатажных вырабаў пацвярджае вострамоднымі навінкамі.**

**Слова за вамі — ВЫБІРАЙЦЕ!**

По заказу Беларускага цэнтра моды

Цана 25 кап.
Індэкс 74824